# Содержание

# ГЛАВА 1: Душа Мары

О, чараўніцтва восеньскага лесу!

Незлічонае хараство яго прыгажосьці, сумнай, самотнай, таямнічай. Празрыстае, нібыта струмені ледзянага ручая, паветра, стылае, як вада ў дрымотным возеры, што адлюстроўвае агаліўшаеся наваколле, кроплі, нібыта слёзы, на мокрых галінах – у начы прайшоў дождж. Але яго мокрае крысо толькі крыху зачапіла, не накрыла плашчом, не засыпала саванам-сьнегам. Гэта яшчэ ўсё наперадзе.

А зараз празрысты лес стаіць, задуменны, як гадзіньнік, стрэлкі якога прабілі адвечныя дванаццать, і спыніліся на колькі гадоў.

Ці вы бывалі ў сне, дзе адвеку стаіць такі задуменны гадзіньнік, застылы на памежжы паміж часамі, стаіць так, што нібыта гатовы зрушыцца наперад, але ж гэтае яго рашэньне яшчэ ня пэўнае, яшчэ нечага чакае. Ці не апошнюю хвіліну сну?

Блукаць па лясах Мары – якая асалода! Таемны твар багіні праступае ў высокіх нябёсах, хаваецца ў аблоках, ціха і пяшчотна нахіляецца сярод верхавін рэдкіх дрэваў.

Як далёка відаць! Здаецца, што ўвесь зямны шар агаліўся, распластаўся вялізнай картай, а ты – на высокім пагорку прама ў яго цэнтры, адкуль адкрываецца ўсё. Альбо вось-вось адкрыецца.

Так гуляе Мара – насылае відэньні краявідаў, якія могуць прыйсьці толькі ў снах, успаміны таго, чаго не было, тугу па таму, што прысьнілася.

Мара задуменна сядзела ля адчыненнага вакна. Лёгкае, халаднаватае паветра цякло ў пакой. Яна дыхала ім з асалодай. Прывілея быць багіняй – здольнасьць тварыць свае ўласныя міры. Мара любіла прахалоду і цішыню, якіх была раскоша ў яе каралеўстве. Толькі вецер мякка сьпяваў ды насьвістваў над верхавінамі, ды плыла па яго патоках крумкачыная стая.

Мара думала. Аб чым можа думаць багіня? Канешне ж, аб лёсах сьмяротных, за якія яна несла адказ. Бо ў абавязку багоў пісаць нам скрыжалі жыцця, кантраляваць іх выкананьне, ды калі-некалі ўносіць папраўкі дзеля адной ім вядомай мэты. Альбо ніякай мэты ў іх няма, і богі проста насалоджваюцца гульнёй з намі? Тое нам не вядома, ды і ня дужа цікава.

А вось Мару цікавіў Міхась.

Гэты адчаяны чараўнік ніяк не хацеў ёй скарыцца.

А чаму? Мара не разумела. Што яшчэ патрэбна яму акрамя ўвагі самой багіні сьмерці? Ці ёсьць на сьвеце нешта болей істотнае, чым яна, Мара? Тая, што стаіць ля калыскі, сустракая першай нарадзіўшаеся дзіця, і апошняя праваджае яго ў таямнічы пуць? Натуральна, для гэтакай справы ў Мары ёсьць Прысутнасьць. Гэта значыць, што ёй не патрэбна адначасова быць у розных месцах і займацца многімі мільёнамі справаў разам. Яе Прысутнасьць робіць усё, што заведзена ад сатварэньня сьвету, а Мара займаецца справай больш важнай – стварае міры, ды насяляе іх жыхарамі сваіх уласных думак.

Вось і зараз, у думках яе пачаў стварацца нейкі новы, цудоўны мір.

І цэнтрам яго быў Міхась.

Мысьленна Мара ўявіла сябе яго, якім яна бачыла Міхася апошні раз. Высокі, шыракаплечы, у белай кашулі, сьняжынкі плавіліся на яго гарачай скуры, а потым перасталі, і заставаліся зьзять бялюткімі кроплямі сьвятла, нібыта каштоўныя камяні.

У думках Мара працягнула руку, і дакранулася да яго шчакі. Потым апусьціла далонь туды, дзе білася сэрца.

Ад касаньня рукі сьмерці Міхась скалануўся. Але ж Мара хутка убрала руку.

Седзячы на кухне ў Летыцыі, Міхась раптам адчуў, як на хвіліну змрок захінуў яго позірк, і нешта ўладна грукнулася ў грудзі. Але адразу цень зьнік, і дзіўнае адчуваньне пакінула яго. Але ж застаўся нейкі эфірны пах – водар кветкі, імя якой Міхась падабраць ня мог – бо яе не было сярод усіх кветак гэтага сьвету.

Летыцыя напружана глядзела на яго – яна таксама нешта адчула.

Але ж час для пацалунка Мары яшчэ не прыйшоў.

Міхась накрыў руку Летыцыі сваёй далоньню. Ён вагаўся. Чаму ён вагаецца? Розьніца ва ўзросьце ў некальці сотняў гадоў? Ці яго сэрца яшчэ занята? Здаецца, што не. Так у чым жа справа?

Летыцыя таксама напружана глядзела на яго. Яна адчувала, што ім лепей пагаварыць.

- Я думаў аб табе ўвесь час, пакуль ішоў да Нікіфара. Нават на крыжы. Мне здаецца, што я кахаю цябе. Але ж как гэта здарылася, мне скаладана ўразумець ці растлумачыць.

- Гэта самае нягеглае прызнаньне ў каханьні, што я чула за ўсё жыццё, - усьміхнулася Летыцыя.

Міхась нялоўка паціснуў плячыма.

- Ну, неяк так…Ты ведаешь, што стаішь перада мною нібыта нейкі прывід. Я бачу цябе і ў сьне і наяве. Але ж калі я касаюся цябе ў думках, мая рука праходзіць праз сон – праз твой цень.

- Ці можа дакрануцца да мяне жывой? – мабыць, палягчэе, - у голасе Летыцыі праз гумар прагучэла нешта іншае, што амаль што здалося Міхасю пагрозай.

Ён разгубіўся першы раз у жыцці – а жыццё яго было доўгім і насычаным падзеямі.

- Абавязкова, але ж толькі не цяпер, - прамармытаў ён, чырванеючы. Сам ня ведая, чаго.

А Мара залівалася настаяшчым жывым і сардэчным рогатам – ёй было так прыемна назіраць гэтыя ваганьні.

Хутка ноч, а ноччу яна пануе і раскошаствуе ў сьненнях. Прыйшла чарга завітаць і да Міхася. А чаму не?

# ГЛАВА 2: Летыцыя і Алег

Пакінуўшы Міхася ў сваёй кватэры, і дамовіўшыся сустрэцца раніцой, Летыцыя вызвала таксі, і паехала да Алега.

Той жыў адзін у вялікай хаце, высокім лофце на паверхні новага будынка, з якога адкрываліся шыкоўныя віды старога горада.

Летыцыя любіла бавіць у яго час, піць каву, разважаць аб тым-сім, глядзець фільмы, хадзіць з Алегам гуляць па вялікіх зялёных парках.

Час з ім бег незаўважна, але ж хацелася, каб ён ніколі не скончаўся.

Мяккая сьветлая скура, залатыя валасы Алега вызывалі ў Летыцыі пачуццё дзіўнай пяшчоты. Ёй хацелася гладзіць яго па галаве, і пець калыханку, гледзячы, як гэты прыгожы хлапец засынае ў яе руках. Вядома, што яна вызывала ў яго іншыя пачуцці, але ж гэта было натуральна – мужчыны кахаюць ня так, як жанчыны.

Але ж сёння, засынаая на грудзі Алега, Летыцыя думала пра Міхася. Яна не магла ўявіць, як бы гэта было з Міхасём – ёй чамусьці станавілася крыху жудасна, і нешта ёкала глыбока ўнутры.

# ГЛАВА 3: Ноч Мары

Як хутка надыйшла ноч! Апынулася, што яна сядзіць на сваем улюбёнам крэсьле ужо ў прыцемках. Мара ўстала, і запаліла сьвечы. Канешне, яна магла б проста махнуць рукою, і яны бы загарэліся самі па сабе. Ці яна магла бы паклікаць Нікадыма, які распалажыўся на першым паверсе маёнтка – толькі дзёрнуць за вяровачку, ды ўнізе зазьвініць срэбны калакольчык, ці проста … услых падумаць.

Але ж ёй падабалася рабіць гэта ўласнымі рукамі – калі цемра яшчэ толькі напаўзае сваім мяккім пушыстым брухам, скрабецца па шыбах, але яшчэ ня прабралася ўнутр, не напоўніла сабой увесь пакой. Узяць чорны карабочак с запалкамі, падысьці да срэбнага падсьвечніка. Акуратна запаліць сьвечы – пачынаючы з самай вялікай наверсе, а потым – астатнія, з бакоў. Затым прайсьці да шырокага падваконьніка, і запаліць сьвятло і на ім. Хай гараць, вабяць падарожнікаў – сьвечы ў каралеўстве Мары, бачныя здалёк, манкія, ды недасягальныя, як сон.

Стоячы ля вакна, Мара задумалася. Яна падставіла свой бледны твар легкаму начному ветрыку, які пяшчотна абвяваў яе шчокі. Яе высокая фігура насупраць вакна нібы плыла над лесам. Уладальніца сьненьняў ды жыццяў чалавечых, аб чым яна марыла, сваянраўная багіня?

Міхась ляжаў на доўгай скураной канапе – як раз хапіла пад яго рост, галавой на пругкім скураным валіку бакавіны. Летыцыя пайшла, але абяцала раніцой зьвярнуцца з адзеньнем ды ежай. Усе гэтыя вандроўкі яго, прызнацца, надта выматалі. Скочыць з міра ў мір, з таго сьвета на гэты і абратна – тое пазбавіць сілы нават і бывалага ведзьмака. Стаміўся і ён. Дзіўна ўсё гэта было. І як хутка ляціць час. Чым больш яго праходзіць, тым хутчэй ён

рухаецца. Наперад, усё наперад. Нават чараўніку не пад сілу ўтрымаць яго, спыніць бег часу. Калі яму было каля сотні, то поры года ляцелі як хутканогія коні, зьмяняючы адна адну. Зараз так ужо ляцяць стагоддзі. Вось на двары пануе і дваццаць першы век. Падумаць толькі! Не пасьпеў аглянуцца, як ужо сышоў Напалеон, яго зьмяніў нейкі маленькі і вусаты чалавечак з Германіі, які прамільгнуў як надакучлівы камар, але ж справаў нарабіў! Міхась зморшчыўся, успамінаючы нешта цяжкое, балючае. Так, ён дапамог тады ім у лесе, парушыў правіла няўмяшальнасьці. Але хто б не парушыў?

Увесь час ён заракаецца прымаць удзел у гульнях сьмяротных, але ж калі некалі ня вытрымлівае. Да і ён, нарэшце, хто такі? Ня бог, ня дземан. Так, заблукаўшы паміж тым і гэтым сьветам чалавек. Прапашчая душа. Чараўнік. Вось жа лёс! Але ж другога Міхась ніколі не прасіў. Нічога ня жадаў і ня чакаў. Жыў, як жылося.

Жыў, пакуль ня сустрэў яе. І зноў яго цягне кудысьці, намячаецца нейкі круты паварот. Што за ім? Ці не такі жаданы канец? Канец гульні? Хто ведае… дарэчы, ці ён жадае, каб гэта гульня скончылася? Напэўна, не. Яна такая цікавая. Пакуль жывуць на гэтай зямлі людзі, ім будзе патрэбны Міхась. А яны будуць патрэбны яму. “Энергаабмен”, як зараз кажуць.

Міхась адчуваў, што правальваецца ў прыемны сон. Мара… мары, ды сьненьні… З гэтай апошняй думкай ён прасьлізнуў у цёплую, цёмную бездань.

Мара глыбока ўдыхнула сьвежае, стылае паветра. Яе валасы адкінуў назад парыў ветру, вочы ўспыхнулі драпежным жоўтым полымем. Вецер адкінуў край яе вэлюма далёка у глыбіню пакоя, абнажыўшы твар – прыўкрасны і жудасны, як сьмерць. Як мара. Перад яе вачыма пачало рабіцца нешта дзіўнае. Нейкі шалёны віхур утварыў чорную варонку у небе панад старым паркам, і крумкачы, спугаўшыся, кінуліся з крыкамі прэч ад

небясьпекі. Варонка рабілася ўсё большай, глухі вой ветра перарос у інфэрнальны стогн. Легкім напружаньнем волі сваім жаданьнем яна цягнула на сябе прастору, і з пустаты пачало тварыцца нешта – нібыта мост ці тунэль. Мара выцягнула наперад руку, і зрабіла крок на падваконьнік.

- Як гэта лёгка – пранікнуць у яго сьвядомасьць, - здзівілася яна. - Напэўна, ён чакае….

У сваім сьне Міхась ішоў па бяскрайніх верасковых пустках. Мясцовасць была пагорыстай, няроўнай. Здавалася, што ён узьнімаўся ўсё вышэй і вышэй. Вось яно, то, што ён шукае. Круг з высокіх, доўгіх камянёў – менгіраў. Яго паклікалі сюды, і ён сьпяшаўся. Сэрца Міхася бешана калацілася, гнала гарачую кроў па жылах. І калі ён падышоў, ён зразумеў: гэта была яна.

Мара стаяла перад ім, высокая, толькі на галаву ніжэй за яго, у простай чорнай шаўковай сукенцы, зацягнутая ў нізкі гарсэт. На яе белай скруры гарэў дыямантавы амулет – сімвал з дзьвух перакрыжаваных крыжоў, альбо рукаятак чатырох мячоў, якія зьліваліся ў адзінае зьзяючае кола. Яе чорныя бліскучыя валасы падалі цяжкімі пасмамі і губляліся ў траве.

На яе галаве простая срэбная дыядэма з паўмесяцам трымала доўгі празрысты вэлюм.

Міхась у каторы раз падзівіўся яе прыгажосьці – твар з вялікімі чорнымі вачыма, прамы крыху даўгаваты нос, мяккія, пачуццёвыя губы, высокія скулы – ён здаваўся ідэальным. Напэўна, няма такіх майстроў на зямлі, якія б маглі яго ўвасобіць, падумалася Міхасю.

А яшчэ ён адчуў нешта. Нейкі халодны жар, які ішоў ад яе, які рабіў цела Міхася мяккім, бязвольным, але ж поўным нейкага дзіўнага імкненьня. Яго мышцы зрабіліся нібыта каменнымі, сэрца забухала так, што гатова было выпрыгнуць з грудзей, і

Міхась зрабіў рашучы крок наперад.

Мара не падалася ад яго. Яна спакойна стаяла, і чакала.

- Я рада бачыць цябе, мой верны вой. Мой рыцар! Колькі часу прайшло з тых пор, як ты прынёс мне першы падарунак! Галаву таго тэўтона! Памятаешь? Ты зьнёс яе адзіным ударам. А ён быў такі прыгожы, белакуры, з залатой барадой. Зусім малады, але ж моцны, як вепрук, і хуткі, як хутканогі алень.

Я люблю такіх, як ты, якія прыносяць мне шчодрыя дары, павяргаючы вояў у Вальгалу. Мая гвардыя робіцца ўсё большай і большай, папаўняецца лепшымі ваярамі з усіх, якія жылі на сьвеце.

Ці ты бачыў калі дзікае паляваньне, калі яны скочуць, агалённыя да касьцей, у сатлелых дасьпехах, на сьпінах сваіх верных мёртвых коней? А за імі імчаць іх памёрлыя адзічэлыя псы? З воем і сьвістам яны лятуць па небу, і вецер праносіцца праз іх вачаніцы, сухія і пустыя. Яны прагнуць толькі аднаго – сьмерці. Колькіх яны яшчэ забяруць?

- Падыйдзі да мяне! – уладна вымавіла яна, і Міхась падпарадкаваўся бяз словаў.

Раптам твар Мары зрабіўся мяккім і летуценным, нібыта зазьзяўшы, асьвечаны нейкім дзіўным пачуццём.

Яна здавалася калыхаючымся чорным полымем. Празрыстая сукенка не хавала ад Міхася ніводнагаізьгіба яе цела – увасабленьня жаданьня. Толькі зараз ён зразумеў, як ён хоча яе.

- Так, ты звала мяне… - Міхась ня пазнаваў свой голас, які зрабіўся нізкім і хрыплым. І тут ён з жахам адчуў, як яго шырокія плечы становяцца яшчэ шырэйшымі, скура

пакрываецца поўсьцю, а язык ня памяшчаецца ў роце, які раптам напоўніўся доўгімі вострымі зубамі. Скручаны дзікім болем, ён упаў на калені ля яе ног, а калі паспрабаваў устаць, то стаў на чатыры лапы, і завыў.

Мара нахілілася, і пяшчотна пацалавала яго ў галаву паміж вострых вушэй.

- Бягі, мой любы, бягі! Скачы воўкам па верасковых пустках, па глухіх лясах і балотах!

- Хутка я прыйду да цябе, і наша сустрэча будзе дзіўнай, я табе абяцаю!

Увесь успацелы, з гукаючым сэрцам, Міхась усхамянуўся, і сеў на канапе. Перад яго вачыма ўсё яшчэ стаяла прыўкрасная бледная панна, якая пяшчотна гладзіла яго па шчаце. А потым ён заснуў сном бяз сьненняў.

# ГЛАВА 4: Летыцыя

Раніцой зьявілася Летыцыя. Як заўсёды, зрабіла каву. Яны пасьнедалі – галеты, вароныя яйкі, фрукты, пара сэндвічаў. Летыцыя прынесла Міхасю адзеньне – шырокія чорныя джынсы, куртка, зялёная ільняная кашуля – усе як ён папрасіў.

Міхась прыняў душ, Летыцыя нават прынесла нейкі дарагі парфюм – падарыла Алегу, а яму не спадабаўся, надта ж цяжкі і брутальны, - жартліва паскардзілася яна. – Табе будзе ў самы раз. Міхась перацягнуў доўгія чорныя валасы гумкай, падраўняў апаснай брытвай бараду. На яго з люстэрка глядзеў нейкі хіповы франт – ці то мастак, ці то музыка, падумалася яму. Але ж гэта добра, згубіцца ў натоўпе, і спакойна дабрацца да сваёй хаты. Ды ехаць ня вельмі хацелася. Ён чамусьці марудзіў.

- Яшчэ кавы на дарожку? – запытала Летыцыя.

Ён пагадзіўся.

Летыцыя кіўнула, зрабіла дзьве чашкі, а потым выйшла ў суседнюю комнату. Яе погляд прыцягнулі каралі ды вэлюм, якія ляжалі на яе ложку. Задуменна яна ўзяла іх. Каралі блішчэлі крышталёвымі пацеркамі, паміж якімі зьзялі маленькія срэбныя крыжыкі і паўмесяцы, упрыгожаныя каменьчыкамі, нібыта ільдзінкамі. Тонкі, далікатны ланцужок, якраз па яе шыі. Яна павольна адзела іх. Потым апранула вэлюм. Доўгі, з танчайшых карунак, ён закрыў яе твар па самыя вочы. Толькі губы былі бачныя. Яе чорная шаўковая сукенка з глыбокім выразам як нельга лепей пасавала да ўбраньня. Яна стаяла басанож на пухкам дыванке, і крыху прыўзьнялася на цыпачкі, каб лепей выглядаць у люстэрку. І тут дзьвер у пакой адчынілася, і ў яе прайшоў Міхась. Ня кажучы ні слова, ён абняў яе, і прыціснуў

да сябе. Яго губы мелі смак кавы і горкага мёду. Чорная пасмачка густых валасоў кранула шчаку Летыціі. Яго пах апьяняў яе, і пазбаўляў моцы супраціўленьня. І Летыцыя здалася нахлынуўшаму даўно стрымліваемаму пачуццю.

Іх нібыта закружыла дзікая віхура, якая кідала іх адно на аднаго, не давала дыхаць, апьяняла і ўнасіла прэч розум. Яны стаялі, хістаючыся, нібыта трымаючыся, каб ня быць зьнесенымі гэтым драпежным гарачым ветрам. А потым не змаглі больш трымацца, і ўпалі, зацягнутыя у яе шалёны вір.

Летыцыі здавалася, што яе цела працінаюць маланкі. Недзе далёка яна бачыла твар Міхася, які чамусьці выглядаў драпежным, скажонным, і тады яна зачыняла вочы. Яе крэпка трымалі яго цьвердыя, напружаныя рукі, інакш яна бы ўляцела, зьнесеная гэтым шалёным ветрам, прапала б недзе ў бясконцасьці.

Час спыніўся.

А калі ізноў пайшоў, яны ляжалі ў абдымках на яе ложку.

- Трэба ехаць, - прашаптала яна яму на вуха. Ужо час. І Міхась пяшчотна пацалаваў яе вочы.

# ГЛАВА 5: Нараджаньне

Якая ж ты сквапная, Мара! Забіраеш ты найлепшых вояў ды найпрыгажэйшых рыцараў у сваё каралеўства адвечнага спакою. Закрываеш ім вочы, і зводзішь за сабою ў свае харомы. Колькі іх ужо? Не пусьцее царства Мары, поўніцца і поўніцца яно натоўпамі маладых і старых, сталых і мужных. Усё больш і больш душ сыходзяць у царства Мары, але ж яшчэ больш выходзяць адтуль, нараджаючыся. Бо Мара таксама і багіня парадзіх, і малых дзяцей, якіх яна водзіць за руку, пакуль яны паміж гэтым і тым сьветам. О маці Мара! Маці сьненьняў у младенчай калыске, калі некалі мужны вой ізноў зьмяняе пахавальнае палатно на палатно, якім зьвіваюць малое дзіця.

Жанчына дзіка крычэла.

Крык яе заходзіўся над старым лесам, мятаўся параненаю птушкаю, ды губляўся ў чорным начным небе, дзе не гарэла аніводнае зоркі.

Стары акуратна дастаў люльку, набіў яе ашчадна табаком, засмаліў, ды са смакам зацягнуўся, трымаючы яе абодзьвума рукамі.

“Нічога, Ганна справіцца. І не такія роды прымала, і ўсё было добра. Да таго ж, яны адчынілі ўсё як трэба, паразьвязвалі ўсе вузлы, ды Ганна начытала ваду, якая стаяла гатовая, каб абмыць дзіцё. Стары быў упэўнены, што ўсё пройдзе як сьлед, таму спакойна пыхаў ды раз пораз паглядваў у старану лазьні, дзе адбывалася дзейства”.

"А гэты, доўгі, усё ходзіць туды сюды перад дзьвярыма, мячом

сваім трасе. Я яму ўжо казаў - хадзі ты ў хату, пасьпі. Каторую ноч ужо ня сьпіць. Усё нешта ці некага пільнуе... Не давярае, мабыць. Ну, нічога. Усё будзе добра. Ганна дзела ведае".

І стары ізноў смачна зацягваўся тытунёвым дымам.

"Ой, як добра! Хораша!"

"Ну вось, я ж казаў!" - і цішыню леса прарэзаў звінячы дзіцячы крык.

Ганна сапраўды добра ведала сваю справу. Яе лоўкія рукі прымалі, перавязвалі, перараззалі, абмывалі. Не старая яшчэ жанчына справілася не з адным дзясяткам родаў, ды і гэтыя не былі для яе чымсьці асаблівым.

Але ж калі яна ўжо трымала на руках младзенца, ды рыхтавалася палажыць яго, чыста вымытага,  да грудзі маці, то ледзьве не ўраніла яго, вохнуўшы, на пакрытую духмянаю травою падлогу.

Узьняўшы цельца да слаба смаліўшай лучыны, удакладнілася ў сваёй здагадцы.

На сцягне младзенца наяўна праступаў знак.

З павагай схілілася старая перад нованароджаным дзіцём. Зхілілася і вымавіла:

- Ты прыйшоў! Гой ты, ясен сьвет месяца, гой вы, чорны бор ды вольны віхур, гой вы ясныя зоры ды балотныя агні, маці вада ды бацька агонь! Гой, ды слава! Бо нарадзіўся ў нашай зямлі той, хто прыме стары пламень, які тлее, ды не загас. Які цяпер

будзе каму раздуць у жаркае вогнішча бацькі нашага Сварога!

Гой! Гой! Гой!

І тры разы ўзьняла яна яго ўгару, а лес у адказ на яе словы зашумеў, узрушаны віхурам.

- Ты павінен аддаць дзіця.

Чорная цень Нікадыма закрыла сабою дзьверы.

- Толькі паспрабуй узяць.

Міхась выставіў наперад меч.

- Ня рабі глупстваў, - голас Нікадыма быў таксама спакойным і цьвёрдым. - Ты ведаеш, што гэтае дзіця табе не належыць. Яно павінна быць з намі. Яна паслала мяне, каб я ўзяў яго і перадаў табе яе словы. Дзіця вырасьце ў краіне Мары. Гэта не звычайны чалавечы сын. Ён - сын багіні.

- А калі я не пагаджуся? - запытаў Міхась.

- Тады я буду вымушаны забраць яго сілай.

- Гэта пагроза?

- Не пагроза, а канстатацыя факта.

- А Летыцыя? Што будзе з ёю?

- Я скажу ёй, што забіраю дзіцё ў каралеўства Мары.

- Ты ей нічога ня скажаш, бо ты яго не забераш.

Голас прагучэў аднекуль збоку. І тут на сьвет лучыны з цені выйшла Ганна.

- Хто ты? - здзіўлена запытыў Нікадым.

- Я - дачка і жрыца самаго Сварога, апошняя з першых, ты, Цень чалавеку! Я - храніцельніца Свaрож'яга агню, які ты зараз паспытаешь, калі ня ўберышся прэч! Прэч адсюль, пякельная істота, ізыді ў цень і цемру! Там, дзе твая Панна, там табе месца.

- Я толькі весьнік, - спакойна адказаў былы чорт. - Калі вы не аддадзіце мне дзіця, паўтараю, што я буду вымушаны ўзяць яго сілай.

І тут ён рашуча зрабіў крок  наперад.

# ГЛАВА 6: Загнаныя Марай

Канешне, ён нікуды тады не паехаў. Дакладней, не паехаў адзін. Яны паехалі разам. Нейкім чараўніцкім пачуццём ён зразумеў, што яе яму пакідаць нельга.

У старым цягніку Летыцыя драмала, паклаўшы галаву на Міхасёва плячо. У той час як ён напружана думаў. Куды ім ісьці? Дзе схавацца? Што Мара не адпусьціць яго так лёгка, ён быў упэўнены. Заставалася толькі адно выйсьце - схавацца там, дзе Мара яго точна шукаць ня будзе. Ёсць тут адно месца, аб якім ня ведаюць нават богі.

І зараз яны накіроўваліся туды.

# ГЛАВА 7: У царстве Лесавіка

Усе загнаныя душы хаваюцца ў лесе. Лес прымае іх, ачышчае, ды дае абарону. Лес быў яшчэ да таго, як сюды прыйшлі багі. Спрадвечны лес. Таямнічы.

Яны выйшлі на маленечкай чыгуначнай станцыі - нічога няма, нават будкі. Проста прыпыначак пасярод бяскрайняга ляснога мора.

Па вузкай пясчанай дарожцы увайшлі моўчкі ў лес. Высокія хвоі самкнуліся ў іх над галовамі, укрылі ценью. А які прыемны стаяў тут пах! Як салодка дыхалася, на ўсе грудзі! Нічога няма смачнейшага за пах лесу, які абуджае здаецца самыя сакрытыя сілы, удыхае моц у кожную клетку цела, напаўняе нейкім містычным, радасным пачуццём.

Летыцыя трымала Міхася за руку, і яе маленькая далонька схавалася ў яго шырокай, цвёрдай далоні. Ён жа трымаў яе беражна, як малое птушаня, што зьнянацку выпала з гнязда.

- Гэта ўсё мне сьніцца? - ціхенька прашаптала яна.

- Гэта ўсё нам сьніцца, - адказаў ён.

Нарэшце, паказалаўся лужок, парослы духмянымі травамі, і за ім, на ўскайку леса - старая хаціна, з якой так многа ўсяго было зьвязана.

Міхась адчыніў дзьверы, і прайшоў у сенкі. Летыцыя за ім. У пакоі ён павярнуўся да яе, і прыцягнуў да сябе, гледзячы ў вочы.

- Мы застанемся тут? - запытала Летыцыя.

- Не надоўга, - качнуў галовой ён. І іх вусны ізноў сустрэліся.

***

- Што, Нікадым, прамяняў цябе твой верны сябар на чужую дзеўку?

Мара здзекліва глядзела на пануры Нікадымаў від, у той час як той апантана начышчаў зброю, разлажыўшы цэлы арсэнал пістоляў ды іньшых прылад вакол сабе перад камінам.

Яго гібкае цела напружылася нібыта пантэра перад скачком. Тугія мышцы пракаціліся пад скурай, як прыліўная хваля, ды ізноў аслаблі. Нарэшце, ён усталяваў цеціва, і адлажыў гатовы лук, якім толькі што старанна прыцэльваўся некуды у бок каміну. Напэўна, у драконаву пашчу.

Адлажыўшы свае прылады, ён павярнуўся да Мары, ды прыстальна глянуў у яе безьмяцежны белы твар. Яго вочы пыхнулі жоўтым драпежным агнем, чорныя кудравыя валасы рассыпаліся па шыі. Мара падышла, і палажыла руку на яго затылак, прыцягнуўшы яго галаву да сябе, ласкаючы. Нахінулася, і прашаптала, гледзячы зьверху ўніз:

- Затое я не аставіла цябе, і ніколі не пакіну.

Нікадым паволі ўзьняўся, і яго жоўтыя вочы апынуліся насупраць яе чорных, как ноч, вачэй. Жалезнай хваткай драпежніка ён схапіў яе празрыстае ўбраньне, і дзёрнуў яго ўніз. Тканіна лёгка паддалася, абнажыўшы плечы, і ўсё, што было ніжэй. Ён прыпаў вуснамі да яе белай скуры, і па іх

пацякла тонкая струйка чырвонай крыві, акрасіўшы іх у барвовы колер. Мара застагнала.

Ён рухаўся з нянавісьцю і жарсьцю, а калі скончыў, то чамусьці заплакаў.

Мара крэпка трымала яго калоцячаяся цела ў абдымках - пяшчотных абдымках Сьмерці.

- Ты так хацеў быць жывым, мой хлопчык, так хацеў зразумець людзей, і спасьцігнуць сутнасць каханьня, пазнаць яго смак. Ну што ж, іх міласьцівы Бог пачуў цябе, і каханьне было табе даравана. Ці ж ты шчасьліў, дараженькі?

***

Нікадым і Міхась стаялі насупраць, і прыстальна глядзелі адзін аднаму ў вочы.

А затым Нікадзім хутка рухануўся ў бок пакою, дзе ляжала малое.

Міхась апярэдіў яго, і закрыў сваёй сьпіною дзьверы. Нікадым спыніўся, і ўладна выцягнуў руку наперад. Меч, які трымаў Міхась, імгненна пасыпаўся крошкамі ільду.

Безаружны, ён тым ня мянш не зьбіраўся здавацца. Спакойна апусьціўшы рукі, ён глядзеў Нікадыму ў вочы, так як і раней замінаючы яму праход.

- А ты зьмяніўся, - проста вымавіў ён.

- Ты таксама, - суха кінуў Нікадым. - Калі прыўкрасная панна ці паненка паўстаюць паміж сябрамі, былым пачуццям ужо няма

месца. Дзеля ёй ты здрадзіў нашаму шматгадоваму сяброўству.

- Дзеля яе я жыву, - проста адказаў Міхась. А вось ты жывеш дзеля чаго, і каго?

Вусны Нікадыма скрывіліся, і нешта ціха вымавілі, але што, ніхто ў пакоі ня здолеў разабраць.

- Дай мне дарогу! - суха кінуў ён, і рашуча двінуўся да Міхася.

Але ж бойцы дзьвух сяброў ня суждена было адбыцца.

Бо паміж імі паўстала Ганна.

- Гэтае дзіця належыць Сварогу. Табе не загасіць у ім агню жыцця, Цень чалавека.

У голасе Ганны гучэла прыглушаная пагроза.

Сярэдняга росту плотная жанчына прама стаяла і глядзела ў вочы Нікадыма, засланяючы сабой Міхася і дзьверы ў пакой з парадзіхай і младэнцам.

Нікадым замёр, спынены гарачым позіркам яе яркіх блакітых вачэй. Сьветлыя косы Ганны былі перавіты срэбнымі ніткамі і ўкладзены высокай каронаю, пакрытай зьверху ільняной тканінаю.

На яе грудзях нібы зьзяў вышаты чырвоны знак - нябёснае кола са мноствам стрэлаў.

Яна выставіла наперад рукі, і Нікадым саступіў назад, пачуўшы паток гарачыні, які ліўся з яе далоняй.

- Глядзі, сын Цемры! Гэтыя рукі столькі разоў прымалі жыццё, колькі ў цябе валасоў на галаве, ды лісьця на вясновам дрэве! Жыва цячэ праз мае рукі, і яна мацнее, чым Сьмерць, якую ты ўвасабляеш, і якой служыш. Час ваш - Восень напрыканцы і Зіма, але ж зараз вясна пануе, і гарачы сонечны бог пляша ў сваіх нябёсных харомах. Вяртайся назад, да сваёй гаспадыні, якую ты абраў паннай, ды скажы ёй, што слова Сварога было першым, і яго агнявая далонь увазьлегла на галаву гэтага дзіця. Яно будзе юным сонечным богам, Сварожыцем, праменем, які будзе мець уладу на ўсімі сіламі Цемры да пары, якая прыйдзе ў свой час. Ідзі, і скажы тое Мары, бо я, сьветлая жана вялікага Сварога-неба, загадваю тое табе ў дзень вясновага раўнадзенства - паварота кола ды перамогі жыцця над сьмерцю. Ты спазьніўся, Цень. Ты размаўляў дужа доўга, і кола ўжо зрабіла свой паварот. Сыходзь.

Нікадым пахіснуўся, нібыта асьлеплены яркімі патокамі жывога сьвятла, якія пачалі струменіцца з Ганны, з усіх яе членаў, валасоў, адзеньня. Як само вясновае сонца стаяла яна, зьзяючы, і пад яе ўладай ён ня вытрымаў, і зрабіў крок назад, а потым яшчэ і яшчэ. Захінуўшы рукою твар, ён моўчкі абярнуўся прэч, ды ўсё ж пасьпеў кінуць позірк у бок, дзе стаяў Міхась, у якім чыталася многае.

- Будзе час, і мы яшчэ сустрэнемся, - шапнуў ён.

# ГЛАВА 8: Летыцыя

Рукі Міхася крэпка трымалі яе. Летыцыя востра адчувала лясны пах яго адзеньня, зусім прызрачны водар парфюму, цеплыню яго цела. У каторы раз яе ўразіла яго моц, напэўна, мужчыны такога складу ўжо павыміралі, як маманты, чамусьці падумалася ёй.

За яго шырокім плячом яна бачыла ўскраек лесу праз вакно ў хаце, з якога ўжо напаўзаў змрок. Але ж тут, на лугавіне, было яшчэ сонечна, і ціха. Апошні луч, нібы ліхтарык, прасьлізнуўшы праз шыбу, упаў на яе твар, і зрабіў аблічча Міхася яшчэ цямнейшым, асьвяціўшы яго чорныя валасы залатым арэолам.

Яна закрыла вочы, і аддалася яго цеплыні. Недзе ля яе шчакі сэрца Міхася глуха білася, нібыта ўдары грома за чорнай чашчай. Яго цела сатрасала пругкая пульсацыя учашчоннага дыханьня, якая рабілася ўсё мацнейшай - гэтак па яму бегла гарачая кроў.

Ён знайшоў яе вусны сваімі, і ў яе захапіла подых. Хата пачала кружыцца вакол, нібы карусель.

Як гэта адбылося, і што яны ізноў робяць тут, у хаце? Чаму яго рукі здымаюць з яе адзеньне, і яна ня мае ні моцы супраціўленьня, ні якіх думак аб тым, што будзе далей? Няўжо яе жыццё зьмянілася назаўсёды?

Алег, курсы вэб-дызайну, сталіца, кафэ, шпацыры...ўсё гэта было так далёка, стала такім няістотым.

Толькі рукі Міхася, якія рабілі сваю справу, ды цеплыня яго цела мелі над ёй уладу.

Цяпер толькі драўляныя сьцены хаціны аддзялялі сілуэты іх цел ад драпежнага подыху лесу - бронзавы яго, і белы як малако яе.

З пагрозьлівай увагай лес назіраў праз паўзавешаныя шыбы, што адбывалася ў маленькай дзеравяннай кабінцы паміж дзьвума людзьмі. А для іх гэта быў цэлы мір. Маленькая птушка, скочучая па раме звонку, нахіліўшы галаву, глядзела, як высокі цемны мужчына лёгка ўзьняў на рукі і панёс да ложку тонкае дзявочае цела. Доўгія, чорныя як ноч валасы дзяўчыны зьвесіліся з яго рукі шаўкавістым пакрывалам. Яго валасы закрылі яе твар, які цікаўнай птушке ня ўдалося разбачыць. Але ж хутка яна згубіла да іх увагу.

Ніколі і ня з кім ня мела Летыцыя той асалоды пачуцьця, як з Міхасём. Яго жарсьць была першабытнай, як гэты цёмны лес, як

грозны подых навальніцы, хада моцнага зьвера праз глыбіню лясных нетраў.

Раз за разам з кожным яго рухам ёй здавалася, што яна, напэўна, памрэ, таму што ў яе спыняўся подых і заходзілася сэрца. Яе стогн нагадваў стогн трапяткой лані, што стамілася бегчы, і асуджана прыняла першы ўкус ваўчыных зубоў.

Ей здавалася, што яе цела ёй ужо больш не належыць. Яна крэпка трымала Міхася за рукі, і ён рухаўся ўсё часьцей, пакуль ня скалануўся, як ад удара маланкай, а потым мякка апусьціўся побач з ею, накрыўшы яе, як вялікая хваля. Яна адчувала яго моцнае цела побач з яе тонкай і гібкай постаццю, на фоне яго цёмнай у сумерачным сьвятле скуры яе сцягно выглядала амаль празрыстым.

- Ты - як прамень месяца на паверхні пялёстка лілеі, прашаптаў Міхась ёй на вуха, і пяшчотна пацалаваў у шыю.

Але ж гэта ноч для нас ня час сну.

# ГЛАВА 9: Начныя прыгоды

Міхась калоў дровы. Калоў лоўка, можна сказаць – прафэсыйна. Яго рукі рытмічна ўзьнімаліся, і сякера апускалася на кругляк, які гучна трэскаўся, і тады паветра напаўняў прыемны смаляны пах. Елкі шумелі, хістаючы лахматымі галовамі, быццам бы падбадзёрвалі: “Так яго, так! Давай! Яшчэ разок!”

Гады жыцця на прыродзе, у лесе, навучылі яго шмат якім сялянскім справам. Яго рукі, застаўшыся шляхетнымі, далікатнымі, за гады валоданьня зброей і цяжкой працы набылі моц кавальскага молата. Быццам гуляючы, ён раздзелаўся з вялікім сасновым кругляком, і кінуў на калоду другі. Наколатыя дровы ляжалі вакол жаўтаватай духмянай горкай, і Летыцыя раз пораз насіла іх і складвала ў вялікую паленніцу. Ніхто яе не вымушаў, але ж так яна схацела сама.

Яны дабраліся да лесавіковай вёскі ўжо пад раніцу. А ноч сапраўды была дужа цікавай. Калі не сказаць – жудасна цікавай.

Яны ляжалі, зьнясіленыя, на ложку. Першай узьнялася яна. Стоячы перад вакном, за якім ужо густы прыцемак ахутаў лес, яна на хвілінку быццам бы аб нечым задумалася, і зьнерухомела. Срэбны сьвет месяца скальзіў па яе белай скуры, і Міхась ня мог адвесьці ад яе вачэй. Яе цела было ідэальным, якім толькі можа быць юнае цела жанчыны, не спазнаўшай радасьці і цяжара мацярынства. Стройныя доўгія ногі, тонкая талія, гладкія сьцёгны у сьвеце месяца выглядалі прызрачна белымі, зьзяючымі, як пэрліна. Густыя валасы нібы чорная рака сьцякалі, не хаваючы яе манячых ізьгібаў. Нахінуўшыся, яна падабрала вопратку, надзела пышную ільняную спадніцу, заправіла ў яе тонкую сьветлую кашулю з сабранымі рукавамі. Міхась, нічога ня кажучы, пільна глядзеў на яе. Яна памятала, што калі яны прыйшлі сюды, на ёй былі апранутыя сінія вузкія джынсы і валошкавага колеру мяккая байка. Але ж гэтае адзеньне зараз некуды зьнікла, і на яго месцы апынулася зусім іншае, але ж яно ёй вельмі падабалася.

- Туды, куды мы пойдзем, не прымаюць у джынсах і байках.

Міхась устаў з ложку, падыйшоў да яе ззаду, абняў за талію, і асьцярожна прыціснуў да сябе, нібы далікатную рэч. Ён нахіліў галаву, ўдыхаючы яе пах, і глыбока ўздыхнуў, убіраючы ў сябе пьянячы водар. Яшчэ раз прыпаў да яе валасоў, правёў па іх тварам, і скалануўся ад жаданьня. Ён ня мог болей трымаць сябе. Ён, хто прайшоў у жыцці праз такія выпрабаваньні, што ня сьніліся ні аднаму з сьмяротных за апошнія тысячы гадоў, мабыць, з часоў Атлантыды. Колькі ўсяго было ў яго жыцці – каханьне, жарсьць, забойствы, інтрыгі, доўгія гады забыцця, калі ён адрашыўся ад усяго ды жыў чараўнікам у глухім лесе. Калі прошлае яго каханьне апынулася дземанскім наважэньнем, то зараз ён упершыню ў жыцці адчуў, што такое сапраўднае, гарачае зямное каханьне – не дземанская мара, не туман, не гібель і адчай, а тое каханьне, што дае жыццё, нараджае яго і трымае сусьвет.

Ён п’янеў ад яе маладога цела, яе толькі што расьцвіўшага каханьня, якое для яе было першым сапраўдным, вялікім пачуццём. Яго каханьне было ўжо сталым, пачуццё вопытнага чалавека, мужчыны, які меў шмат жанчын, але ж зараз упершыню адчуў каханьне вострае, як лязо, і пяшчотнае, як рука маці. Ён крануў губамі яе шыю, палажыўшы рукі на талію, і яна абмякла ў яго абдымках, адкінуўшыся яму на плячо, як кінуты на паветра шаўковы шаль. Яна запракінула галаву, і ён апусьціўся ніжэй, туды, дзе паміж ключыцамі быстра пульсавала блакітная жылка. Хаціну ўжо амаль запоўніла цемра. Нейкім нутраным пачуццём Міхась разумеў, што ім нельга марудзіць. Нельга болей тут заставацца. Нешта рушылася. Яго чары болей ня дзейнічалі. Яны болей не баранілі іх ад наступу цемры. Тут было ўжо такжа злавесна, як і ў глухім лесе, і ён нібыта наяўна адчуваў драпежнае клацанье зубоў ды подых нейкага вялікага зьвяра, набліжаючагася да іх праз нетры. Пастурова ён губляў свой чараўніцкі дар. Але ж на яго месца прыходзіла нешта іншае. Нейкая другая моц, якая, ён адчуваў, калі ён атрымае яе поўнасьцю, будзе многа мацней за любое чараўніцтва, ваўхаўство ці ведзьмаўство. Ён адчуваў гэту моц, як нейкае глыбокае ўнутраннае сьвятло, пламень, што разгараўся, няўтаймаваны, ў цёмнай бездані яго сэрца. Дарэчы,

ён яшчэ храніў сваю тайну, і разумеў, хто ён. Разумеў, і баяўся сам сябе.

Калі ён авалодаў Летыцыяй, тая бура, што паднялася ў яго целе і душы, амаль што зьнесла яго, бросіўшы ў такую чорную бездань, што ён ледзьве затрымаўся на краю рэальнасьці. Яе белае цела, у якім пульсавала гарачая алая кроў, яе перарывістае дыханьне, адчай жарсьці, з якім яна яму аддавалася траха што не зрабілі яго тым, кім ён быў – драпежным зьверам, бязлітасным забойцай, на руках якога запеклася кроў дзясяткаў, ці ня сотняў жывых істот. Ён не лічыў. Ён проста забіваў. Забіваў на полі бойкі. Забіваў па загаду сваіх гаспадароў-магнатаў. Забіваў як чараўнік. І яго продкі таксама забівалі. Такое было жыццё. Падчас яму казалася, што ён проста тоне ў акіяне крыві, якая ўжо дасягае яго горла. І тады ён горача маліўся. Ды яго ня чулі. І вось, здаецца, пачулі. Але ж было яшчэ нешта. Яго драпежная прырода, калі зьвярыны рык быў гатовы вырвацца з яго горла, а мышцы наліваліся стальной нечалавечай моцай. І тады жарсьць, якую ён адчуваў, усільвалась у разы. Усільвалася, каб пераўтварыцца ў сваю процілегласць – самое Сьмерць. І тады ён бачыў перад сабой рагочучы твар Мары, з вуснамі, запечанымі крывёю, з гарашчымі вачыма, у якіх ён бачыў полымя пекла. Але ж яго сэрца прагла каханьня. Заўсёды. Ён ніколі ня скрыўдзіў ні жанчыну, ні дзіця, ні старога. На яго руках няма нявіннай крыві. Тыя, каго ён забіваў, самі праглі забойства. Ён жа прагнуў каханьня, вялікага, як жыццё, якое бы пераўтварыла яго і ачысьціла. Здаецца, ён атрымаў яго.

Стоячы ў цёмнай хаціне і захінаючы Летыцыю ад усяго сьвету і самое цемры, ён нібыта скамянеў, замёр, як жывая статуя, застыўшая ў апошнім напружаньні сілаў. Ён нікому не аддасьць яе. Калі яны заб’юць іх, то разам. Альбо, лепей, ён сам. І Міхась скалануўся ад гэтай думкі.

- Нам трэба ісьці, - шапнуў ён ёй на вуха, і намаганьнем волі адарваўся ад яе, ледзьве не застагнаўшы.

Узяўшыся за рукі, яны выйшлі з хаціны, і крочылі па дарозе ў бок ад яловага лесу, туды, дзе праз курганы іх чакаў стары хвойны бор, які быў бачны далёка за парослымі палявой травой пагоркамі – дзяўчына ў сэрэднявечным ільняным адзеньні і скураных ботах, і высокі цёмны мужчына ў сьветлай кашулі і скураной куртцы, няўзброены, але ж нябясьпечны.

Аграменны воўк на ускрайку лесу нюхаў паветра. Пахла неяк незвычайна – салодка, востра, проста казытала ноздры. Прыемны, смачны пах чалавечай крыві зьмешваўся з нейкім мускусным, незнаёмым водарам, што п’яніў і кружыў галаву. А побач з гэтымі манячымі пахамі блукаў яшчэ адзін – драпежны, пагрозны, які моцнай хваляй ударыў яго ў нос.

- Жанчына? – падумаў воўк. - Жанчына, так. Маладая. Смачная. Але ж хто з ёй… І гэты хтосьці яму ня падабаўся.

Высокі чорны чалавек выйшаў зь лесу, падыйшоў і стаў побач з ваўком, палажыўшы яму руку на галаву. Воўк ад задавальненьня зморшчыў пысу. Гэты высокі таксама панюхаў паветра.

- Ён! – вымавіў упэўнена, і, коратка – воўку – Давай! Хутка!

Воўк ірвануўся наперад, капаючы слінай. А чалавек раптам усадзіў з сілай нешта ў зямлю, і хутка перакуліўся праз галаву. Але ж на зямлю па-за нажамі апусьціўся ўжо не чалавек, а вялікі чорны воўк са срэбным амулетам на кожаным шнуры. На ім вісеў крыж Мары.

Нікіфар глуха стагнаў. Ланцугі расьцягвалі яго, не даючы нават паварушыцца.

Ён нагадваў “вітрувіанскага чалавека”, расьпяты на замшэлай каменнай сцяне тоўстымі жалезнымі ланцугамі. Яго галава ў каторы раз звалілася на цяжка дыхаючыя грудзі, якія зводзілі корчы ад болі ды смагі. Рукі і ногі дрыжэлі. Уся яго чараўніцкая моц была накіравана зараз на адну галоўную мэту – выжыць. Проста выжыць. Ён ведаў, што за ім прыйдуць. І ён упарта

чакаў.

Міхась і Летыцыя ўжо ня шлі, а беглі. Да соснаў ужо было не так далёка, калі Міхась вострым нюхам адчуў - ззаду нешта набліжалася. І набліжалася яно хутка. Ён раптоўна спыніўся, і, схапіўшы Летыцыю, схаваў яе за сваёй сьпіной, а сам стаў углядвацца ў густую цемру, якая клубілася за полем, якое яны толькі што перасеклі.

І раптам уладна шапнуў, але так, што Летыцыя адразу пачула: “Бягі!”, - паказаўшы ёй у бок сосен.

Летыцыя зразумела, і кінулася да бору.

І тут вялікі кудлаты воўк проста выляцеў з цемры, і кінуўся Міхасю на грудзі. Зубы драпежна клацалі, намагаючыся ўчапіцца яму ў горла, але ж Міхась схапіў зьвера за холку адной рукой, а другой рэзкім паваротам ад сябе зьвярнуў яму шыю.

Цела воўка абмякла, і звалілася на зямлю кулём.

Пераскочыўшы праз яго, Міхась зрабіў крок наперад.

Перад ім, выйшаўшы з глыбіні цемры, стаяў чалавек. Магутны, апрануты ў чорны скураны плашч, высокія чорныя боты са срэбнымі шпорамі. Твар яго хаваў нізкі капюшон. А на грудзі нешта зьзяла.

- Крыж! – зразумеў Міхась.

Крыж Мары!

- Нікіфар? – прамільгнула ў яго першая думка, але ж ён імгненна адкінуў яе. Ня той пах.

- Хто ты? – глуха прарычэў Міхась, робячы да незнаёмца яшчэ адзін, вялікі крок.

- Я? – незнаёмец зарагатаў. – Ці ж ты мяне забыў? Ну, добра. Я цябе напомню. Курган. Ноч. Касьцяны ваяр. Узгадаў? Дарэчы, дзякуй Нікіфару за амулет. Пахадзіў ён, аднак, кругамі.

- Што зь Нікіфарам? – суха кінуў Міхась.

- Вісіць. У склепе на чапі. А што ён думаў? Кланяцца крыжу … мы забівалі і за меньшае. А амулет прыйшлося забраць. Ды ён ужо і ня быў для яго годны ні на што. Бо хто паклоніцца крыжу, той можа не разьлічваць на дапамогу старых багоў.

- Ну, а як твае справы? Падзелішся дзеўкай? Яна ў цябе дужа прыгожая. Будзе добрая наложніца, калі скарыцца. А не, дык смачная ежа!

Міхась толькі узьняў брыво. – Гэтакі ты спрытны! – працадзіў ён праз зубы.

- Яшчэ адзін крок, і ты згубіш свой амулет. Бо ў цябе ня будзе шыі, каб яго насіць.

І яны адначасова рухануліся наперад.

Але ж тут здарылася нешта, што Летыцыя, якая лежала, зваліўшыся ў траву ля самага бору, запомніла на ўсё жыццё.

Яна амаль што ўжо дабегла да хвояў, але ж нешта не пускала яе. Як яна магла аставіць Міхася? Яму можа спатрэбіцца яе вядзьмарская падтрымка. Яна ня кіне яго аднаго. Ва ўсякім часе, бор недалёка, хвоі паўсталі ўжо проста ў яе за сьпіной.

І Летыцыя, схаваўшыся ў траве, асьмелілася глянуць назад.

Міхась і нейкі страшны чорны вой рушылі адзін да аднаго, але ж тут над лесам раздаўся такі злавесны рык, што Летыцыя ледзьве ня страціла прытомнасьць.

Міхась павёў галавой і дзьвінуў плячыма, нібыта яго адзеньне стала яму малое. І тут яна ўбачыла, што яго плечы раздаліся разы ў два ад чалавечых, чорныя валасы зьліліся з шыяй, і ўвесь яго сілуэт сказіўся, а потым Міхась ірвануў наперад. І гэта ўжо быў не Міхась.

Вялізны чорны воўк ірвануўся да пэрываратня, які не чакаў такога разьвіцця падзей. Ён ня меў часу перакуліцца праз нож, бо Міхась быў значна хутчэйшы.

- Ты здолеў? – толькі пасьпеў прахрыпець ён, і тут жа адляцеў, адкінуты нечалавечай моцай аграменнай лапы, якая была ужо ня чалавечай, але ж і не ваўчынай.

Але ж ён хутка ўскочыў на ногі, і тут жа кінуўся да Міхася. Каб атрымаць яшчэ адзін удар, на гэты раз у грудзі, і ізноў адляцець.

Летыцыя толькі бязгучна вохнула, адкрыўшы рот. Яна раптам быццам скамянела, сіла пакінула яе, і яна амаль што страціла прытомнасьць. І тут нечая моцная рука падхапіла яе, і нехта ўпаў побач з ёй ў траву. Прыпаўшы на калена, побач з ёю стаяў Нікадым.

- Ня бойся, ён справіцца, - прашаптаў ён. – Проста ляжы ціха. Але ж сам Нікадым астаўся напаўгатове, і ўпярыўся драпежнымі, гарачымі жоўтым вачыма ў цемру, дзе біліся дзьве істоты, якія ўжо перасталі быць людзьмі.

Нікадым схапіў Летыцыю за валасы, і прыцягнуў яе твар да сябе. - Прыгожая… - прамармытаў ён. Яна напугана і гнеўна

глядзела ў яго вочы. Твар Нікадыма нагадваў клясічнага грэцкага бога - прамы нос, пачуццёвыя губы, адрослыя курчавыя валасы абрамлялі яго. - Нечалавечая прыгажосьць, падумалася Летыціі. ... Цень чалавека, - чамусьці прыйшло ёй у галаву. - Так, значыць, цябе ён абраў... Нібы сам сабе вымавіў ён. ...Ну што ж... Яны стаялі на ўскрайку лесу, перад якім адбывалася бойка пярэваратней. Адтуль даносіўся сьвірэпы рык і роў. Нікадым прыціснуў Летыцыю да хвоі, і з нявыказанай мукай глядзеў ёй у вочы. Глядзеў прама, не міргая. Ад яго янтаровых вачэй Летыцыі станавілася жудасна. Яна ня ведала, што ёй чакаць ад яго. Раптам ён суха сказаў: - Распранайся. Летыцыя не паверыла сваім вушам. - Навошта? - запытала яна. - Тады мне прыйдзецца парваць тваё адзеньне, а ты ж не захочаш, каб ён даведаўся. - Даведаўся аб чым?! - з жахам запытала Летыцыя. - Аб тым, што зараз будзе, - крыва ўсьміхнуўся ён. - Здымай! Летыцыя ў апошняй адчайнай спробе вырвацца зрабіла рэзкі рух убок, але ж Нікадым крэпка трымаў яе. Яго дыханьне стала частым і цяжкім. - Яшчэ раз дзёрнешся, і я буду вымушаны цябе ўдарыць, - злавесна прашаптаў ён ёй на вуха. І пакінуць сякія такія знакі на тваёй прыгожай белай скуры. А ты ж не захочаш, каб ён убачыў іх. Бо тады ён ніколі болей не кране цябе. Я яго ведаю. Мяне ён паспрабуе забіць. Калі зловіць. А, усё роўна... І Нікадым нешта сглытнуў. - Ну дык што? Я чакаю. У цябе паўхвіліны. І ён яшчэ мацней уціснуў яе ў ствол. Летыцыя моўча зьняла кашулю і спадніцу, застаўшыся поўнасьцю раздзетай. Цемнай ноччу, у лесе, пад хвояй ...і з кім? - раптам падумалася ёй. Нікадым цяжка дыхаў, трымаючы яе за плечы. Яго рука знайшла нешта ўнізе, што яму спадабалася, і Летыцыя ледзьве падавіла крык. Яна адчувала, як яго пругкае, цвёрдае цела бьецца аб яе ў сударагах, і запракінула галаву, каб ня бачыць яго твар. Калі ён скончыў, то цяжка дыхаў, стоячы побач з ёй, апершыся на дрэва. А потым нячакана прыціснуўся вуснамі да яе вуснаў, і глыбока пацалаваў. - Я хацеў гэтага з таго моманту, ў люстэрку, - раптам прамовіў ён. Падняў і кінуў ёй ў твар адзеньне. - Апранайся, ён ужо падыходзіць. З гэтымі словамі ён разьвярнуўся, і хутка зьнік у лесе. Ад паляны да яе праз чашчу ішоў акрываўлены, стомлены Міхась. Міхась наблізіўся да яе, цяжка дыхая, шырокім крокам. Яго валасы былі растрапаныя, ад рубахі засталіся адны клоч'я, цела пакрывалі глыбокія раны. Але ж было відавочна, што ў гэтай

бойцы перамога засталася за ім. - Ты тут? Добра! - хрыпла, незнаёмым, нейкім нізкім голасам вымавіў ён, і раптам пахіснуўся, ледзьве ня ўпаў на яе сваім вялікім целам, але ж пасьпеў схапіцца рукою за дрэва. Ніколі яна ня бачыла Міхася такім. Ён сарваў з сябе рэшткі рубахі і стаяў агалёны да пояса. Яго грудзі ўздымаліся як кавальскія мяхі. Падышоў да яе, і крэпка ўзяў за плечы, гледзячы ў вочы. Пільна ўглядваўся ў іх, а затым незнаёмым нізкім голасам вымавіў: - Мне гэта патрэбна. З гэтымі словамі ён сьцягнуў з яе адзеньне, і падхапіў на рукі. Летыцыя не супраціўлялася. А потым яны пайшлі далей, і да ўсходу ўжо падышлі да вёсцы.

Нікадым стаяў паміж хвояў, і сьціснуўшы зубы глядзеў на іх. Яго вострыя кашачыя вочы бачылі здалёк, і бачылі ў мяльчэйшых дэталях.

Ён бачыў, як падыйшоў Міхась, як Летыцыя аддалася яму, і як яны разам крочылі некуды прэч.

… Так, ён цяжка дыхаў, але ж стараўся сябе ня выдаць.

Крэпка схапіўшыся рукою за танюткі ствол маладой хвоі, ён вымушаў сябе глядзець. Бо ён ня мог прапусьціць момант, калі яны скрыюцца, таму што тады трэба будзе выкарыстоўваць нюх, а з гэтым спосабам пошуку ён ня вельмі сябраваў.

Ён разумеў, што пераўтварэньне Міхася адбываецца паступова, і зараз ён чалавек ня больш чым на палову, калі толькі звонку. Знутры ў ім драпежная істота баролася з чалавечым сэрцам, і яму было ня лёгка ее перамагчы. А далей будзе ўсё цяжэй і цяжэй. Чым болей пярэваратні перакідваюцца, тым складаней ім зьвяртацца назад да чалавечай суці. Некаторыя так і застаюцца людзьмі звонку, але ж ваўкамі ўнутры. А некаторыя назаўсёды застаюцца ваўкамі. Асабліва вяліка рызыка, калі, перакінуўшыся, пярэварацень забівае. Тады шанец вярнуцца ў чалавечы від зусім мізэрны. На сваім вяку Нікадым аб такіх

выпадках чуў вельмі рэдка. Нават калі гэта ім удавалася, яны заставаліся зьвярамі ў душы назаўсёды – вернымі слугамі цемры. Як той, з кім зараз біўся Міхась. Чалавек звонку і зьвер унутры. Самы страшны з ваўкалакаў, такі, што яшчэ не насіла зямля.

Нікадым унутраньне скалануўся. Нават яму, былому чорту, стала неяк жудасна.

Ён таксама разумеў, што Міхась не забіў свайго супрацоўніка. Бо і Міхась таксама гэта ведаў.

Але ж цяпер Міхасю была патрэбна яе энергія, для таго, каб хутчэй зьвярнуцца, зачапіцца за край гэтага сьвета. Бо такая бойка магла на гады, ці ня болей адкінуць яго ў цемру, і ў мясцовых лясах зьявіўся бы яшчэ адзін жорсткі драпежнік, ды яшчэ з чараўніцкімі здольнасьцямі і чалавечым розумам.

А зараз Нікадыма кідала з краю ў край бяздоннага эмацыйнага мора. Нешта гакала ў яго ўнутры, ападала, і ізноў узьнімалася, кідаючы яго на вострыя камяні адчаю, і зноўку зносячы да глыбінь пачуцця. Ён спрабаў утрымацца на паверхні, узяць свае эмоцыі пад кантроль, але ж ізноў і зноў нейкі шалёны эмацыйны вір зацягваў яго туды, дзе нельга было дыхаць, як бы ён не змагаўся за свой розум.

Гэтая дзяўчына. Якую ён убачыў у люстэрку. О, ён памятаў яе белы твар, вялікія вочы, чорныя, як ноч, упрыгожаныя доўгімі павейкамі, як яны глядзелі на яго, расшырыўшыся ад жаху … і жаданьня… так яму здавалася тады… Потым ён зразумеў, што гэта было ня так, але ж тады… Міхась у выглядзе старога выглядаў для яго нават забаўна. Ды ён заўсёды любіў жарты. Хітрыкі. Як цяпер кажуць – мастацтва сталкінгу, пераапрананьня, зьмены аблічча і манераў, і вось табе – дзед! У той час, калі моцы і энергіі Міхася мог пазайздросьціць любы юнак. Пярэваратні не старэюць. Сівеюць, так. Некаторыя. Але ж яны назаўсёды астаюцца маладымі, поўнымі сілаў. Гэта іх адрозьнівае ад звычайных людзей, мудрыя з каторых лёгка

вылучаюць пярэваратней, ваўкалакаў ды чараўнікоў па іх незвычайнай несуадноснасьці між узростам і відам.

І зараз сэрца Нікадыма разрывалася паміж імі – яго гаспадаром, і гэтай юнай феяй, скура якой здавалася такой белай і празрыстай на фоне лясной цемры.

Ён узгадваў, як уваходзіў у яе, адчуваў яе гарачую плоць і чуў ціхі стогн. Яе пах апьяняў яго – пах мёду і траваў, вастраты і горачы. Ён ня ўтрымаўся і ледзьве не пакінуў на яе мяккай белай шыі свой адмысловы знак. Але ж ён абяцаў. І ён вытрымаў сваё абяцаньне. Яго сэрца разрывалася паміж каханьнем і сяброўствам, паміж цемрай і сьвятлом. Але ж у ім было больш цемры, і ён гэта ведаў. Нягодны з яго апынуўся чалавек. Сгвалціў дзяўчыну. Яна аддалася яму пад прымусам, ад жаху, што Міхась даведаецца аба ўсім. Ды ён жа кахае яе. Даўно ўжо кахае. Але ж і ня толькі яе. Што яму рабіць? Цень… пракляты… цацка мары. Які лёс!

Ён пільна глядзеў, як Міхась сарваў з Летыцыі адзеньне, як узьняў яе на рукі, як яго шырокія моцныя грудзі хадзілі ад цяжкага, гарачага дыханьня, чуў яго глухі стогн, калі ён скончыў.

Мара загадала яму.

“Гэтае дзіця! Пільнуй яго, храні дзяўчыну, пакуль яна не народзіць. А потым выйдзі зь цені, забяры яго і прынясі мне!”

Ён бязслоўна падпарадкаваўся загаду. Верна выконваў. Да гэтай пары. І ён не адступіцца, і працягне выконваць яе даручэньне. Але ж цяпер было яшчэ нешта. І ён гэта ведаў. Яно прымушала яго рухацца з падвоенай энергіяй. Бо цяпер да яго абавязку далучылася яшчэ адна адказнасць.

Цень.

Я не пакіну цябе.

Як усё пераблытана ў жыцці! Усе канцы перакручаны.

Быў чортам, служыў Міхасю. Стаў чалавекам, пакахаў дзяўчыну. А зараз ён і ня ведае, хто ён. І каго кахае.

Але ж трэба ісьці, бо Міхась ужо скончыў, і стаіць, цяжка дыхая, расправіўшы грудзі лясному паветру, а Летыцыя апранаецца, і зараз яны рушаць далей!

Ня марудзячы, Нікадым пасьлядаваў за парай, адзеньне якой ужо прызрачна бялела ў глыбіні лясной цемры. І толькі чорны, спалены нечалавечай эмоцыяй ствол хвоі з абугленым адціскам рукі нагадваў тое месца, дзе ён быў.

# ГЛАВА 10: Прытулак пасьля прыгод

Яны хутка рухаліся праз заліты месячным сьвятлом гушчар. Міхась ужо амаль што прыйшоў у сябе, і яго раны пачыналі балець, а сьпіну адалявала стома, яго доўгія валасы зьвісалі пасмамі на акрываўлены лоб, але яму было ўсё роўна. Ён думаў пра Нікіфара: “Не скарыўся!”, думаў пра Летыцыю, як яна з ім? Ці ж гэта ёй было патрэбна? Куды ж ён яе ўцягнуў? І яшчэ ён пачынаў разумець нешта. Нешта вялізнае, і вельмі істотнае. Яе пах зьмяніўся. Ён наяўна адчуваў яго моцным нюхам ваўкалака. І ў ім з’явілася нешта новае. Нешта, што мяняла ўсё яго жыццё, палохала яго, але ж і прыдавала неверагоднае моцы.

Летыцыя таксама аб нечым думала, ішла моўчкі, трымаючы Міхася за шырокую далонь.

Нарэшце, пасярод хвояў паказаліся хаткі.

Яны падышлі да першай хацінкі на ўскрайку, і Міхась уладна грукнуў у дзьверы. Яму адразу адчынілі. Маленькая жанчынка правяла яго ў пакой, дзе насустрач ім узьняўся сагнуты стары з доўгай сівой барадой.

- О, ты прыйшоў! – радасна вымавіў ён, нібыта даўно чакаў Міхася. – Ды не адзін? Ну, усё, будзе маёй Альжбэтке кампанія!

- Да ты праходзь, праходзь! Ганна, рыхтуй баню! Ты глядзі, які … ну і ну! – стары аглядваў Міхася ды толькі разводзіў рукамі.

- А дзе гэта ты? Зь кім? Ці ў бойцы пабываў? Ну, бачу, бачу… Але ж добра вы біліся…

- Да ты што, што ты, што ты, Ганна, хутчэй сюды!

Яны ледзьве пасьпелі падхапіць ваяра, які амаль што зваліўся на падлогу, ды ўсадзілі яго на шырокую лаву. Летыцыя ціхенечка стаяла збоку, не перашкаджая. Ганна, усьміхнуўшыся, падышла да яе.

- Вітаю цябе, дачка, у лесавіковай хаце! Будзь як дома, не саромься. Міласці просім! – і міласьціва нахіліла галаву.

Летыцыя, зьбянтэжаная, падзяквала яе, і запытала:

- Ці ж я магу чым дапамагчы?

Ганна, аглядаючы яе, толькі пакачала галавой.

- Вой, дзетка, ня думаю я. Хто б табе дапамог. Ну, нічога, нічога, усе будзе добра. І яна абняла дзяўчыну, якая раптам заплакала, даўшы волю пачуццям, ад усяго, што з ёй сёння здарылася. Але ж яна адчувала – тут яна дома, і будзе шчаслівая.

- Усё будзе добра, - прашаптала ціхенька яна, і ўсхіпнула.

Ганна з лесавым дзедам адпарылі Міхася ў лазьне, яны вымыліся, на міхасёвы раны памазалі нейкую дзіўную пахучую мазь, і яны адразу перасталі яму дакучаць. Чыста вымыты і апрануты ён сядзеў на лаве ля стала, Летыцыя побач, і яны сёрбалі гарачую гарбату, якую зрабіла Ганна. На стол сабралі простай дзеравенскай ежы – яйкі, бульба, сала, грыбы, мёд ды няхітрая гароднiна – некалькі цыбуляў ды зелянiна.

Міхась распавядаў пра іх прыгоды і нялёгкі шлях, Ганна толькі качала галавой, дзед жа громка абураўся.

- Да, разьвялося тут ваўкалакаў нямерана! Проста выйсьці ў лес нельга за грыбамі ці ягадамі – так і скочуць. Ужо я іх дубцом, ды бізуном, а ім як усё роўна! Пруцца і пруцца!

- Дубцом? - зьдзівілася Летыцыя. - Дык што яны, баяцца дубца?

Міхась зарагатаў.

- Нажаль, у мяне з сабой таго дубца не было, з ваўхаўскога дуба з запаведнай рошчы. Яго ня толькі ваўкалакі баяцца. Тут ён падміргнуў ёй, і хітра глянуў на дзеда.

- Ай, не пужай ты дзяўчыну, ты яе і так ужо змарыў, яна чуть жывая, - жартліва абурыўся дзед. Ганна ўсьміхнулася, а Летыцыя пачырванела.

- Да ты не саромься, мы людзі простыя, - падбадзёрыў яе дзядок. – Дарэчы, мяне Якімам завуць.

- Летыцыя, - прадставілася дзяўчына.

- Ого, шляхетнае імя! – падзівіўся дзед. – Паненка! Ну, табе, Міхась, пашанцавала, якую гарную дзяўчыну знайшоў.

- Гэта яна мяне знайшла, - мякка ўсьміхнуўся Міхась, і пацалаваў Летыцыю у галаву. Я бы бяз яе прапаў. У пекла трапіў.

- Да ты што! – ненатуральна зьдзівіўся дзед. - За гэта трэба выпіць! Ганулся, цягні медавуху!

Спаць ляглі позна, і змораныя.

Летыцыя ляжала на аграменным набітым сенам матрасе, на грудзі ў Міхася, які ахапіў яе сваёй вялікай рукой. Ёй ня верылася, што іх жудасныя прыгоды скончыліся. Яна адчувала, як паціху правальваецца ў сон, і хутка задрамала.

Ганна выйшла з хаты, і стаяла на пасыпанным пясочкам дворыку, пільна гледзячы ў бок лесу.

Яна раськінула рукі і запракінула галаву, нібыта плыла па лясному паветру, напаўняючыся чыстым водарам дрэваў і траў. А потым раптам грозна зірнула некуды ў бок, нахмурыла бровы, пастаяла, і пайшла назад у хату.

Вялікі чорны воўк, хаваючыйся за хвояй, злосна ашчэрыў зубы. Але ж сунуцца далей не рашаўся.

# ГЛАВА 11: Пасьледыш

Нікадым стаяў перад Ганнай, ня ведаючы, што яму рабіць. Наперад ійсьці ён ня мог, назад дарогі не было.

Але ж пакуль ён вагаўся, ўсё рашылася за яго.

У пакоі ізноў раздаўся стогн.

Ганна кінулася ў дзьверы, бросіўшы мужчынам:

- Ня стойце тут! Ідзіце вон, на двор. Разьвялі тут.

Уляцела ў пакой, і зразумела: ізноў пачаліся схваткі.

І вось ужо яна трымае ў руках другое дзіця.

Ганна ўзьняла хлопчыка перад сабою. Зусім малы. Пасьледыш. Але ж нейкі ён дзіўны. Яна ўважліва аглядзела дзіця. Здаецца, што ўсё добра. А потым нахмурыла брыво.

- Я нараку цябе Цень! - задуменна вымавіла яна. Бо цень заўсёды саправаждае сьвятло. Там, дзе сонца, там і цені.

Ганна выйшла на двор с кошыкам, у якой ляжаў куль нейкіх трапак. Міхася на двары не было, пайшоў, мабыць, у хату.

Нікадым сядзеў на паленніцы, і грустна глядзеў сабе пад ногі.

Ганна падышла, і моўчкі паставіла перад ім кошык.

- Забірай! - хутка прагаварыла яна. І правальвай адсюль.

Нікадым, здзіўлены, узьняў на яе вочы. Ганна адхінула край чорнага шарсьцянога платка. Пад ім мірна сапло дзіця.

Нікадым скалануўся. Дзіця прачнулася, і зацікаўлена глянула на Нікадыма вялікімі янтарнымі вачамі.

Што там? - пачуўся з хаты голас Міхася.

- Нічога, ўсё добра, яна адпачывае, - заверыла яго Ганна.

Штурхнула кошык Нікадыму.

Злосна шапнула:

- Хутчэй!

Той усё сьцяміў, кіўнуў, і хутка зьнік у лесе.

- Я яго прасіла дзіцёнка, а ён прынёс кацяня, - гневу Мары не было межаў.

- Ну што з табой рабіць?

Яна заглянула ў кошык, дзе пасапвала малое.

Дзіця глянула на яе вялікімі янтарнымі вачанятамі з доўгімі вейкамі, усьміхнулася бяззубым роцікам.

- Які харошанькі, - здзівілася Мара.

- Ну, хай жыве!

# ГЛАВА 12 : Небясьпека набліжаецца

Раніцой усталі пазнавата. Дзень правялі за хатнімі справамі; надвор'е выдалася сьпякотным, і к вечару ўжо добра змарыліся. Але ж у агульным адчуваньне было надзвычай сьвежым, прыўзьнятым. Як і ўчора, сабраліся на вячеру. Ды Міхась быў нейкі задуменны, смурны.

Еў не ахвотна, усё больш разважаў аб нечым. А прыканцы папрасіў Якіма адысьці на колькі хвілінаў пагутарыць. Яны стаялі пад страхой вялізнага гумна, і аб нечым ціха размаўлялі. Калі-некалі можна было пачуць асобныя словы:

- ...схаджу я.... а што яна? ...я ведаю, толькі ж мне што рабіць? Колькі мне гулять у хованкі? ...дарэчы, Нікіфар... што значыць, хай павісіць?!

І гэтак далей.

Так ні аб чым і не дагаварыўшыся, разышліся.

Якім сярдзіта фыркаў сябе пад нос:

- Сходзіць ён, паглядзіце...які спрытны. У яго дзяўчына ў палажэньні, трэба ўжо пра далейшае думаць. А што той Нікіфар. Ну, павісіць. І што? Колькі ён за жыццё напаскудзіў людзям, хай плоціць за свае грахі, выкупае.

Якім яшчэ раз сярдзіта махнуў галавой, так, што саламяны капялюш ледзьве не саскочыў яму на нос.

Міхась, які нічога не дабіўся, плюнуў, і пайшоў калоць дровы. Але ж хутка дровы скончыліся. Болей заняцца на чыстым лесавіковым падворку было няма чым. Ён сядзеў, прываліўшся да таўстога слупа пуні, і думаў, думаў, думаў…

Летыцыя так і знайшла яго, у ляноце, ля слупа, прываліўшыся да яго сьпіной.

Міхась сядзеў, выцягнуўшы доўгія ногі, круціў нейкую пухнатую травінку. Яго вочы былі напаўзаплюшчаны, густыя доўгія вейкі хавалі востры позірк. Сонца, сыходзячы, шчодра аблівала яго сваім апошнім сьвятлом.

Мяккія ружовыя прамені гладзілі смуглую скуру, па чорных, як крумкачынае крыло, валасах гулялі залатыя водблескі.

Кашуля была расхінута ў горла, рукава закатаны, побач валялася няпрыбраная сякера.

Якім бы сказаў слова, падумалася Летыцыі. Той усё прыбіраў да месца, у яго было як у аптэке. Міхась жа гаспадар быў ня такі дбайны. Не да фанатычнасьці.

Яго старая хаціна ня ўяўляла сабой узорна дагледжанага дамахазяйства. Але ж там ёй было добра…

Летыцыю скаланула ад успамінаў.

Яна прысела побач з Міхасём, і паглядзела збоку на яго вытанчаны профіль. Чорныя бровы, высокі лоб, даўгаваты прамы нос. Ліцо мужнага, сталага чалавека.

Здаецца, ён драмаў. Летыцыі не хацелася яго будзіць.

Хай спачывае.

Яна проста назірала за ім, любуючыся яго мужным тварам, крэпкай, высокай постацьцю, і нечакана доўгімі, пухнатымі вейкамі, якія здаваліся замілавальнай дэтальлю, адкідваючы доўгі цень пад яго вачыма. "Вейкі як галінкі елак", - падумалася ёй.

Цёплыя, залатыя сонечныя прамені пакідаючы небасхіл песьцілі яго цела, прыкрытае тонкай кашуляй, і раптоўна Летыцыя адчула моцнае жаданьне. Жаданьне яго цела, яго блізкасьці, яго моцных рук з такімі далікатнымі далонямі.

Яна не хацела кранаць яго, каб не абудзіць, і проста глядзела, затаіўшы подых. Яе галава кружылася ад пачуццяў. Пах сьвежага сена, звон пчолаў над лужком за пуняй, прыемная сьпякота сыходзячага дня, празрыстае залатое паветра, усё выглядала казачным, ідэалістычным, нейкім незямным, але і наадварот, вельмі, балюча рэальным.

Ня ўтрымаўшыся, яна накрыла яго руку сваёй, і па ёй быццам бы прабегла маланка. Нічога і нікога не было паміж ёй і ім. Гэта было так дзіўна, што было нават страшна.

Вялікі воўк за хвоямі жадна ўбіраў пах. Пах узрушанай маладой жанчыны. Прыгожай. Ён наяўна бачыў яе, з яе тонкай белай скурай, доўгімі шаўкавістымі валасамі, мяккай плоцьцю. Ён ня мог болей трымацца. Ён яе хацеў. Праз ваўчыную пысу праступіў абрыс чалавечага твару, але ж ненадоўга. А вось цела яго станавілася падобным на чалавечае - моцныя, перакручаныя жгуты жылаў ды мышцаў, поўсьць пакрывала толькі сьпіну, жывот ды тыльную старану рук. Але ж далей перакінуцца ён ня мог. Схаваўшыся у гушчары, паў-мужчына паў-воўк назіраў за ёю, і яго крывавыя вочы завалакло агнём жаданьня.

Ён яшчэ сюды прыйдзе. Абавязкова. І паспытае на смак яе цела.

Дарэчы, ён таксама не забыў.

Нечакана Міхась прачнуўся. Яму нешта сьнілася, але ж што, ён уцяміць ня мог. Не знаходзіў словаў, каб апісаць гэта. Нібыта цемра склалася ў нейкую бясформеную істоту, хуткую і моцную, якая руханулася наперад, але ж быццам бы нечым спыненая, дзёрнулася, і зьнікла ў начной глыбіні. Душная, пругкая хваля нянавісьці ўдарыла яго. І пачуццё жаху, але ж не за сябе.

Ці ж быў у яго час чакаць? Ці ж быў у іх час?!

Летыцыя глядзела на яго, шырока раскрыўшы вочы. Ён схамянуўся, і хутка сабраў сябе, выйшаўшы з таго прыемнага стану разьпешчанасьці, у якім ён дазволіў сабе знаходзіцца апошнія пару гадзін.

- Мне патрэбен Якім, - сабрана вымавіў ён, і глыбока ўцягнуў носам паветра.

У паветры блукаў нейкі востры, зьвярыны, незвычайны пах.

# ГЛАВА 13 : Зговар з партызанамі

- Ды пойдзем мы, пойдзем, толькі хлопцаў во папытаю!

Якім ад узбуджаня аж зьбіў капялюш на патыліцу.

Яны ўсе разам рушылі на край вёскі, да зямлянак, дзе, па словах Якіма, разьмясьціліся нейкія дужа спрытныя ў ваенным дзеле хлопцы.

Падыйшоўшы, здалёк пачулі рогат ды гаворку:

- ... ды ён заўсёды на той гранаце падрываецца. Амаль што кожны тыдзень.

Саўка дзіка заржаў, а за ім і ўся кампанія.

- А ты б маўчаў, паліцыянт грёбаны, - Іван смачна сплюнуў на траву.

- Куды плюешь, дурань? Яна жывая! - падыйшоўшы, Ганна метка адвесіла Івану цяжкую аплявуху, але ж ён не раззлаваўся, а наадварот, ухмыльнуўшыся, толькі пачасаў галаву.

- Ніяк ня ўцямяць, дзе яны, - паскардзілася Ганна Міхасю. Як сюды трапілі ў 43-цім, так і сядзяць во, дурні дурнямі. Ці сваіх чакаюць, ці фрыцаў пільнуюць.

- І тое, і другое, - важка адказаў Базыль, і паправіў дагледжаную, начышчаную да блеску вінтоўку.

- Таааак, старыя знаёмыя, - сдвігаючы бровы, сурова вымавіў Міхась.

# ГЛАВА 14 : Апоўначы прыйшла яна

Алег нечакана прачнуўся, нібыта яго хтосьці падкінуў. Гадзіна ночы, а ён сядзіць на ложку, ды сна ні ў водным воку.

Нешта зусім нэрвы сдаваць пачалі. Гэтыя раскопкі...кніга памяці...як яны яму цяжка даваліся. Калі яго запрасілі паўдзельнічаць у працы валанцёраў у якасьці гістарычнага і архіялагічнага кансультанту, ён пагадзіўся ня думая. Але ж і ня думаў, што будзе гэдак цяжка.

Спачатку яны капалі ў полі, дзе раней стаяла даволі вялікая вёска, двароў на сотню. Потым капалі ў лесе вакол. І ўсюды знаходзілі пахаваньні. Могілкамі іх ні ў каго назваць язык не падымаўся. Доўгія ямы, круглыя яміны - відавочна, сьляды-варонкі ад выбухаў. Целы былі прысыпаны не глыбока. Можа на паўштыка ў зямлю, ды й яна ж яшчэ і асела. Хаця за гады нарастае культурны слой, ... ды які ж культурны слой у лесе. Таму капаць амаль што не прыходзілася. Так, зьмятаць пясочак.

А вось самі яміны былі глыбокія. І целаў у іх было шмат. Зложаныя адзін на адно, дзе паміж радамі была зямля ці яловыя галіны, а дзе косткі проста зьмяшаліся ў адну масу.

- Вой, як жа яны цяпер на Страшны Суд паўстануць! - прычытала адна набожная шызанутая цётка.

- Як як - разам! - цыкнуў на яе стары сівавусы ваенны ў паношаным цельніку. І адразу да Госпада Бога ў рай. Ці ў цябе ёсьць варыянты?

Варыянтаў у той, здаецца, не было, ды яна толькі нешта

неўяўна прычытала пад нос.

І яны працягвалі далей.

Каго яны тады толькі не адкапалі, і старых, і малых..і кабет, ды і мужчын хапала. Некаторыя целы ляжалі роўна, іншыя былі скурчаныя.

- Гэтыя гарэлі, дагадваўся Алег.

- Было таксама шмат фрагментаў, разарваных, расшкамутаных шкелетаў, безгаловых, з раздробленымі чарапамі.

Асабліва жорстка было, калі гэтыя чарапы былі дзіцячыя. Гэта было жудасна відзець.

Алег зусім зьнясілеў за тыдзень гэтых раскопак, ды раз ва ўніверсітэте ня ўтрымаўся, і ледзь ня плюнуў на фота экспазіцыі, дзе вясёлыя немцы з паліцаямі красаваліся с разложанымі трупамі. Нашлі што вывешаць. Але ж ... памяць. Трэба помніць. Каб ненавідзець гэты пракляты фашызм, бесчалавечную ідэялогію, якая з масаў робіць пакорных скотаў, здольных на любыя злачынствы.

Так, зусім змучаны і маральна і фізічна, Алег сустрэў вечар пятніцы.

Застаўся ў кватэры адзін, нікуды не пайшоў.

Наліў сабе марціні на паўстакана. Любіў ён гэты жаночы напой. Такі ўж ён - ня мужны, ня сучасны. Усё жыццё быў такім. Толькі з кніжкамі бавіў час. Да яшчэ веласіпед. Садзіўся, і каціў у лес ці парк, ездзіў па наваколлі, блукаў, шукаў прыгодаў, скарбаў ды таямніцаў.

Паступіў ва ўніверсітэт. Вучыцца было лёгка. Чырвоны дыплом, потым магістратура, кандыдатская.

Толькі з жанчынамі не шанцавала. Прыгожы ж хлапец, усе казалі, ды і каханых было шмат. З простымі не хацелася, складаныя патрабавалі невядома чаго і рабілі складаным і адносіны, ды і часьценька кідалі яго, казалі - ня мужны, не брутальны - нейкі дужа кніжны. Ня ўмеў рабіць з адносін драмы. Ня раўнаваў, ня ўстройваў сцэнаў. Руку ні разу не падняў, але ж кіраваць сабой не даваў.

Толькі тады, у хаце, з ім нешта здарылася...як ён тады непрыгожа павёў сябе. Адурыў яму галаву той амулет, тыя скарбы. Вось і Інга яго кінула, сышла да Алекса. І Летыцыя. Дзе яна, цікава ...

А можа, так яму і трэба. Можа яму і лепей сам насам са сваімі думкамі.

Менавіта с гэтымі думкамі Алег пайшоў спаць.

І вось, прачнуўся глыбокай ноччу.

Прачнуўся, сеў на ложку, аглядзеўся.

Комната была ўся залітая яркім сьветам месяца. Цень ад ваконнай шыбы цягнулася да самага ложка. Шторы былі разьдзвінуты, і ў акно было бачна высокае начное неба з круглым, як блін, месяцам і парай маленькіх шэраватых ваблокаў.

А перад вакном ў пакоі стаяла дзяўчо.

Яно глядзела на яго, не міргая, вялікімі вачыма, а сьветлыя, амаль што белыя валасы серабрыў месяц.

Алег застыў. Але ж не спугаўся, што было яму нават дзіўна.

У яго пакоі стаіць, і вось так глядзіць на яго нейкая чужая дзяўчына ў доўгай белай спадніцы ды кашулі, з распушчанымі сьветлымі валасамі. Глядзіць моўчкі, не варушыцца нават.

- Напэўна, я сплю, - вырашыў Алег.

І тут яна мякка, ціхім голасам адказала яму.

- Не, ты ня спішь.

# ГЛАВА 15 : Паляваньне на ваўкалакаў

Хлопцы зьбіліся ў кучу, і вылупіўшы вочы, глядзелі на Міхася.

Раптам адзін з іх, старэйшы, запытаў:

- Ты што, тожа памёр? Ты ж …, - і ня скончыў, праглынуў словы.

Міхась зарагатаў.

- Чаму гэта я памёр? Ці я так дрэнна выглядаю? Зусім не жывы? Так?

Паміж натоўпам прабегла хваля сьмеху.

- Ды не, добра ты выглядаеш, дзядзька Міхась, - прымірэньча адказаў Іван. – Але ж …

І потым ціха дабавіў:

- Мы-та памёрлі.

Міхась пасуравеў.

- Ну-ну. Не памёрлі, а перамясьціліся. На той сьвет. Лепшы. Так што ня трэба.

Яму было шкада хлапцоў, але ж віду ён не падаваў. Яшче не

хапала расчуліцца. Гэтага толькі ім не хапала. Бо справа наперадзе была сур’ёзная.

Тым болей, што яму было што ім сказаць. Бо з-за іх тут цэлая вёска накрылася. З малымі і старымі. Хай будуць удзячныя, што ня ўсе тут апынуліся. Шмат каго засталося і на тым сьвете, які гэты. Дзякуй яму, паміж прочым.

Калі б ён не дапамог ім тады раськідаць гэтую свору паліцаяў, дык яны б забілі ўсіх да шчэнту. А так толькі да вёскі дабраліся. Да лясных схованак не дайшлі. Так што хай сядзяць тут, і будуць удзячныя. Людзі. Другі раз ён забываў, што ён сам чалавек. Аж прыкра станавілася ад людзей. І дужа часта.

Але ж што рабіць. Людзей ён любіў. Шкадаваў. Бяз іх было б зусім дрэнна на сьвеце. Ну, што не цікава, у гэтым ён быў упэўнены.

- Дзела да вас ёсьць. На сто рублёў, - сказаў ён.

- А чаму не на дзьвесьце? – дзёрзка адклікнуўся Саўка.

- Таму што ты і на рубель не нарабіў, а яшчэ і пазычыў, - абарваў яго Міхась.

- Да ты ня злуй на яго, дурня, - палажыў яму руку на плячо старэйшы, Базыль. – Праходзьце во, сядайце каля вогнішча. Абмазгуем, што і як. Дзяўчына з вамі тожа?

Не пасьпеў ён запытаць, як Летыцыя з гатоўнасьцю кіўнула.

Міхась нічога ня сказаў, толькі абняў яе за плечы, і правёў на зручнае месца каля вогнішча, дзе нехта ахвотна падаслаў ёй кажушок. Дзеўка была прыметная, і хлопцы на яе глядзелі,

паадкрываўшы рты. Але ж апасаліся: усё ж яго каханая.

Абсудзіўшы дэталі Міхасёва плана, у якім актыўна ўдзельнічаў і стары Якім, яны дамовіліся сустрэцца заўтра ў гэты жа час, і пайсьці группамі, як было задумана.

Міхась ведаў, што ні адзін з ваўкалакаў ня сунецца ў вёску, таму што гэта быў Той сьвет, Дзяды, а ваўкалакі ўсё ж былі жывымі істотамі. Толькі Міхась мог хадзіць туды і назад. Нікіфар навучыў. Некрамантыю ён добра ведаў, і з памёрлымі быў на кароткай назе. Нячысьцікі жа Дзядоў баяліся да жуці. А ваўкалакі і баяліся, і ненавідзелі, а зрабіць нічога не маглі. Ды толькі варта было выйсьці па-за межы запаведнага бору, там ужо тэрыторія Дзядоў заканчвалася, і пачыналася небясьпечная памежная зямля, на якой і стаяла старая Міхасёва хаціна. І калі ў бытнасьць сваю чараўніком ён з імі не канфліктаваў, няма чаго было дзяліць, то пасьля яго ўкрыжаваньня, яго адмаўленьня перайсьці на іх старану і ўступіць у войска Мары, ды яшчэ апасьля таго, як Нікіфар іх расчараваў, у сэньсе раз'юшыў, таксама адкрыта прадэманстраваўшы прыхільнасьць міру жывых і Сьвятлу, яны на яго добра ўзьеліся.

Калі ж ён з'явіўся сюды з Летыцыяй, то зусім азьвярэлі, калі так можна сказаць пра ваўкалаў ды пярэваратней. Калі яны яе ўбачылі, ці, дакладней, унюхалі, то стрымаць іх проста ўжо было няма магчымасьці. Адзіным выйсьцем было дабрацца да Дзядоў, што ён і зрабіў. Рызыкаваў сваім і яе жыццём. Але ж так ён прывык жыць – рызыкуючы. Аб самым дрэнным ён ня думаў, бо баязьліўцам ніколі ня быў, а ўпэўненасьці ў сваіх сілах Міхасю хапала.

Яны зьвярнуліся ў Якімаву хату, калі ўжо было цёмна.

- А дзе гэта Альжбэтка гойсае? – запытаў Якім у Ганны. Яе ж с учорашняга дня няма! Ці не малая яна, так надоўга адлучацца?

- Да не хвалюйся ты, усё у яе добра. Я за ёй сачу, - супакоіла Ганна старога. Хутка прыйдзе. Занятая яна. Малая-малая, ды ўсё ж не дзіцё. Маладая дзеўка. Ня чапай яе, стары пень, - і Ганна жартліва пхнула Якіма ў бок. Той у адказ хлопнуў яе па тыльнай старане.

- Вось і пагутарылі, - фыркнула яна, але было відна, што бяззлосна.

Якім з жонкай пайшлі спаць у дальні пакой, і Міхась з Летыцыяй засталіся адны.

Ноч, дзіўная ноч, што жа ты робішь! Пераўтвараешь ты селяніна ў злодзея, сьвятара ў распусьніка, сарамлівую дзеву ў русалку-начніцу, што купаецца ў патаемным возеры, насалоджвае месяц сваім белым целам.

Ноч наступае, прыходзіць пара казак, калі самыя сьмелыя мары атрымоўваюць плоць і жар, сьненьні апускаюцца з нябёсаў ды наведваюць дварцы і хаты, сенавалы ды сакрэтныя схованкі, дзе хаваюцца ўлюбённыя пары.

Месяц белы, месяц срэбны сьвяціў высока ў небе, і падала праз вакно на падлогу месяцовая белая дарожка. Але ж болей ніякага сьвятла ў хаце не было. Ды яно і не было патрэбна ўлюбёнай пары, што замілавана глядзелі адзін на аднаго нават праз цемру.

Міхась ведаў, што гэтая ноч можа быць апошняй у яго жыцці. Ён не казаў пра гэта Летыцыі, але ж яна адчувала, што можа здарыцца нешта сур’ёзнае, непапраўнае. Чакала і баялася, і малілася, каб гэта бяда мінавала іх, як навальнічная хмара.

Ён кахаў яе доўга, не сьпяшаючыся, быццам бы хацеў запомніць

кожнае месца яе цела, і яна аддавалася яму ізноў і зноў, напітвая яго сваёй прыгажосьцю, моладасьцю і пачуццём.

У ясным сьвеце месяца яго цела здавалася зусім цёмным, як і яго твар, калі ён рухаўся над ёй, яго доўгія валасы, што краналі яе, калі ён нахінаўся, але ж яна глядзела і глядзела на яго, каб ніколі не забыць, і бачыла яго сьвятло праз цемру, сьвятло яго каханьня, якое зьзяла ёй ярчэй, чым сьвет усіх зорак на небе. Той, хто меў хоць раз ў жыцці такую ноч, на мяжы расставаньня, мабыць на ўсё жыццё, ніколі яе не забудзе. Яны не маглі адарвацца друг ад друга, аж пакуль не прапеў певень, і нават тады, ва ўсходнім сьвятле, яны працягвалі гэты дзіўны танец, які даравалі людзям багі, каб ім маглося і хацелася жыць на гэтым сьвеце. Рукі Летыцыі абвівалі Міхася як лаза, а ён адчуваў сябе магутным ствалом дрэва, высокай скалой, што падымалася, амываемая ласкавымі водамі, Антэяем, трымаючым сусьвет, і цэлым сусьветам. Летыцыя жа была ў ім песьняй, сьпевам прыгажосьці, што далёка ўносіла яго розум, і ён плыў і плыў на хвалях экстазу і асалоды касьмічнай велічы. Яны тварылі разам міры, і разбуралі іх, і ізноў тварылі, сатваралі, і пагружаліся ў іх, і адзін у аднаго, як дэльфіны ў глыбіні мора.

Ён рухаўся ў ёй, як рухаючыйся праз бездань кіт ці вялікі марскі зьмей, чыё доўгае цела ахінае сусьвет, і яна ў першыню даведвалася аб тым, які глыбіні яна мае.

Бо яна была Самой Мацерыяй, Маці сусьвету, Марай і Майяй, а ён – сьвятлом і вогненным стаўпом, які праніцае яе, каб нараджаць Міры.

Тое, што запаўняла яе, было як Космас, як Той і Гэты Сьвет, як усе сьвятары і грэшнікі ўсех міроў, як анёлы і дэманы, яна была ўсім, а ён быў Усім для яе, і яна была Усім для яго. Сонца ночы - месяц пела ім песьні, і калі нарадзіўся новы дзень, яны ляжалі, зьняможаныя, друг каля друга, і іх сплеценыя рукі ніяк не маглі растацца.

Але ж раніца, на жаль, наступіла. І яны заснулі, каб праспаць яшчэ колькі гадзінаў да таго, як ім прыйдзецца разьвітацца. Каб сустрэцца зноў, альбо не сустрэцца ніколі.

# ГЛАВА 16 : А сёня была бойка.

Яшчэ да палудня яны абыйшлі лес вакол вёсцы, шчыльна аглядзелі ўсе навакольле, намецілі месцы схованак для засады. Дамовіліся, што Міхась выйдзе па-за мяжу Дзядоў, прыманіць ваўкалакаў, ды павядзе іх на схрон, дзе ўжо будуць чакаць у схованцы хлопцы, якія сустрэнуць іх з усёй наяўнай зброяй, якой было зашмат. Выбралі зручнае месца для пасткі, дзе з вайны ўжо была пабудаваная старая закінутая схованка, годная, толькі расчысціць. І, што было істотна, схрон знаходзіўся на зручным месцы, адкуль мяжа прастрэльвалася, ды ваўкалакі яе перасеч не маглі.

Таму варта было Міхасю вывесьці істот на дыстанцыю куляметнага стрэлу і затым хутка збочыць, і яны апынуліся б прама пад стрэламі.

Міхась разьлічваў, што калі ўжо гэтыя драпежныя істоты круцяцца каля вёскі са сваім главаром, так яны не ўпусьцяць шанец зьняць з яго шкуру. Праўда, для ажыцяўленьня мэты яму патрэбна будзе перакінуцца. Як спадзяваўся Міхась, апошні раз.

Алег як зачараваны глядзеў на дзяўчо.

Калі гэта быў прывід, то зусім не звычайны. Дзяўчына была зусім як жывая. Ці, прасьцей кажучы, жывая. Растрапаныя доўгія косы, сьвежы мілы тварык з ружовымі шчочкамі, вялікія блакітныя вочы. Не дзіця, і ўжо амаль не падлетак, на мяжы паміж дзяцінствам і юнацтвам, тоненькая, як маладая бярозка, уся зьзяючая ад сваёй маладой прыгажосьці як палявая кветачка ад расы на ўсходзе.

І, паколькі жывая дзяўчына прабрацца праз вакно яго хаты на 15-м паверсе не магла, то ён вырашыў, што сьпіць.

А раз спіць, то бачыць сон, і ў сьне яму няма чаго апасацца.

Так што ён сьмела, не без цікавасьці разглядваў прывід, які таксама міла ўсьміхаяся глядзеў на яго, а потым запытаў:

- Дзіця, ты адкуль?

- Я - з Дзядоў, - ветліва адказала дзяўчынка.

- З Дзядоў?! - не паверыў сваім вушам Алег.

- Ну да, - проста адказала тая. Гэта такая вёсачка, на тым сьвеце. Мяне Альжбэта завуць.

- А мяне - Алег, - проста прадставіўся ён.

- А я ведаю, - нечакана шырока ўсьміхнулась яна.

- Я вас усіх ведаю! І хлопца з чорнымі валасамі, і дзяўчыну з доўгімі сьветлымі, і прыгажуню, усіх! І вашага сябра ведаю...яна на хвілінку змоўкла...і ціхенька працягнула, - добра ведаю! Ён мяне ад сьмерці выратаваў...даўно.

- Ну і справы! - здзівіўся Алег. - Як гэта ты нас усіх ведаеш.

- А я за вамі даўно ўжо назіраю. Я люблю ў памежжы гуляць.

І ціхенька дадала:

- Там вёска была ... Цяпер ужо няма.

- А ты што, з той вёскі? - здзіўлена запытаў Алег. - З Замошша?

Альжбэта моўчкі кіўнула.

- Дак яе ж спалілі, у 43-м, - у Алега ледзьве мову не адняло. - Я ж там быў ... з валанцёрамі. А ты як ...

Ён не дагаварыў. Змоўк. Бо ў яго перахапіла подых.

- Вырататавалась? - дапамагла Альжбэта.

- Гэта ён. Ён нас вывеў. І паліцаяў раськідаў. Мы тады проста звар'яцелі ад жаху. Ледзьве да немцаў назад ня кінуліся. Быў - чалавек, а стаў воўк. Тады Міхась першы раз перакінуўся ў ваўка. Ён казаў, яму нельга, бо калі тры разы перакінешся, то застанешься ваўком назаўсёды.

А потым, крыху памаўчаўшы, дадала:

- Мне дапамога твая патрэбна. Ты ж гэта...вучоны...Ёсьць там адно месца, а ў ім кніга. Ды я чытаць яе ня ўмею...

- Ну, калі дапамога патрэбна, то канешне, - пагадзіўся Алег.

Ды вось надыйшоў вечар, а за ім і ноч апусьцілася, ахутала сваім покрывам і Дзядоў, і навакольны лес.

У прыцемках выдвінуліся праз поле да ўскрайку бору, дзе меўся схрон.

Там хлопцы схаваліся, прыгатовіўшы зброю, а Міхась пайшоў далей, у лес.

Цёмны начны бор, стаішь ты, як шматрукі, шматгаловы волат, незлічонае тваё войска, што сцеражэ сумежжа паміж мірамі. Хто зойдзе ў цябе ноччу, той рызыкуе застацца тут назаўсёды, трапіўшы ў месца, адкуль няма выйсьця. Ты закружыш слабога, зьвядзеш з вума дурня, праглынеш забойцу, і толькі мужны і сьмелы пройдзе праз твае нетры ды ачісьціцца ад усялякага граху ня горш, чым у спавядальне. Бо лес здымае ўсе маскі, абнажае сутнасць, і бязлітасна яўляе яе сусьвету. Ён лечыць і гоіць, ды ён жа і забівае тых, хто ня ведае яго строгіх законаў, найбольш калі парушае іх наўмысна.

Міхась увайшоў у хвойнік, і спыніўся. Прыглядзеў наперадзе ладны пагорак. Падняўся на яго. Агледзеў навакольле. Здаецца, што лес спаў. Але ж гэта было ня так, і Міхась гэта ведаў.

Нехта хаваўся ў гушчары, сьлізгаў паміж хвояў, рыў носам зямлю, і гатаваўся. Яны не адступяць, яшчэ раз паўтарыў сабе Міхась. Яны. Не. Адступяць.

Ён узьняў у верх галаву, і страшэнна завыў.

Быццам гром пракаціўся над лесам рык, ад якога ў сваёй схованцы скаланул іся хлопцы. І на гэты першабытны заклік прыйшоў адказ. Мноства ваўчыных галасоў завыла ў нетрах. З дзікай злобай пракаціўся іх роў над хвоямі, і зьнік далёка ў небе.

Але ж раптам усё змоўкла, і наперад да пагорка выйшаў стары волат-ваўкалак, які ашчэрыўшыся ўстаў, і глянуў на Міхася.

- Што табе патрэбна, сусед? Чаго ты заклікаешь нас на бойку?

Ці ж не жылі мы мірна ў лесе побач многія гады? А зараз што здарылася, што ты засьпяваў старую песьню смерці? Сваёй сьмерці?

І тут ён драпежна ашчэрыўся, і злосна зарагатаў.

- Так, я засьпяваў песьню сьмерці, але ж не сваёй, а тваёй. Дарэчы, вашай. Бо вы напрасіліся. Чаму ты гнаўся за намі ад самое хаціны? Чаму сачыў за домам Якіма? Ці ж я ня ведаю, што, ці, дакладней, каго ты жадаешь? Мо ты хочаш сказаць, што я памыляюся?

І Міхась шырокі зрабіў крок наперад.

Але ж стары ваўкалак ня зварухнуўся.

- Так, - адказаў ён, - ты здагадлівы. Усё верна. Я буду пільнаваць вас доўга, усё жыццё. І я знайду спосаб, як мне здабыць тое, што я жадаю. А ты нічога ня зробішь.

І ён здзекліва ўхмыльнуўся. Поўсьць на яго целе ўзьнялася, надыбілася, вочы звузіліся і загарэліся. Але ж ён трымаў, і ня рушыў да Міхася. Гэта была бойка дзьвух розумаў - адзін, страшны ў сваёй бесчалавечнасьці, з другім, дзе чалавек перамог зьвяра. Ці ён так спадзяваўся.

Ніхто з іх не рабіў крок наперад. Кожны чакаў, калі ў другога здадуць нервы.

Міхась ведаў, што, калі пачвара скрыецца ў лесе, ім прыйдзецца мяняць свой плян і рабіць вялікае паляваньне, ці аблаву, якую хлопцы бы большай часткай ня здолелі пераможыць. Да таго ж, ён не хацеў уцягваць іх у свае справы. Гэта іхняя бойка - яго, Нікіфара, і ваўкалака-пярэваратня.

Змрок зусім ужо ахутаў лес, і Міхась адчуваў, што вакол яго творыцца нешта няладнае. Са сьпіны падбіраліся нейкія цені. Яны акружалі курган, дзе ён стаяў. Што ж. Калі яны кінуцца на яго, ён перавярнецца. Перавярнецца апошні раз. Назаўсёды. Ён пакончыць з імі, а потым пакончыць з сабой. Якім з Ганнай паклапацяцца аб Летыцыі, вывядуць яе да людзей. Яна будзе жыць сваім, чалавечым лёсам. Можа, зьвернецца да Алега... але ж яму не хацелася думаць аб гэтым.

І ён стаяў, прыслухваўся, і чакаў, сам невядома чаго.

Ды вось нешта зьмянілася. Бакавым зрокам ён убачыў нешта, адчуў знаёмы пах, і сэрца яго екатнула.

Да пагорку праз лес ішла Летыцыя. Ішла спакойна, з годнасьцю, не сьпяшаючыся. На ей была апранута доўгая карункавая сукенка, белая, амаль што празрыстая, з доўгімі рукавамі, але адкрытая сьпераду і ззаду. Недзе знайшла яна гэта ўбраньне нявесты - нявесты сьмерці, падумалася Міхасю. Ее доўгія чорныя валасы свабодна ліліся па сьпіне, і яна сьмела глядзела наперад, туды, дзе ля ўзножжа пагорку стаяў ваўкалак.

Сэрца Міхася абвалілася, і ён дзіка закрычэў:

- Прэч!

Крыкнуў, і адчуў, як яго вочы засьцілае крывёю ад шалёнага ўсплеску адрэналіну, сьпіна і плечы раздаюцца, а мышцы робяцца стальнымі канатамі.

Але ж было позна.

Ваўкалак таксама адчуў яе пах, і яго ўжо было не ўтрымаць.

Ахоплены шалёнствам жарсьці, прагай плоці і смагай крыві, ён кінуўся да яе.

І тут Летыцыя пабегла.

Да схованкі было ўсяго нічога, некалькі сотняў метраў, і яна спадзявалася, што пасьпее. Ды ўжо амаль імгненна зразумела, што пачвара схопіць яе хутчэй, чым яна скочыць убок. Заставалася адно выйсьце: бегчы на схованку, і спадзявацца, што яна загіне не дарма. Хай толькі ў хлопцаў ня дрогне рука, і яны ачысьцяць зямлю ад гэтай нечасьці.

Міхась жа давяршыць астатняе.

Яна раптоўна спынілася, павярнулася, і смела глянула ў вочы драпежніку, які ўжо ляцеў на яе.

Але ж яе самаяхвярным плянам не ўдалося здзейсьніцца.

Нейкая моцная сіла ўдарыла яе збоку, і адштурхнула напэўна на дзясятак метраў. Ваўкалак праляцеў міма, і зваліўся на нечае цёмнае цела, трапіўшае яму прама пад ногі.

І тут раздаўся громкі выбух.

Ашметкі пярэваратня разьмятала па ўсяму лесу. А на зямлі ляжаў скрываўлены, раскурочаны Іван.

На пагорку Міхась біўся з добрым дзясяткам ваўкалакаў. Раськідваў іх у стораны, ды іх лезла ўсё больш і больш. Аднак здолець яны яго не маглі.

Міхась застаўся ў чалавечым абліччы, яго зьмена адбылася толькі ўнутры, але ж гэтага хапіла, каб усе, кто да яго кідаліся, падалі са зламанымі храбцінамі ці парванай пашчай.

Хлопцы, выскачыўшы з засады, палілі хто куды, дабівалі тых, каго не дабіў Міхась.

Да Летыцыі з Іванам ужо беглі Якім з Ганнай. Утрох яны здолелі адцягнуць параненага ў схованку, дзе зрабілі што змаглі ў тых умовах, а потым - ў вёску, блага хата Якіма была адразу на ўскрайку. Але ж было відавочна, што жыццё ў ім ледзьве цяпеліцца.

- Ня ведаю, колькі ён пратрымаецца, але ж зраблю, што змагу, - кінула Ганна.

І ціхенька запела.

Алег з Альжбетай прабраліся ў глыбіню разбуранага маёнтка, дзе некалі сябры сустрэлі Нікадыма ды адправіліся з ім вызваляць Міхася з пекла.

Маленькая, худзенькая дзяўчына спрытна прасьлізнула ў патайны ход. Алег апусьціўся за ёй.

У склепе ён запаліў паходны ліхтарык, і той асьвяціў гладка адліцаваныя сьцены і пакаты столь, і яшчэ адзін ход збоку, куды накіравалася Альжбэта. Там у нішы ля сьцяны апынулася нешта накшталт палічкі з камяню, на якой ляжала невялічкая кніжка ў чорнай скуры. Уся яна былаісьпісана на лаціне, сярод тексту таксама было шмат малюнкаў - ваўкалакі, стадыі пераўтворваньня. А на першай старонцы крыва былі словы на вульгарнай лаціне:

AMOR VICET MORT

Напісана і падкрэсьлена ад рукі.

Падкрэсьлена нечым барвовым.

- Што гэта, што тут напісана? - запытала Альжбэта ў нецярпеньні. Было бачна, што ёй гэта вельмі патрэбна ведаць.

- Гэта лаціна, прымітыўная. А напісана тут "Каханьне пераадольвае сьмерць", - ціха вымавіў Алег. І асьцярожна крануў растрапаўшыяся залатыя валасы дзяўчыны.

- Вялікі дзякуй, то мне вельмі патрэбна ведаць! - зазьзяла яна, і раптам пацалавала яго.

І тут Алег прачнуўся.

Летыцыя сядзела ля хаты на двары і глядзела ў бок леса, пакуль у хаце ішла барацьба за жыццё Івана.

Адно толькі, што яна адчувала, была агульная зпустошанасьць унутры.

Не, яна не жалела аб тым, што зрабіла. Наадварот. Раз за разам яна пракручвала ў галаве свой плян, які дапамагла ёй здзейсьніць Ганна. Тая знайшла ёй сукенку, і праводзіла яе да лесу, паказаўшы шлях да схованкі.

Затаіўшыся ў гушчары, яна назірала дыялог Міхася з ваўкалакам, і разумела, што гэта ён, а не Міхась, хоча заманіць ворага ў пастку. Тады яна ўпэўнілася, што робіць правільна.

Так, як трэба.

Астатняе было вельмі проста.

Яна выйшла з гушчару, і пайшла.

І каб не Іван, яе бы ўжо не было. Але ж не было бы і галоўнага ворага. А з астатнімі яны бы расправіліся лёгка. І, як быццам у падцвярджаньне яе словаў, шум бойкі ў лесе пачаў сьціхаць.

Надзея заварушылася ў яе сэрцы. Ён не павінен загінуць! Не павінен!

І як быццам штурок у грудзі: да яе праз поле ішоў скрываўлены Міхась.

Яна ўскочыла, і кінулася праз лугавіну.

Ён цяжка крочыў да яе праз поле, хістаючыся, нібы пьяны, і яна раптам спынілася. Нешта было з ім ня тое. Зьнянацку хваля дзікага, жывотнага жаху накрыла яе, і нейкі ўнутраны голас проста пракрычэў: "Бягі!"

Але ж яна стаяла.

Яна ведала, хто ён. Ганна расказала ёй і пра тры разы.

"Калі трэці раз перакінецца, то застанецца ваўкалакам назаўсёды", - гучэла ў яе вушах.

Ды ёй было ўсё роўна.

"Калі ён забьець мяне, то хай": думала яна. "Усё роўна без яго мне ня жыць".

Міхася кідала са стараны ў старану, яго сэрца ярасна бухала, звар'яцела гонячы кроў па жылах, ён ішоў, ня бачучы нічога вакол сябе, кіруемы толькі ўдарамі свайго сэрца ды нейкім інстынктам, што вёў яго на яе пах.

Адзінае, што ён адчуваў, было жаданьне. Але ж жаданьне іньшага роду, чым тое, што адчувае мужчына да прыгожай жанчыны, якую ён прагне. Гэта было нечым большым, значна большым, як смага ці глыток паветра. Ён жадаў ее ўсю, жадаў яе жыцця, якое толькі цалкам змагло бы насыціць яго. Як яго супраціўнік ня вытрымаў і звар'яцеў пры набліжэньні прыгожай жанчыны, так і ён зараз ішоў, нічога не разумеючы, невядома куды, альбо толькі наблізіцца да вытокаў гэтага салодкага паху, што пьяніў яго так, як не пьяніць ніводнае зельле.

Але ж быў яшчэ адзін Міхась, які з жахам і грэблівасьцю назіраў за тым, як зьвярыная прырода робіць сваю справу.

Тое, што здавалася бездакорным аружжам на полі бойцы, бязлітасна падпарадкавала яго свайму дыктату. Гэты цень ня адпускаў яго, але замяшчаў і выцясьняў яго пэрсанальнасьць, пераўвараючы ў зьвяра.

Яму хацелася толькі забіваць, забіваць, ды забіваць. Шалёны танец звар'яцелага бога, які да шчэнту зносіць універсумы, скручвае прастору і час, вымярэньні, і самое Існаваньне, не астаўляючы нічога, акрамя пустаты свайго сазнаньня. Каб затым проста задаволенна заснуць сном бяз сьненьняў.

І ў гэтай шалёнай пульсацыі энергій ён раптам адчуваў - ціхій сьпев, нібы празрысты горны паток нізвергаўся ў космасе, аднак ён ня мог патушыць яго шалёнага пажару. Як і ён ня мог патушыць яго, пераадолець яго пяшчотную прахалоду, што

падала і падала ў распаленую ноч яго душы.

# ГЛАВА 17 : Ён і яна

Летыцыя цяжка дыхала. Яе сукенка ўся разарвалася, спадніца звісала клачкамі, а верх трымаў толькі нізкі гарсэт. Рукаў з аднаго пляча споўз, разарваны на сьпіне, на другом ён ледзьве трымаўся. Яна ўся была перапэцкана крывёю, ня ведаючы, ці сваёй, ці чужой.

Яна стаяла сярод высокай лугавой травы, упрыгожанай кветкамі, якія пяшчотна схілялі галоўкі на рэшткі яе шлюбнага ўбраньня. Сэрца яе калацілася. Але ад якога пачуцця, яна ня ведала. Адна палова яе крычэла аб неабходнасьці спасеньня, а другая заходзілася ў экстазе ад сустрэчы, ад лікаваньня, што ён жывы, і яна яго бачыць – жывога, ідучага па квітнеючаму лугу, не разарванае, халоднае цела ў лесе, а жывога, дыхаючага Міхася, набліжаючагася да яе.

Ёй хацелася, каб гэты момант працягваўся да тых пор, пакуль існуе сьвет – яна стаіць пасярод зялёнага поля, а Міхась падыходзіць, і хутка яна дакранецца да яго, а ён прыцісьне яе да сябе. Што ж будзе далей, яна не хацела ведаць.

Ён адчуваў, што тое, чаго ён так прагне, ужо зусім блізка. Ішоў з апошніх сілаў, амаль падая, спатыкаючыся, і кідая сябе наперад воляй нечалавечай моцы. Яшчэ хвіліна, і ён пагрузіцца ў яе мяккае цела. Напоўніць сябе яе энергіяй – яе крывёю. Што далей, ён не ўяўляў, бо яго смага зацямняла ўсё.

Адзін Міхась, у глыбіні яго розуму, крычэў: “Бягі!”, але ж той, першы, ён, ці Цень, прагнуў зусім іньшага. Ды і прызнацца, яны абодзьвы прагнулі таго ж самага – зьяднацца зь ёю. Але ж як глыбока – у кожнага была свая мяжа.

Раптам Летыцыя зрабіла яму насустрач адзін крок. І затым – другі. Нешта надламілася ў ім. Ён ня верыў сваім вачам. Няўжо яна не разумее, хто ён? Драпежнага зьвяра і чалавека пачало

аб’ядноўваць адзінае пачуццё – зьдзіўленьня.

Да якога прымешвалася нарастаючая радасьць, лікаваньне ад сустрэчы, нейкая новая вышыня пачуцця, якой ён да гэтага моманту ніколі не дасягаў у сваім жыцці.

У хаце Якім і Ганна замёрлі над Іванавым нерухомым целам. Ганна наяўна адчувала, што набліжаецца зараз да іх хаціны. Узяўшы пук нейкіх траваў, яна хутка абыйшла хату, зашаптала яе па кругу, перахрысціла ўсе вокны, дзьверы, столь і пячны комін. А потым працягнула сваю лекарскую справу – палажыўшы галаву Івана сабе на каленкі, пела яму спрадвечныя песьні, сьпевы яго дзяцінства, аб жыцці і перамозе над сьмерцю. Болей нічога яна зрабіць не магла. У хаце павісла звонкая цішыня, у якой яе сьпеў гучэў асабліва жаласна і балюча – як плач па ўскользваючым жыцці.

Міхась, цяжка дыхая, падышоў да Летыцыі. Заслона з яго вачэй напалову спала, і ён бачыў яе ўсю, нібыта наскрозь прасьвечаную промнямі ўзыходзячага сонца. Яму здавалася, што ён чуў нейкі тонкі сьпеў, нібы гулленьне, ці звон, але ж гэта пчолы, ці кроў у яго ў вушах, ён ня ведаў.

Ён адчуваў, нібыта ня піў па меньшай меры палову свайго жыцця. Ды што там – усё жыццё. Яна ж стаяла, як каштоўны сасуд, напоўнены дзіўным вінам. Сасуд, якой ён так прагнуў, і баяўся крануць, каб ня страціць самога сябе.

Ён спыніўся. Мышцы яго напружыліся. Ён адчуваў, што наліваецца нейкім нечалавечым жаданьнем, якое вось вось разрашыцца экстазам, якога, яму здавалася, ня ведалі нават багі.

Але ж на яго зьдзіўленьне, Летыцыя спакойна падышла да яго. Прахалоднымі мяккімі рукамі яна абняла яго гарачыя, акрываўленыя плечы, палажыла галаву яму на грудзі. Ён між волі палажыў ёй рукі на сьцёгны, і нахіліўся да яе мяккай, белай шыі, да ямкі ля горла. Яго сэрца цяжка бухала, усе яго члены напраглі крывёю. Ён адчуваў, як пульсуе яе кроў, і

марудзіў, ня ведаючы чаму, быццам паміж яго губамі і ёю была нейкая нябачная перапона. А потым ціха крануў яе шыю губамі, і моцна надавіў, убіраючы яе скуру.

Ціха прагучэла, як звон срэбных бубенчыкаў:

- Я. Кахаю. Цябе.

Ён н паверыў сваім вушам, і спыніўся. Нешта здарылася зь ім, нешта ізноў адбывалася. Яго кроў нечакана спыніла свой дзікі бег. Ён адчуў пад губамі прахалоду яе пяшчотнага цела, пад рукамі – яе тонкую постаць, якую ён мог бы пераламіць адным рухам, толькі варта было ўзяць яе крыху крапчэй. Яму здавалася, што ён трымае паветра, але ж гэта паветра таньчыла ў яго руках, песьціла яго і гаіла яго бальную душу.

Паступова ён адчуваў, як вяртаецца ў сваё звычайнае аблічча – цела сталага, мужнага мужчыны, бывалага ваяра, на якім было шмат ранаў, старых і новых, якое сачылася крывёю, але ж ня прагла крыві, а прагла вады. Вады жыцця.

Трэцці раз! Ён перакінуўся ў трэцці раз, і здолеў зьвярнуцца! Дзякуючы ёй, ён ізноў стаў чалавекам. Ён – чалавек!

Міхась ня вытрымаў, і ўпаўшы перад Летыцыяй на калені, прыпаўшы тварам да яе і крэпка абняўшы, раптам заплакаў, як ня плакаў ніколі ў сваім доўгім няпростым жыцці.

# ГЛАВА 18 : Іван

Срэбная ніть! Як хутка і нечакана ты абрываешся!

Вось зьвініш ты, сьпявая радасную песьню, ці запаведны сумны напеў, ці громка і трыумфальна, але праз момант тваё гучаньне і зьзяньне разьлятаюцца ў бясконцасьці, і нет ужо нічога - толькі танюткі сьпеў сыходзіць у нябыт, каб ізноў нарадзіцца новаю песьняй недзе высока ў нябёсах.

Іван даходзіў. Яго галава ляжала ў Ганны на каленях, малады твар быў бледны, па скронях сцякалі кроплі поту. Сьцякалі і астывалі. Яго цёмна-русыя валасы зблыталіся і сьпякліся. Чорныя бровы, ссунутыя ад болю, разгладзіліся. У яго целе амаль што ня засталося крыві - вядро ля стала скрозь было запоўнена чырвонымі трапкамі. Зьнятыя лахманы кашулі і курткі валяліся ля парога. Ганна і Якім як маглі перабінтавалі яго, але ж спыніць кроў, калі ў цябе папала столькі кавалкаў жалезьзя, ня мог ніякі ведаўскі сьпеў. Ганна магла толькі затрымаць яго душу, але ж утрымаць не магла.

- Ізноў падарваўся на той гранаце...хлопчык ты мой, хлопчык. Але ж цяпер адчуваю, што - назаўсёды.

Падарваўся, баронячы чужое жыцьце, рызыкуючы сваім. З самое вайны так і хадзіў з гэтай гранатай у кішэні, ніколі ня адпускаў. Ні вайну, ні гранату. Ды вось, згадзілася.

- Людцы мае, што ж гэта робіцца! Будзь ты праклятая, гэта вайна, яе жахі і крыважорства. Жыць бы і жыць Івану на тым сьвеце, які гэты, ажаніцца з маёй Альжбэтай, пастроіць хату, вырасьціць сыноў, пражыць сваё ды спакойна сысьці ў Дзяды на вечнае жыцце. Але ж не атрымалася. Ўсё зруйнавалі едным часам. Не атрымалася ні ў Івана, ні ў мяне, ні ў Альжбэты. І

вось мы апынуліся тут - усе жыхары з адной вёскі. Спаленай, зруйнаванай да зямлі. Знайшлі тут, у лясных Дзядах, свой прытулак. Не жывыя і не памерлыя. Неба нас ня прыняла. Толькі лес укрыў. Ды вось і зь яго прыйшла навала. Ой, Іван Іван, памёр ты на гэтым сьвеце, паміраешь і на тым. Няма нам адсюль выйсьця, няма душы паратунку. Ці ж гэта так сыходзіць у вырай твая душа, адкупіўшы ўсе зямныя грахі?

Раптам Ганна спыніла галашэньне, прыслухалася да нечага, і кінулася да вакна.

Пляснула ў далоні.

Закрычэла:

- Якім, Якім, адчыняй! Яны ідуць!

Расчыніўшы шырока дзьверы, Міхась увайшоў у хату. Прыгнуўся, каб ня стукнуцца галавой - дзьверы Якім зрабіў па мерцы гаспадара.

Нічога ня кажучы, адразу пайшоў да Івана.

Той ляжаў на шырокай лаўцы, на кажуху. Пад галавой - падушка. Бледны, нібы празрысты. На парозе сьмерці яго твар здаваўся зусім маладым, амаль хлапечым. Нос завастрыўся, шчокі страцілі ўвесь свой юнацкі колер. Вочы былі закрыты. Кроў ужо амаль перастала цячы з ранаў - відаць, ужо амаль ня засталося той крыві ў яго маладом целе.

Амаль ня засталося і жыцьця.

Ціхенька падышла і стала радам Ганна, з чырвонымі ад слез вачыма, прыкрыўшы рот хусткай. Яна ўжо ня галасіла, а толькі

ціхенька ўсхліпвала, ды Іван яе ня чуў. Ён нікога болей ня чуў. Блукаў ужо недзе далёка, гойсаў высока ў небе бязклапотнай птушкай, ды пляваць ён хацеў на гэты пакутны мір, які застаўся далёка ў нізе. Яму было так хораша, прывольна. Побач з ім, ён адчуваў, недзе высока, лунае і душа Альжбэты. А болей яму нічога было і непатрэбна.

Міхась палажыў сваю шырокую далонь Івану на грудзі. Сэрца яшчэ білася. Стучэла ціха, няроўна. Нібы спыняючыйся гадзіннік. Ён нахінуўся, слухаючы. Палажыў другую руку Івану на галаву. Ды так і стаяў, нібы спрабуя намацаць нешта, нейкія рэшткі жыцьця, зьвязаць іх, зьвясьці ў суцэльнае адзінае, каб пацягло жыццё ў Іванавы жылы, забегла ў іх гарачая кроў, застучэла ізноў маладое сэрца. Не атрымоўвалася. Бо час Івана настаў, і няма таго чараўніка, які б здолеў спыніць руку Мары, адвесьці яе губы, якія прыгатаваліся адарыць паміраючага воя сваім прахалодным пацалуем. Скрозь цемру ў вачах Івана бачыўся Міхасю твар яе, бязлістасны і міласэрны. Нешта шапталі яе чорныя пухлявыя губы, і качалася перад імі яе тонкая белая рука. Зараз абручыцца яна з Іванам пярсьцёнкам сьмерці, як ужо рабіла са многімі дастойнымі ваярамі. І пойдзе той да яе царства ў самотную зямлю, дзе стаіць адвечная восень, і так рэдка прыходзіць вясна.

Ціхенька, як цень, аддзялілася ад дзьвярэй Летыцыя.

Жалебная нявеста ў белым пахавальным убраньні; карункі павісьлі ашмёткамі, тонкія рукі былі перапачканы крывёю Міхася, якога яна толькі што абдымала.

Гэта з-за яе Іван загінуў, сьвядома ахвяраваўшы сваё жыццё. Праз яе ваўкалакі пачалі турбаваць вёску, а Міхась болей ня змог мірна жыць у сваёй хаціне ў памежжы. Але ж што зроблена, то зроблена, і значыць, так і трэба.

Бо цяпер, калі яны былі разам, яна адчувала ў гэтым нейкі высокі сэнс, руку лёсу, кола якога рабіла свой паварот да

нечага новага, істотнага, вялікага. Для ўсіх. Усіх іх.

Яна падышла, і ціхенька стала побач з Міхасём ля лавы, на якой ляжаў Іван. Глядзела ў яго мілы твар, такі спакойны і прыгожы ў сваім сьне, і слезы раптам пацяклі ў яе з вачэй.

Міхась напружана думаў. Ці не перадаць Івану апошнія рэшткі свайго чараўніцкага дару? Гэта б вырашыла праблему. Але ж каб ён жыў і мучыўся шмат гадоў, як пражыў сваё жыццё ён?

Каб пачаў бачыць чарцей да дземанаў, каб яго сьветлы юнацкі твар адвеку зьмяніўся, носячы адбітак тугі і цяжару страшных чараўніцкіх ведаў?

І што тады будзе ў яго за жыцце?

Ці застанецца з ім яго нявеста?

Ці ня згубіць ён сваю душу, блукаючы ў багне ды цемры?

Бо тады выйсьце да сьвятла яму будзе вой як далёка, сам ён блукаў колькі гадоў, пакуль ня здолеў знайсьці яго.

Так стаяў Міхась, трымаючы ў сваіх руках хрупкае, трапяткое іванава жыццё. Стаяў і мучыцельна спрабаваў прыняць адзінае, вернае рашэньне.

Але ж тут раптам Ганна, наблізіўшыся, ўзяла Летыцыю за руку, і палажыла яе на руку Міхася. А зьверху на іх палажыла сваю руку.

Ідзі, жыццё, ў новае цела. Хадзі, душа, у залатыя харомы, дзе

табе месца прыгатавана, мяккае ды ўтульнае, да пары да часу, пакуль не народзіцца новы вой, мужны ды ўдалы, моцны ды прыгожы як сонца, каб жыць яму доўга, Сварог яму бацька, Лада яму маці, Жыва яму сястра, а Леля яму нявеста.

Пакуль кола не павернецца, душа да Мары ня зьвернецца. То кажу я, ражаніца сужаніца, сварожжа сястрыца, а табе бабка.

Слова маё крэпкае, ні вадой яго ня змыць, ні агнём не спаліць, ні на землю ні на вецер ня зьвесці ня перакінуць. Ад Рода і да рода і з роду ў род.

З гэтымі яе словамі Іван раптам глыбока ўздыхнуў, яго цела напружылася, а затым апала, і ён адышоў.

# ГЛАВА 19 : Чорны агеньчык

- Ты. Забрала. Маё.

Мара стаяла перад Ганнай, узвышаючыся над ёй ці не на дзьве галавы.

Высокая, шаноўная панна перад упартай сялянкай. Зараз яна будзе прымаць рашэньне - даравацьтой, ці пакараць.

Мара насалоджвалася момантам Ганнава прыніжэньня.

Яна, багіня сьмерці і ўладальніца лёсаў, магла бы вырашыць яе лёс адзіным рухам. Калі б не адно "не". Кваліфікаваных ражаніц ня так шмат на сьвеце. Мары не хацелася парушаць баланс, які так прыгожа ўсталяваўся. З адной стараны, добры рэгулярны прыток ваяров ды іншых душаў (і ня-душаў ў яе царства, а з другой - такі ж гарманічны прыток маладых душаў на зямлю, дзе яны набіраліся вопыта, сталелі, а потым ужо займалі свае месцы ў сапраўдным міры дарослых - яе міры.

Да таго ж, яна асьмелілася адабраць у яе Яе роднае дзіця, і перадаць душу Сварогу. Ну што такое. Мара была вельмі, вельмі незадаволена, хоць і крыху зацікаўлена. Гэтая бязглуздая баба, а ў Мары не было для ее іншага слова, улезла са сваім прымітыўным знахарскім чараўніцтвам і закруціла лёс яе сына так, што мала ня будзе.

Гэта ж трэба дадумацца, прысьвяціць дзіця, якое нясе на сябе ад нараджэньня метку сьмерці - яе, Мары, фамільны герб, нейкаму патлатаму дзікуну! Селяніну, кавалю, быдлу гэтаму сівалапаму.

Мара нават раз'юшылася. Сварогу прысьвяціць яе сына! Нейкую Ладу яму прызначыць у маці! Ну, добра яшчэ, што з сястрычкай і нявестай пашанцавала. Дзеўкі хоць прыгожыя і не дурныя. Хаця... Леля. Тут Мара ізноў скрывілася. Ну да ладна, мужчыны такое любяць. Колькі яшчэ будзе ў Івана гэтых дзевак! Уж яна, Мара, пастараецца, каб яе роднаму любаму сыначке жылося ня сумна. Вясёла каб жылося, каб было што ўспомніць. Тут Мара ня ўтрымалася, і хіхікнула. Але ж сабралася, і ізноў сьвірэпа глянула на Ганну.

- Ён. Павінен. Быў. Загінуць.

Дакладна, дзелячы на словы, выгаворвала яна Ганне.

- Гэты Іван, ён бы ніколі ня стаў мужам тваёй дачкі. Яна прыназначана другому. Яна ўжо кахае другога. Калі ты, дурніца, ня ведаешь.

Тлустая, нязграбная дурніца. Мара падумала так громка, што Ганна пачырванела.

І нахальная, да таго ж. Ну да ладна. Душа Івана была патрэбна мне, першае, каб ён выратаваў маю дачку, мой зямны аватар, як цяпер кажуць, маю любую, дарагую, прыўкрасную дзевачку-ведзьмачку, а потым бы ЗАГІНУЎ, і яго душа, сьветлая і прыгожая, спорыць ня буду, нарадзілася б пад маім сузор'ем, маёй планетай - Марсам. А ты зьмясьціла яго нараджэньне, ды прыцягнула ў яго астру занадта шмат сонца. Ён што, грэбаны Бальдр, прыдурак з дудачкай? Навошта яму столькі сьвятла?

Часам я шкадую, што дала вам столькі свабоды волі рабіць глупствы. Але ж, хай будзе так. Паглядзем. Мне будзе яшчэ весялее дасягаць сваіх мэтаў у такіх складаных абставінах. Я, Мара, простых пуцей не шукаю, але ж і са складаных не саступлю.

... Ах Міхась, Міхась... як жа я бы хацела кахаць цябе!

Кахаць горача, дакранацца да твайго цела, цалаваць цябе ў губы ... але ж, на жаль, ты сьмяротны, і ня вытрымаеш майго пацалунка.

Я хацела цябе з таго моманту, калі ўпершыню ўбачыла там, на полі бойкі, пад Грунвальдам. Ты быў як малады бог ці паўбог, Арэс, Марс, Ахіл ці Геркулес. Я люблю назіраць за тым, як вы, людзі, бьецеся - па ўсіх правілах іскусства, пераўтвараючы сьмерць у прыўкрасны жудасный танец.

На тым полі ты быў каралём. Я ніколі ня бачыла столькі целаў, якія б валіліся каля аднаго чалавека. Ты праходзіў праз натоўп як віхур, ляцеў на сваім чорным кані, а побач - свора вялікіх рымскіх псоў, якія, нажаль, хутка загінулі. Але ж ты не зьвярьтаў на гэта ўвагі. Мае вочы песьцілі твае рукі, у якіх ты трымаў меч, я ўдыхала пах твайго цела, зьмешаны з крывёю і жалезам ... як бы я хацела ... .

Я была вось-вось гатова пацалаваць цябе тады, але ж ты ўскользваў... цябе ніхто ня мог забіць! Ну што такое... і тады я вырашыла: я падгатоўлю нашую сустрэчу. Не, гэта будзе не хуткая перамога і не кароткачасовы раман, а гісторыя даўжынёй у бясконцасьць.

Таму я прыйшла да цябе ў зямным целе, пражыла хоць і кароткае, але ж зямное жыццё, цярпела ўсіх гэтых хлопцаў, іх няўмелыя губы і рукі, іх прымітыўную жарсьць, калі яны думалі толькі аб тым, каб палучыць разрадку, ня разумеючы, якім прыгожым і ўзьнёслым, экстатычным можа быць каханьне. І я знайшла цябе, а ты знайшоў мяне. Скажы, ці добра цябе было са мною?

Так, ведаю, што дужа добра. Так, што ты да гэтай пары ня мог і ўявіць.

Табе таксама прыйшлося пачакаць. Хоць твой шлях да нашага каханьня быў крыху даўжэйшы ў параўнаньні з маім. Амаль семьсот гадоў! Хто са сьмяротных вытрымаў бы такія выпрабаваньні?

Дзеля пачатку я прыняла воблік Саламаніды, проста каб апынуцца з табой побач і паглядзець зблізу на твой благародны твар. О, ты быў самым прыгожым з рыцараў у той карчме, а там сабралося ня мала высакародных і храбрых ваяроў з усіх краінаў.

Канешне, ты адразу заўважыў мяне - я пастаралася.

Не магу забыцца ад заміленьня, як ты падлічваў у думках кошт маіх упрыгожваньняў ... каб уверыцца ў маёй высакароднасьці. Я была так задаволена, што не памылілася, выбраўшы гэты вобраз.

Бо калі б я явілась да цябе ў выглядзе вясёлай карчмаркі ці якой даступнай дзеўкі, ці доўга бы ты кахаў мяне?

Не, я абрала іньшы пуць. Хоць і ледзьве трывала каб не аддацца табе за вуглом карчмы на ахапцы сена.

Ты пакахаў бы мяне там? На сене? Амаль што на віду? Быў бы грубым, ці пяшчотным? Ці ўразумеў бы ты, што ты кахаеш сваю сьмерць? Уваходзячы ў мяне, што бы ты адчуў? Мне ўжо было ўсё роўна, але ...

Я абрала невялічкі тэатр.

Але ж усё было рэальна? Яшчэ як рэальна! Ты кахаў яе-мяне

колькі гадоў! Ты шукаў мяне, бабку дзеля мяне патапіў - старую дурніцу. Да яна ж ужо даўно напрошвалася. Яна табе расказала праўду - і дзевак забівала, і вадзяному цару іх аддавала. Дарэчы, тое возера асобае. Яно многія годы было местам ахвяраваньняў. Вой там і сіла. Нават я бывае туды сыходжу, пасядзець на беражку ля вады, памыць ногі.

Так што ты прайшоў доўгую школу, якую сконьчыў выдатна. Цяпер ты гатовы і да ўніверсітэту. А вось мне не прыйшлося так доўга ісьці да цябе праз жыццё на гэтым сьвеце. Толькі 18 гадоў. Амаль 19. Бо я нецярплівая. Я так жадала цябе, і наканец атрымала. Ты помніш наш першы раз, на кватэры? Калі я адзела каралі і мой вэлюм, ты зразумеў, хто я? Але ж я дала гэтаму дзіцю, сабе, свайму аватару, таксама свабоду волі. Я прысутнічаю ў яе душы як маленечкі чорны агеньчык, нібыта гледзячы цудоўны, захапляльны фільм, дзе я кахаю цябе. Калі ж я, настаяшчая, пацалую цябе, і ты сойдзешь у мае царства, я абяцаю, што наша сустрэча будзе дзіўнай, мой дарагі, мой любы, мой каханы.

Міхась выслухаў яе маналог у задуменьні, але ж не выглядаў ні зьбянтэжаным, ні нават зацікаўленым.

- Даражэнькая, ці ж ты думаешь, што я зусім дурны? Да таго ж, не забывайся, што я чараўнік, і ваяр. Я столькі разоў глядзеў цябе ў твар, што няможна пералічыць. О, я добра ведаю шо такое Твар Сьмерці, і Твар Мары. Я забіваў шмат у сваім жыцці, так, гэта было. Адменны пастаўшчык твайго дзікага войска з нежыці і загінуўшых душаў. Але ж я мала ведаў каханьня. Што ж, ты мяне навучыла. І, дарэчы, перахітрыла самое сябе. Бо, так, я пакахаў Яе. Не цябе.

Ты гэта не яна, бо ты - смерць а яна - жыццё. Ты - злая свавольніца, жорсткая разлучніца душаў, а яна - сама Любоў і Ахвяра. Я ня ведаю, які такі чорны агеньчык ты схавала ў яе душы ... яе душа само сьвятло, і гэта яна, яе каханьне зрабіла

меня чалавекам. Якія доказы табе патрэбны?

- Ніякіх, - змрочна ўсьміхнулася Мара.

- А пра чорны агеньчык... Хутка даведаешься. Усё у свой час.

Раніцой Міхась узьняўся зь цяжкой галавой, нібы папіўшы добрага, ці, дакладней, ня вельмі добрага віна.

Нешта ён сьніў, аб нечым гаворыў з Марай, здаецца, спрачаўся, ... але аб чым дакладна, і што яму Мара сказала, успомніць ня мог. Ня мог, але, як кажуць, асадачак застаўся.

Ды ранешняе сонейка разагнала з яго душы ўсе хмары.

Летыцыя ляжала побач, і ціха спала. Яе вочы былі шчыльна заплюшчаны, валасы цяжкой хваляй закрывалі твар. Міхась асьцярожна ўбраў іх, каб не перашкаджалі, і, не ўтрымаўшыся, пацалаваў яе ружовую са сна шчаку. А потым вуха... а потым яна прачнулася, і папыталася закруціцца ў коўдру, каб затрымаць рэшткі нейкага прыемнага сну. Але ж ня выйшла.

Яму хацелася ўвабраць яе ўсю, утапіць у абдымках, каб яна стала часткай яго цела, і яго душы. Хацелася зьліцца з ёю, і не расставацца ніколі. Яна была патрэбна яму, а ён патрэбен ёй. У гэты раньні час, калі сонца толькі ўзышло, яна выглядала такой безахоўнай, маленькай і хрупкай побач з яго моцным, загарэлым целам. Яго шнары ўжо амаль зацягнуліся, Ганна дазволіла зьнять бінты, і ён кайфаваў ад свабоды аголенага цела, бо хто ж любіць хварэць. Не любіў і ён, таксама. Яго раны ўсё яшчэ загойваліся хутка. Мнага хутчэй, чым у звычайных людзей, але ж тая бойка яго патрапала. Добра яго тады парвалі гэтыя чумныя ваўкі. Але ж і яны з хлопцамі палажылі нямала. Амаль што нікога не засталося. Тыя, хто выжыў, разьбегліся за трыдзевяць зямель. Так што памежжа яны ачысьцілі. Пакуль

новыя не народзяцца ды ня вырастуць, баяцца няма чаго. А гэта больш за сотню гадоў.

Міхась салодка пацягнуўся.

Хай Летыцыя пасьпіць, а ў яго засталася яшчэ адна справа.

Калі Летыцыя прачнулася і выйшла з пакою, з кухні яна пачула галасы: Якім спрачаўся зь Міхасём.

Як і ў першы раз, усё, што яна здолела пачуць, былі толькі ўрыўкі словаў. І як і тады, размова ішла пра Нікіфара.

# ГЛАВА 20 : Новыя старыя сустрэчы

Яна ціхенька спынілася ў праходзе, і крыху паслухала.

- Ну куды ты пойдзеш! - незадаволена бухцеў Якім. - Ты паглядзі на сябе, ледзьве ачуняў. Хочаш, відаць, пакінуць дзіця сіратой, а яна каб нарадзіла гаротнай удавой. І што ты так сьпяшаешся памерці? Хочаш хутчэй да Мары трапіць, каб ... далей Летыцыя не разабрала, але ўжо і пачатак ёй вельмі не спадабаўся.

- Ні ў якім разе не хачу, і не зьбіраюся памерці, - упарта пярэчыў Міхась. І ў Мары мне няма чаго рабіць. Пакуль што, ва ўсякім разе. Але ж няможна пакінуць яго там на ланцугах. Не па-людску.

- А ён заўсёды паступаў па-людску? - узьярыўся Якім. - Хлопцы ня пойдуць! Ім ужо Івана хапіла. Ды і колькі ён шкоды нарабіў ....ай я яй...тут Якімаў голас змоўк, і ізноў загучэў упарты голас Міхася:

- Тады я пайду адзін. Нічога, хутка схаджу туды, і зьвярнуся назад. Але ж я хацеў бы ...

- Ай, дастаў ты мяне, пераканаў. Прыставучы, як вар. Пойдзем з табой разам. У дваіх. Да таго ж, я бы цябе і так аднаго не пусьціў. Дзеўку мне жалка. Не цябе, дурнога, хоць ты і былы ваўкалак, ды сілаў шмат яшчэ, але ж розуму ў цябе няма. Адкуль у ваўкалака розум.

- Няма, - ня стаў спрачацца Міхась. - Ну дык пайшлі?

Тут громка зарыпеў пасоўваемы стул.

Летыцыя была кінулася назад у пакой, каб яе не заўважылі, але ж ізноў пачула Якімаў голас:

- Куды? Сядзі во, даешь. Зараз абмазгуем дэталі паходу.

Яна на цыпачках, ціхенька, як цень, прасьлізнула на вуліцу.

Надвор'е абяцала быць сонечным і цеплым.

Некранутыя расінкі на траве зьзялі нібы дыяманты, сарамлівыя палявыя кветкі ўзьнялі галоўкі насустрач ранішнім промням, вітаючы новы дзень.

Як была, у адной тонкай ніжняй кашулі, яна прайшла праз двор да калодзежа і далей, на луг, дзе недалёка журчэла-зьвінела маленькая крынічка. Яна любила гэты ранішні рытуал: прачнуцца адразу пасьля ўсходу сонца, крыху паляжаць у цёплым ложку, а потым пайсьці на луг, да ручайка, абмыць твар ледзянай вадою, зьняць адзеньне, і ўвайсьці ў халодную крыніцу, якая ў самым глыбокім месцы ледзьве дасягала ёй да пояса. Вада там была крыху не такой халоднай, як у самага вытока, і можна было даволі камфортна выкупацца. Яна ўмылася, падабрала валасы, зьняла кашулю, і ўвайшла ў ваду. Адразу яе цела загарэлася, як ад уколаў мноства ледзяных крышталікаў, але ж гэта было прыемнае адчуваньне. Узьняўшы ў гару рукі, яна пацягнулася да неба, а потым хутка акунулася, каб не замачыць валасы, і на хвілінку памарудзіла, стоячы па пояс у вадзе, аддаўшыся подыху ранішняга летняга ветрыка, цеплыні паветра і ліючымся са ўсіх бакоў птушыным сьпевам.

Мір вакол быццам замёр, сьцішыўся, і таксама слухаў.

Яна выйшла з вады, нахінулася, каб узяць адзеньне, і нацягнула

кашулю на мокрае пасьля купаньня цела. Палаценцаў тут заведзена не было. Былі прыгожыя рушнікі ў Ганны ля чырвонага кута, але ж не дзеля выціраньня пасьля купаньняў у палявой крыніцы.

А калі яе галава прасьлізнула праз горла кашулі, яна раптам стала, як укапаная.

Прама перад ёй стаяў, і глядзеў на яе Нікадым, які нечакана выйшаў з-за пышнага куста лазы збоку.

Яна так і замёрла, напаўадзетая, з кашуляй на плячах, гледзячы на яго з жахам. Яе сэрца загнана білася, як у трапіўшай у сілкі птушкі. Яна машынальна абцянула ніз кашулі і раскруціла валасы, якія цяжкой хваляй упалі ёй на плечы і грудзі, нібыта яна хацела прыкрыцца імі ад яго прагнага позірку. Ён стаяў і глядзеў ўпэўнена, быццам бы меў на яе ўсе права, быццам яна была яго рэч ці цацка.

- Што ты тут робішь? - ціха прашаптала яна, адчуваючы, як паветра не хапае ў горле.

- Сачу за табой, - адказаў ён, гледзячы прама на яе, нібыта разпраная поглядам. Здавалася, ён бачыў яе душу.

- За вамі, - дабавіў ён. Пасьлядавала доўгая паўза.

- Адкуль ты ведаешь? - у голасе Летыціі прагучэў зусім ужо ірэальны жах.

- Я ведаю яшчэ нешта, - дабавіў ён, цяжка раняючы словы. - Іх будзе двое.

Ад гэтых слоў кроў кінулася прэч ад твара Летыцыі, і моцна

ўдарыла прама ёй ў сэрца, і яшчэ некуды, дзе білася нечае маленькае жыццё. Два жыцця. Блізьняты. У яе будзе двойня, і адзін з іх - яго, Нікадыма. Дзіця гвалту. Цень. Яго і яе. Ёй здавалася, што яна зараз страціць прытомнасьць, і ён зрабіў крок наперад, каб падхапіць яе, але ж яна не далася. Хутка ўзяўшы сябе ў рукі, яна адхіснулася, і вывярнулася.

- Яшчэ крок, і я закрычу! - толькі і змагла прашаптаць яна, глытаючы сьлёзы.

Але ж крычаць ёй не прыйшлося, бо крык раздаўся ад хаты - громкі і ўстрывожаны Міхасёў голас:

- Летыцыя! Ты дзе?!

- Усё добра, мы тут! - раптам, апярэдзіўшы яе, крыкнуў Нікадым.

Міхась хуткім крокам ішоў да крыніцы.

Наблізіўся, і раптам спыніўся. Яго позірк сканіраваў, адзначаючы дэталі: Летыцыя ў мокрай кашулі, ля вады. Белая скура палахае чырвоным румянцам, мокрае адзеньне, калі яго можна так назваць, не хавае яе прыгожага цела. Стаіць басанож на маленькам астраўке травы ля крыніцы, а далей пачынаецца высокая лугавая трава, якая цягнецца аж да самага лесу. Не прымятая, ў расе. Побач з ёй - Нікадым, як нішто сабе, у паходных скураных штанах і куртцы, кучаравыя валасы зблытаныя, на баку - кароткі меч, ды паходная сумка. Як заўсёды, гібкі, лоўкі, спрытны, у вачах гарэзьлівыя хітрыкі. Цікава, як ён прабраўся... . Трава не памятая. Ці ня зь вечару начаваў? А чаму сразу не пайшоў да Якіма? Цікава ... ды чорт яго, чорта, разьбярэ. Напэўна, вяртаўся з нейкай шкоды, ды завітаў па звычаі сюды. Міхась ужо даўно махнуў рукою на тое, што Нікадым шлёндаўся недзе па сваіх справах, але ж быў вельмі ўдзячны яму, што калі то было патрэбна, ён заўсёды

апынаўся побач. Гэтага ў Нікадыма было не адняць. Вось і зараз ён прыйшоўся як нельга болей да месца. Бо яны як раз зьбіраліся з Якімам у паход, і спрытны і лоўкі меч чорта быў да спатрэбы. Таму Міхась, нічога не сказаўшы, шагнуў, і працягнуў чорту руку. - Здароў! Даўно ня бачыліся! Той адразу ахвотна пацiснуў яе. Разам яны прасьледвалі да хаты. Міхась абдымаў Летыцую за плечы. Нікадым бадзёра крочыў побач, пераскокваючы праз паваленыя рэшткі плоту ды ахапкі сена. Настрой у яго быў яўна прыўзьняты.

- Ну, дзе бываў? Расказвай! – было відавочна, что Міхась з Нікадымам быў на кароткай назе.

- Да так, недзе быў, нешта рабіў, - ухілiста адказаў той. – Ты ж ведаешь, грошы самі зь неба ня падаюць, а жыць неяк трэба. Зарабляў сам-насам.

- То да, грошы рэч не благая, - кінуў Міхась. – Ну і што, шмат зарабіў?

- Ды хопіць на нейкі час, - махнуў галавой той.

Ужо падышлі да хаты.

Раптам Міхась зьняў сваю куртку, і накінуў на плечы Летыцыі.

- Так болей не хадзі, - сказаў адрывіста.

Яна зьдзіўлена глянула на яго, але нічога не сказала, толькі шчыльнее захінулася ў адзеньне.

Нікадым глядзеў сабе пад ногі, але ж, ёй здавалася, скрытна ўсьміхаўся.

# ГЛАВА 21 : Жанчыны і мужчыны па асобку

У хаце Міхась, Нікадым і Якім адразу пайшлі на кухню, дзе доўга радзіліся.

Летыцыя пайшла да Ганны, якая летнім днём прыгатавала ежу на двары пад павецьцю, і села на наваленае на вазок сена. Ганна наліла ім па стакану малака, адрэзала па лусьце хлеба, і яны пасьнедалі.

Прыгожы летні дзянёк ужо коціўся да палудня. Нарэшце мужчыны дамовіліся аб нечым, і разам выйшлі на двор.

Нікадым гарэзна гуляў сваім кароткім бронзавым мячом з залатой дзяржальняй. Міхась і Якім ішлі проста, с голымі рукамі. Якім толькі памахваў доўгай пугай з драўлянай рукаяцьцю.

- Мы пойдзем, паглядзем, што там у лесе, - коратка кінуў ён Ганне. Та моучкі кіўнула.

- Да вечара зьвернемся.

- Вы там глядзіце, - строга кінула яна.

- У шасьцёра вачэй, - зарагатаў Нікадым, і яго начышчаны, адпаліраваны меч ярка бліснуў на сонцы.

Калі хлопцы сышлі са двара, Летыцыя устала з вазка, ды блізка падышла да Ганны.

- Прабачце, але ж мне патрэбна ваша дапамога. Мне патрэбна дарада, - проста вымавіла яна.

А потым, ня вытрымаўшы, разрыдалася.

Пакуль яна расказвала Ганьне сваю доўгую гаротную гісторыю, тая нічога не казала, толькі сядзела, падпёршыся рукой, і прама глядзела на яе строгім поглядам блакітных вачэй, у якім адначасова чытаўся такі пранізьлівы бабскі жаль, што нават самы жорсткасардэчны чалавек праліў бы не адну слязу. Але ж Ганна сама была прывычная да трагічных жаночых гісторый. За сваё доўгае жыццё яна пабачыла ўсялякае. І тое, што нікому і ніколі ня трэба бачыць.

А уж пра гвалт яна магла бы расказваць гадзінамі. Тут для яе нічога дзіўнага не было.

Жанчына, якая пражыла ў вёсцы амаль усю вайну, яна ведала і не такія гісторыі. Тут жа, на яе погляд, усё было амаль што палюбоўна. Дзеўка цэлая, ня бітая, нічога такога. Ну, прыціснуў да хвоі. З кім не бывала. Чаму рабіць такую трагедыю? Але ж калі Летыцыя стала апавядаць пра іх з Нікадымам размову сёняшней раніцай, выраз твара Ганны зьмяніўся адразу. Стаў напружаным і нават жорсткім.

- Як гэта магло здарыцца? Як ты магла дазволіць, дапусьціць да такога? – раптам накінулася яна на Летыцыю.

Тая, нічога ня ўцямліваючы, глядзела на яе.

- Цётка Ганна, ён жа меня прымусіў, - нарэшце вымавіла яна. Ён жа …

- Прымусіў? – зарагатала Ганна. Цябе што, пяцёра трымалі? Глядзіце, прымусілі яе. Канешне, калі такі прыгожы кавалер, хоць і напалову чорт, увіваецца вакол, то ён каго хочаш … прымусіць. Нават і мяне можа … прымусіць, хоць я і старая. Страшны гвалт! Здзекі!

Летыцыя пачырванела.

- Ён сказаў … ён сам.. а потым …скажа…

- Ён сказаў, а ты паслухала, разьвесіўшы вушы! – гневу Ганны не было межаў.

Раптам яна суцішылася.

- Ладна. Нічога. Разьберымся. Не турбуйся, цябе нельга. Сядзі вунь, суніцы еш. Гэта справа папраўімая.

- Як? – запытала здзіўлена Летыцыя.

- Убачыш, - жорстка адказала Ганна. – Не твая справа, а мая. Усё будзе добра. Дзеля Міхася я гэта зраблю. Не дзеля цябе, дурніца. І каб болей ты мне на вочы ня пападалася са сваім … Нікадымам, а то вазьму пугу, і як адхажу… Абодзьвух. Па мяккіх мястах. А ты – усё, забудзь. Як і не было. І не дай Божа, не дай табе Божухна Міхась вас убачыць, ці ты яму, курыная галава, раскажаш. Не дай Божа ні табе, ні Нікадыму.

І яна выразна пагразіла пальцам.

Летыцыя кіўнула, уцяміўшы.

Ня гледзячы на гнеў Ганны, яна ведала яе добрае сэрца, а таксама тое, што тая рожаніца, жрыца старэйшага з Багоў, Рода, нарадзіўшага сусьвет і ўсех іньшых багоў, і самое Мару. А рожаніца стаіць пры калысцы дзіцяці, і дае яму лёс, ці добры ці благі, як яна будзе судзіць па волі багоў.

Сабе ж Летыцыя не магла дараваць. Яна сабе ніколі не даруе, ведала яна. Ніколі. Гэта здрада навекі застанецца чорнай плямай на яе душы.

У вечары мужчыны зьвярнуліся з лесу стомленыя, але задаволеныя.

Ніякіх ваўкалакаў і ніякой нечысьці вакол не наблюдалася. Толькі звычайныя перапуганыя ваўкі гойсалі, нюхалі паветра, пад’ядалі рэшткі ваўкалачых трупаў. Яны з ваўкалакамі ня дужа

сябравалі – канкурэнцыя.

Якім парачку прыласкаў такі пугай, і цяпер яны валаклі іх да хаты.

- Навошта яны табе? – грэбліва вапрашаў Міхась.

- Шкуры зьніму, кажух паш'ю, - гаспадарча адказваў Якім. – Добры, цёплы, яшчэ і ты папросіш. Будзеш насіць і бога прасіць.

- Я?! – зарагатаў Міхась.

- Ну а хто, я? – у сваю чаргу адказаў сур'ёзна Якім. – У меня кажух ёсьць, з аўчыны. А ваўчыная шкура табе больш даспадобы. Свая, вунь, ужо ня вырасьце. Нейкі ты… лысы.. воўк. І тут ён ад душы разрагатаўся.

Нікадым проста ня мог трываць, ухапіўся за жывот, і сагнуўся напалову. З такім вясёлым настроем яны ўвайшлі на двор.

Ад іх рогата і жартаў сэрца ў Летыцii супакоілася, перастала ліхаманкава калаціцца. Ганна таксама гігікала.

Селі вячэраць на вуліцы. Па случаю Якім дастаў свае адмысловыя напоі, і хлопцы іх так накаштаваліся, што ледзьве паўсталі з-за стала.

- Ой, Якім, дзякуй! Панскі быў стол, не благі! – радаваўся Нікадым.

- А ты калі апошнім разам за панскім сталом сядзеў? – пацікавіўся сур'ёзна Якім.

- Нуууу, была справа… - працягнуў той.

- Ага, у адной паненкі, якая табе накрыла і пасьцяліла, пакуль пана дома не было, - раптам пажартаваў Міхась.

Нікадым ледзьве не падавіўся кавалкам.

- Ты што? – здзівіўся Міхась. - Ці ты не ў ксяндзы мяркуеш

пайсьці, што ты так паненак пужацца пачаў, нават успамінаў?

Той ні слова ня кажучы, усхапіўся, і некуды ірвануў.

- Да ветру, мабыць, - прапанаваў Якім. – Нікадым, з табой усё добра? – выкрыкнуў Міхась.

- Добра, добра, - даняслося з-пад павеці, дзе Ганна мыла посуд. Вунь ён, за пуняй, прыстроіўся. Яму там дужа добра.

І ўсе пакаціліся ад рогату.

Летыцыя пайшла спаць рана. Яна нешта стамілася за гэты доўгі, насычаны падзеямі дзень.

Апоўначы прыйшоў Міхась. Шоў ня тое штобы роўна, але ж і ня крыва. Даволі ўпэўна для чалавека, які прылічна пакаштаваў панскіх якімавых напояў.

Прыйшоў, расьцягнуўся на ложку, абняў яе і хутка заснуў.

Сярод ночы Летыцыя нечакана прачнулася. За вакном стаяў круглы, яркі, ружовы месяц.

Міхась ляжаў на баку, і глядзеў на яе.

Яна хацела запытаць, што з ім, можа, хоча вады, але ж ён ня даў ёй нічога сказаць, а нечакана закрыў рот доўгім пацалункам. А потым перавярнуў яе на сьпіну, і ўзяў так, як ніколі яшчэ ня браў – жорстка, нават балюча. Яна хацела вырвацца, але ж не змагла. Потым ён павярнуў яе на бок, і ўзяў яшчэ раз, трымаючы за доўгія валасы. Яна ніколі ня бачыла Міхася такім. З галантнага палюбоўніка ён ператварыўся ў жорстага, уладальнага чужынца. Ён не цалаваў яе, не лашчыў, проста рабіў сваю справу, нібыта яна была яго ваеннай здабычай. Яго рукі былі нібыта з жалеза, вены напружыліся, з горла вырываўся рык. Ёй здавалася, яго жарсьць ніколі ня скончыцца. Быццам бы ў яго год не было жанчыны. Нечакана перад яе вачыма паўсталі карціны нейкага старога ўсходняга горада. Ён палаў. Яна бачыла сябе на падлозе, на яркім каляровым дыване, і бачыла Міхася, які … Яна зразумела, што зьнянацку змагла

прачытаць яго думкі. Ён ня помніў сябе. Ён быў там. Ён рабіў гэта. Шмат разоў. Так, і нават горш. Ёй раптам стала жудасна.

Яна абняла яго за шыю, і пачала шаптаць яму ласкавыя словы – словы каханьня. Нібыта суцяшала яго, прыкладваючы ўсе сілы, каб выцягнуць яго з гэтага жудаснага сну. Паступова яго рухі сталі больш плаўнымі, ён ужо не сжымаў яе з такой нечалавечай моцай. А потым нібыта прачнуўся, асьцярожна абняў яе, прыціснуў да сябе, і зноў паснуў.

Летыцыя паснула толькі пад раніцу. Ляжала і адчувала, як б’ецца яго сэрца. Б’ецца роўна, спакойна. Нарэшце, заснула і яна.

Выбіраючыся з ложку, Летыцыя заўважыла, что ўся пакрыта крывападцёкамі і сьлядамі. Яе шыя была ў плямах, на сьцёгнах, плячах і грудзі – сінія водціскі пальцаў.

Міхась здзіўлена глядзеў на яе. Няўжо гэта ён? Гэта зрабіў ён? Як гэта атрымалася?

Ён ня мог уцяміць і ня мог знайсьці сабе месца.

- Я памятаю, я была ў тым горадзе, - прашаптала яму на вуха Летыцыя.

Ён у адчаі закрыў твар далонямі.

- Ты гэта бачыла? – ціха запытаў ён.

- Я гэта адчувала, - адказала яна.

Міхась узьняў на яе твар.

- Так, я быў там, - проста адказаў ён. – Мы ваявалі з сарацынамі. Узялі горад. Паўгода асады. Мы доўга чакалі, і калі мы апынуліся там… Гэта дзяўчына, яна была так падобна на цябе. Зусім маладая. Я рабіў гэта, і ня толькі. Я забіваў. Я грабіў. Я гвалтаваў. Такі я быў чалавек. Але ж я болей не такі. Я не хачу быць такім. Я зьмяніўся. Хачу зьмяніцца.

І ён шчыльна абхваціў яе, трымаючы, як апошнюю надзею.

А потым пацалаваў яе, і нечакана вымавіў:

- Затое сёння ты ня будзеш шпацыроваць паўголая ў адной адкрытай кашулі.

- Да ня толькі сёння, а можа і тыдзень, - сумна пагадзілася яна.

# Глава 22 : Нікіфар

Аграменнае, нібы ў волата з сівой даўніны цела напружана вісела на тоўстых ланцугах, не дасягаючы пола. Белым крыжом высьвятлялася яно ў цемры, нагадваючы кола з чалавечай плоці. Рукі і ногі, закаваныя ў кайданы, былі бязлітасна расьцягнуты ў бакі. Доўгія, чорныя як вар валасы віліся буйнымі кольцамі, вострая барада была ўскудлачана і падала на надзьмутые грудзі з абазначыўшыміся мышцамі. Чалавек ня меў адзеньня, толькі яго сьцёгны былі прыкрыты кавалкам акрываўленай анучы. Па ўсяму целу падсыхалі ўздутыя палосы ад пугі, многа дзе прарваныя да мяса. Сухія вусны сьпёкліся, пачарнелі і растрэскаліся. Але ж не вады ён прасіў. - Зямлі! Дайце мне дакрануцца да зямлі! - даносіўся глухі стогн з яго скрываўленага рота. - Але ж..., - працягнуў Якім, і пачасаў галаву праз шапку. - Аж узмок, пакуль дабраліся да цябе, - паскардзіўся ён. - Ды дзе зямлі табе ўзяць? Яны пачалі аглядвацца вакол. Сьцены былі пакрыты шчыльна падогнаным каменем, які таксама пакрываў і падлогу. Ні крошкі зямлі тут не наблюдалася. Нават прах па завугольлях хутчэй за ўсё утрымаўся са спарахнелых костак ахвяраў гэтых сутарэньняў. - Чортава месца, - сплюнуў Міхась. - Як у сябе дома, дык не плюешся, - кпліва заўважыў Нікадым. - Ай, прабач, усё забываю, што ты чорт, - Міхась шырока ухмыльнуўся. - Што б вы без мяне рабілі, - уздыхнуў Якім, ды палез некуды ў высокі бот, адкуль выцягнуў невялічкі мяшочак. А потым, з другога боку - другі. - Табе якую, з лесу альбо з могілак? - гасьцінна прапанаваў ён. - З лясных могілак! Давай, не цягні ката за прычындалы! - загрукатаў Нікіфар, губляючы трываласьць. - Колькі часу цярпеў, болей чым Пан на крыжы! Міхась узяў у Якіма мяшочкі, лоўка зьмяшаў іх, вымавіўшы нешта, і падкінуў воблачка ў паветра. Калі яно асела, Нікіфар ужо стаяў перад імі вольны. - Ну, дзякуй, хлопцы! Давай хоць абдымемся! - прапанаваў ён. ... Яны выдвінуліся да ваўкалачага логава зранку. Хутка перасеклі бор, ды выйшлі ў Памежжа. Мінавалі стары прытулак Міхася, і крочылі далей праз курганы. Памежжа - вельмі зручны дом для нячысьцікаў любога роду і разнавіднасьцяў. Перапона паміж ім і гэтым сьветам такая танюткая, што бывае нават цяжка

зразумець, дзе ты. Вось ты тут - а вось ужо ў Памежжы. Перайсьці гэтую мяжу асабіва лёгка ў момант найвышэйшай эмацыйнай узрушанасьці. Зойдуць любыя моцныя эмоціі, але ж найлепшая з іх - жах. Істоты Памежжа дужа любяць палохаць падарожнікаў, ды іньшы люд, раней яны даймалі вясковых жыхароў, якія апошім часам іх ня дужа цікавяць, бо звыклыя, і таму яны пераключыліся на турыстаў ды іньшых аматараў-вандроўнікаў. Ды і ў гарадах, асабліва старажытных, і ў мястэчках даволі шмат дзе можна трапіць у гэтыя месцы пераходу мяжы, пра што існуе шмат гісторый, якія ўсе ведаюць. Лоўка-складна плятуцца байкі, ды складаней расплётваюцца. Таму і пра памежжа, і пра яго жыхароў ходзіць даволі шмат супярэчлівых гісторый. Але ж няма таго, хто ня чуў бы захапляльных баек пра ваўкалакаў, русалак, чарцей да ведзьмакоў, якімі насычана памежжа. Ну а мяжу яны ўсе пераходзяць да нас зусім лёгка. Бо ж з нашай стараны няма ніякіх кардонаў. Мы да памежжа адкрытыя з усіх бакоў. І калі б ня сіла ды моц сьвятых месцаў, не малітвы вернікаў ды сьвятароў, то і зусім прарвалась бы тая мяжа як дзіравае рэшата, і пасыпаліся бы адтуль нячысьцікі і апанавалі б ўсю зямлю. Але ж на кожную драпежыну ёсьць свой паляўнічы. Такімі паляўнічымі ды кантралёрамі ў памежжы выступаюць пэўныя істоты, як, напрыклад, лесавік, ці некаторыя з роду пярэваратней, альбо чараўнікоў, тых, хто сочыць за парадкам на мяжы ды бароніць людзей ад усялякай напасьці. Міхасю ўжо даўно было бачна, что на мяжы і ў Памежжы адбываецца поўны 'беспрэдзел'. Але ж пасьля таго, як Летыцыя апавяла аб сваім сьне, стала відавочна, што сілы на памежжы збіраюцца ня проста так, не выпадкова расьце колькасьць засланцаў, парушальнікаў з той стараны. Сілы за Памежжам прыгатаваліся да вялікай бойкі. Раз пораз у гісторыі чалавецтва адбываюцца такія грандыёзныя бойкі паміж сьвятлом і цемрай, калі нараджаюцца новыя героі, і куюцца нябёсным кавалём Сварогам менавіта для такога часу высокія душы, якім суджана абараніць сьвет ад гэтакай навалы. Паволі прабіраецца цемра ў сэрцы людзей, марудна захоплівае іх, ды выціскае ўсё, акрамя самое сябе.

Першым прыходзіць бяспамятства. З душы чалавека знікае

памяць аб яго продках, старажытным мінулым яго зямлі, ён забываецца на родную мову, сваіх дзядоў, не шануе даўніну, ня памятае аб былой веліччы. Ваяры, сьвятары, асьветнікі, ніхто яго ні цікавіць. Ён мяркуе, што жыць мінулым ня трэба, трэба клапаціцца толькі аб сучасным, а ў сучасным яго вабяць адны лёгкія грошы. Толькі грошам ён прыдае сэнс, усё ацэньвае з пункту хуткай выгады. Ня думае аб будучыні, аб тым, як будуць жыць яго нашчадкі. Паступова ў чалавека зьнікае асэнсаваньне жыцьця, яго высокай мэты. Там, дзе няма нічога высокага, прарасьце пустазельлем нізкае. Істоты ніжэйшага сьвету дужа любяць тое, што прыніжае чалавека, зьнічтажае яго годнасьць, робіць яго рабом жывёльных жарсьцей, разбурае цела і душу. Але самае страшнае для гэтых істот – каханьне. Там, дзе каханьне, ім няма месца, таму яны ўсялякімі спосабамі імкнуцца яго зьнішчыць. Задача першага парадку для гэтых пачвараў – атруціць асьвечанае вякамі каханьне паміж мужчынай і жанчынай, пераўтварыць яго ў скоцтва, замяніць на жывёльныя, прымітыўныя адносіны, распаўсюджваць садомскі грэх ды гвалціць маладыя душы.

Наступная вялікая небясьпека ды мэта зруйнаваньня для гэтых вырадкаў гэта каханьне да роднай краіны. Чалавека, у якога няма каранёў, дужа лёгка зьнішчыць, бо ён не за што не трымаецца, і нішто не надае яму моцы. Маці зямля перастае ўшаноўвацца, людзі ня ценяць працу на зямлі, якая ляжыць у аснове нашага існаваньня.

Калі ж чалавек апынаецца пазбаўлены ўсяго сьвятога, адвечнага, прыходзяць яны. І лёгка займаюць вызваленае месца. Тады ўжо зьнікае і сам чалавек, як істота, пэрсона, і як душа. Атрымоўваецца адно толькі цела, у якім пануе цемра. Бо цемра пазбаўлена целаў, і яна дужа хоча іх атрымаць. І на тое ёй патрэбны людзі, якіх яна спакушае праводзіць сябе ў сьвет. Можна зьнішчыць цела, але ж душу ніколі ня зьнішчыць. Бо душа бяз цела становіцца вольнай, і ляціць да Бога. Таму проста зьнішчаць целы для цемры бессэнсоўна. Перш за ўсё яна прагне зьнішчэньня душы. І гэтым лёгка вызначае сябе.

Захоп сьвету нячыстай сілай будзе адбывацца ня праз зьнішчэньне фізічных целаў, а праз зьнішчэньне душаў. Гэта ёсць першая задача бясоўскага кагалу. Але ёсьць тыя, хто ведаюць, бачаць, ды супрацьстаяць ёй. О, такіх яна дужа баіцца! Самыя страшныя ворагі цемры тыя, хто душу ставяць уперад целу. Асабліва тыя, хто памятае. І тыя, хто кахае.

Каханьне да Летыцыі вяло Міхася праз цемру яго душы да сьвятла, і ён не намераваўся спыняцца. Аглядваючыся назад, ён жахаўся, колькі часу прайшло для яго у блуканьнях у бясконцым чысьцілішчы, дзе было ўсё, акрамя сэнсу жыцця, якой ён так шукаў. Цяпер ён меў гэты сэнс. Ён быў сляпы, але ж атрымаў зрок. Зараз ён дакладна бачыў і разумеў шмат таго, што праходзіла міма ў мінулым. Яркае сьвятло яго каханьня высьвятляла ўсе патаемныя цёмныя месцы яго душы, і адразу давала адказ на любое пытаньне, паўстаючае перад ім – толькі варта было ўзважыць яго на гэтых шалях.

Так, думаючы пра каханьне і яго ролю ў жыцці, ішоў ён праз лес Памежжа. Нікадым лоўка перамяшчаўся між камянёў ды дрэваў, Якім сапеў крыху ззаду.

Нікога не сустрэўшы, яны дайшлі да вялікай вежы, пад якой быў уваход у ваўкалацкае логава. Гэта вартавая вежа стаяла на мяжы Памежжа і рэчаіснасьці, і часта выкарыстоўвалася ваўкалакамі как засьценак ды перавалачны пункт. Міхась ішоў па паху Нікіфара, Нікадым з Якімам пільнавалі навакольле.

Уваход у вежу быў разчынены, быццам бы адтуль усе зьбеглі ў сьпешцы, пакідаўшы нават нейкія вартаўнічыя прылады, талеркі ды некалькі бутэлек.

- О яны тут разжыліся, - зьдзіўляўся Якім. – Глядзі! Як у сабе дома!

Спусьціўшыся ў сутарэньні, хутка знайшлі Нікіфара. Бачна

было, што пачвары ня мелі ні часу, ні жаданьня што небудзь рабіць з ім. Наогул, у пярэваратней ніжэйшага рангу вартаваць яго ахвоты ня мелася, ды і, прама кажучы, ён іх проста пужаў. Таму калі іх главар падарваўся на іванавай гранаце, яны адразу кінулі вязьня і разьбегліся далёка, як трусьлівыя псы.

Вызваліўшы Нікіфара, яны разам выбраліся з сутарэньняў, ды пайшлі да бліжэйшага ручая, дзе той вымыўся ды надзеў прапанаванае сябрамі адзеньне.

- От ладна села, прама як па табе сшыта! – Якім з замілаваньнем глядзеў на Нікіфара ў ільняных партках ды сьвітцы.

Той зморшчыўся.

- Ну, аксамітаў ды шаўкоў ня маем, - разьвеў рукамі Міхась. – Паізжыліся.

Нікіфар зарагатаў. – І што так, усё дрэнна?

- Ня дрэнна, але ж і ня добра, - хмура буркнуў Міхась. – На месцы пагутарым.

- Канешне пагутарым, - кіўнуў Нікіфар. – Бо вы ж яшчэ шмат чаго ня ведаеце. Таму ісьці зараз прыйдзецца хутка. У нечым я ня ўпэўнены, але ў чым, даведаецеся у скорым часе.

Такім чынам за некалькі гадзін дабраліся да хаты. Падыходзілі ўжо ў прыцемках, і Нікіфару гэта нянадта падабался. Сябры ж ішлі вольна, размаўлялі ды ў нос ня дулі, ды сыпалі жартамі.

- Ну што, Нікіфар, спадабалася табе ў нячысьцікаў у гасьцях, - кпліва вапрашаў Якім.

- А то як жа, - адказваў той, не павёўшы брывом.

- То можа вернешся? – з хітрынкай запытаў Міхась. – А то што з намі, простымі людзямі… Мо лепей ў вежы, шаноўнее.

- Ага, вісець, - гігікаў Якім.

Нікіфар неяк адбрэхваўся.

Нікадым нічога не казаў, толькі зыркаў вострымі вачамі па старанах. Але здавалася, залаты водблеск яго мяча ды сьвіст пугі Якіма папярэджвалі насельнікаў Памежжа яшчэ здалёк, так што ніхто сунуцца не адважваўся.

Нарэшце падышлі да якімавага плоту.

На двары нікога не было, але ж у хаце гарэлі агеньчыкі ў вокнах.

Яны прайшлі па двары, і Якім грукнуў у дзьверы.

Адчыніла Ганна, са сьвірэпым выглядам на твары.

- Ну вы і ходзіце, у мяне душа не на месцы! – пачала яна выгаворваць Якіму.

- Ганна, Ганузя, я цябе баюся, - шутліва запеў той. – Ня злуйся, калі ласка. Будзь ласкавай гаспадыняй, зьбяры нам нешта паесьці. Ды можа лазьню затапіла?

- А як жа, - важна вымавіла тая. – Канешне, даўно, яна мабыць і астыла ўжо.

І махнула рукой у старану лесу, дзе непадалёк ля маленькага прудзіка стаяла лазьня.

І раптам пачула – густы знаёмы голас:

- Дзень добры, Ганна! Як пажываеш?

Ад нечаканасьці пляснула рукамі.

- Нікіфар? Ты? Знайшлі? Жывы? – і спынілася, трымаючы ў руцэ сьвячу, захінаючы позірк рукою.

- А як жа, - з абідаю вымавіў Міхась, які прайшоў па-за сьпінамі сяброў ў хату. – Мо ты думаешь, я проста так людзей па лясах таскаю? Канешне ж знайшлі, і жывога прывялі.

Ганна нічога не сказала, толькі пастаранілася, ды дала мужчынам прайсьці ў хаціну.

Летыцыя сядзела за сталом і вышывала рушнік. Ідылія. Апранута яна была ў закрытую вышытую кашулю з доўгімі пышнымі рукавамі ды спадніцу амаль да пола, усё лепшае з ганнава куфара. Яе доўгія валасы былі заплецены ў тоўстую касу і заколаты вакол галавы. Мяккі позірк яе вачэй, захінуты доўгімі вейкамі, быў сьціраваны на працы. Яна падняла вочы на ўвайшоўшых у пакой, адлажыла вышываньне і ўстала, вітаючы гасьцей.

Нікіфар з цікаўнасьцю глянуў на яе.

- А ты чыя, красуня?

- Мая, - упэўнена заявіў Міхась, падыйшоўшы да Летыцііі, і пацалаваў яе.

- Ух ты, якую дзеўку сабе адарваў! – здзівіўся Нікіфар. – Ты ж гэта, адзінокі воўк!

Хлопцы прыснулі ад рогату.

- Ужо ня адзінокі і ня воўк, - пакрыўджана адказаў Міхась.

- Ну, што не адзінокі, то бачу, а што ня воўк, то сумненьні мяне кранаюць, - кпліва адказаў Нікіфар. – Ну ды ладна.

Яго жывы, вумны позірк нібыта прасьвечваў наскрозь усё, на што ськіроўваўся. Спыніўся на Летыцыі, і нешта заўважыў, пацяплеў. Але ж Нікіфар нічога не сказаў. Потым зьлёгку нахмурыўся.

- Ну што, па сто грамаў, ды ў лазьню? – махнуў рукой Якім.

Усе пагадзіліся. Ганна пайшла сабіраць на стол, Летыцыя ціхенька села на лаву і працягнула сваю справу з рушнікам.

Нікіфар сеў побач з ёю. Цень ад яго вялікай фігуры ўпала і закрыла ёй сьвятло. Яна адлажыла працу.

- Нема чаго вочы псаваць, - кіўнуў ён ёй. – Яшчэ будзе час, навышываешся.

Паеўшы, хлопцы засабіраліся ў лазьню. Нікадым, Міхась ды Якім пайшлі першым парам. Нікіфар яшчэ марудзіў, сядзеў за сталом.

Махнуў ім:

- Вы ідзіце, я зараз, пяць хвілінаў.

Калі яны выйшлі, адразу зьвярнуўся да Ганны з Летыцыяй:

- Ну, што гэта за справы? Што ў вас творыцца?

Тыя скамянелі ад нечаканасьці пытаньня.

- Што творыцца, кажу? Ці вы думаеце, што я сьляпы ды благі на галаву? Я ж усё бачу. Ад мяне не схаваешся.

І раптам зьвярнуўся да Летыцыі.

- Хто другі? – сама скажаш, ці мне сказаць услых?

- Ня трэба, ціхенька прашаптала тая. – Ганна ўсё ведае.

Ганна моўчкі кіўнула.

- Ведае, ды маўчыць, як рыба. Разумею, - працягнуў Нікіфар.

- Вось што. Зараз яны вымаюцца, і я некага хутка адпраўлю спаць. Вы з Якімам, - тут ён кіўнуў Ганьне – пойдзеце … на сена кахацца. А тое ўжо забыліся, як гэта.

Я лягу тут на лаве.

- А ты, - зьвярнуўся ён да Летыцыі, прама зараз усё раскажаш свайму дарагому. Прама зараз, - важка падкрэсьліў ён. – Я буду

тут. Спаць ня буду. Ня бойся.

Жанчынам толькі засталося пагадліва кіўнуць.

Усё хутка адбылося, як сказаў Нікіфар.

Паселі за стол, яшчэ выпілі, і тут Нікадым пачаў ківацца і ледзьве ня зваліўся галавой у міску.

- Стаміўся, - зарагаталі Якім з Міхасём. – Напрацаваўся! Насёрбаўся, - жаластна дадаў Якім.

Хістаючагася Нікадыма Якім пад рукі вывеў і правёў да пуні, дзе той разваліўся на сене ды захрапеў.

- Во сьпіць! – толькі здзіўляўся Якім. – Як пшаніцу прадаўшы!

Тут Ганна ўстала, і падышла да яго.

- Пойдзем і мы. Нешта я стамілася. Пайшлі … туды, - і гульліва пхнула яго ў бок, паказваючы на павець.

Якім глянуў на Міхася з Нікіфарам.

- Ідзі ідзі, - адказаў Нікіфар. – У нас тут справа. Мы яшчэ пасядзім, абмяркуем.

Якім кіўнуў, і пайшоў, куды прапанавала Ганна.

Яны засталіся ў трох.

Нікіфар разьліў сабе і Міхасю. – Яшчэ па адной, і хопіць. Бо я стаміўся, і хачу адпачыць. А заўтра я вам раскажу нешта, што вы яшчэ ня ведаеце. Але ж павінны. Бо ад гэтага залежыць ваша жыццё. Наша жыццё. І жыццё ўсяго сьвету. Ды адну ноч гэта справа церпіць. Не хвалюйцеся. Пакладуся тут во, на лаве. Вас папільную, - і ён гучна засьмяяўся.

Летыцыя з Міхасём прайшлі ў пакой, ды засталіся адны.

# Глава 23 : Прызнаньне

У пакоі не было сьвятла. Толькі ясная ноч праз шыбу асьвятлала яго. Летыцыя стаяла ля вакна, і яе твар у начным сьвеце выглядаў амаль прызрачным, нерэальна, балюча прыгожым.

Міхась застыў, любуючыся ёю. Потым узяў і запаліў маленькую свечку ў падсьвечніку на стале. Падыйшоў да яе. Залаты дрыжачы агеньчык кідаў на яе цёплы цень. У гэтым сьвятле Міхась працягнуў руку і асьцярожна крануў валасы Летыцыі. Выняў шпількі з цяжкой касы, і яна, нібы чорная зьмяя, звалілася ёй на грудзі, дасягнуўшы амаль да пояса. З касой і ў вышытай закрытай кашулі Летыцыя выглядала неяк па-новаму, таямніча, загадкава. Недасяжна. Ён нават баяўся кранаць яе, каб не спугнуць гэта хараство.

Ён палажыў руку ёй на грудзі. Адчуў пад далоньню мяккую трапяткую цяплыню. Яна не ўбрала яго рукі, і палажыла паверх яго далоні сваю.

Ён асьцярожна крануў яе сьцёгна, але ж марудзіў здымаць адзеньне.

Яе прыгажосьць была дзіўнай, ён бы сказаў – звышнатуральнай. Яму хацелася пакланяцца ёй, як іконе, выяве сьвятой. Нейкае вострае адчуваньне сакральнасьці жаночай суці працінула яго балюча, як дзіда. Колькі разоў за сваё жыццё ён зьняважальна адносіўся да жанчыны. Ня зьлічыць. Былі часы, калі авалодаць жанчынай для яго было што папіць вады. Ён адчуваў смагу, утольваў яе, і ішоў далей. Асабліва ня разьбіраючыся, ці хацела яна гэтага, ці была згодна. Так рабілі ўсе. Так рабіў і ён. Жанчыны-баявая здабыча, жанчыны ў корчмах ды вясёлых дамах. Прыўкрасныя панны ды іх мілыя служанкі. Яны заўсёды знаходзіліся, і ніхто не кранаў яго сэрца. Але ж чамусьці яно

заўсёды балела. Балела па нейкай недасяжнай, дзіўнай даме, якой ён мог бы пакланяцца і зьдзейсьняць у яе гонар подзігі. Ды неяк не знайшлося. Усе паненкі, якіх ён сустракаў, хутка падалі ў яго абдымкі. Ён быў малады, прыгожы, вясёлы, меў гонар, ды й заўсёды меў грошы, па праўдзе кажучы. І вось ён стаіць, як статуя, перад дзяўчынкай маладзей яго больш чым на двадцать гадоў. Якая да таго ж носіць яго дзіця. Якой ён загадаў болей не паказваць сваё прыгожае цела, таму што страшэнна раўнаваў яе. Да кожнага слупа.

Ён працягнуў руку і асьцярожна разьвязаў ёй шнуркі на высокам вораце кашулі, адкрыўшы шыю і белую скуру, якая сыходзіла ў глыбокі цень паміж грудзямі. Яе белая скура яшчэ мела блакітныя, жаўтаватыя плямы. Сьляды яго губ. Яго рук. Яго грубасьці. Навошта ён гэта зрабіў? Ён ня памятаў. Калі ён сустрэў яе ля крыніцы побач з Нікадымам, які красаваўся перад ёй, ледзьве апранутай, прыгожы, як юны бог, ён проста азьвярэў. Ён выглядаў побач з ім, з яго стройным гібкім целам нібыта вялікая цёмная гара. Бачыць іх разам на летнем лугу, гэта было нясьцерпна. Яго вялікая смуглая рука пяшчотна кранула яе шыю, яе губы. Яна кранула яе губамі, але ж маўчала. Потым узяла, і пацалавала яго далонь. Яго нібы ударыла маланкай. Адчуваць дакрананьне яе мяккіх губ да яго грубай скуры было звыш яго сілаў. Ён ледзьве трымаўся, каб не схапіць яе, і не авалодаць ёй тут жа, проста задраўшы спадніцу, як ён рабіў шмат разоў да таго.

Але ж ён стрымліваў сябе. Апусьціўся перад ёй на калені, і абняў яе ногі. Прыжаўся да іх тварам. Яго рукі дакрануліся да яе тонкіх лытак, і пайшлі наверх. Яна стаяла, і дрыжэла, як ліст, у ліхаманцы жаданьня. Яна хацела яго. Гэта было відавочна. Потым ён адчуў, як яна кранула яго валасы, і пагладзіла твар. Таксама апусьцілася перад ім на калені.

І раптам вымавіла:

- Я хачу нешта табе расказаць. Нешта істотнае.

Ён запытальна глядзеў на яе.

І тады яна проста сказала:

- Нікадым мяне згвалціў.

Сьвятло ў яго вачах памеркла.

Найперш ён падумаў, што ня тое пачуў. Потым да яго прыйшло асэнсоўваньне. Уся кроў кінулася яму ў галаву, ён адчуў, як яна шалёна калоціцца ў скронях, як гукае яго сэрца. Але ж ён быў спрактыкаваным воям, не аднойчы бываўшым у бойках, ды бачыўшым сьмерць. Хутка, о, як жудасна хутка ён узяў сябе ў рукі!

Ціха, так, што Летыцыі стала страшна, запытаў:

- Калі?

Дабавіў:

- На лугу?

- Не, - ціха адказала яна. – У лесе, калі ты біўся з тым … вялікім чалавека-ваўком… з амулетам. Калі ты сам… , - і яна заціхла. З вачэй яе раптам пабеглі патокі слёзаў. Яна не выцірала іх і не хавала. Проста стаяла на каленях, і слёзы самі беглі, падалі ёй на адкрытые грудзі, мачылі кашулю.

Ён ня верыў сваім вушам.

- І ты маўчала? Столькі часу? Чаму?!?

Ён ня мог уцяміць. Пасьля гэтага, адразу пасьля яго ён, ён таксама … ён ня меў словаў. Яна ішла з ім і ні слова не сказала, яна была тут увесь гэты час, і маўчала. Ён амаль згвалціў, ды што там, згвалціў яе ды яшчэ ўпрыгожыў, размаляваў так, што яна ходзіць закрытая з ног да галавы, і увесь гэты час яна насіла гэта ў сабе. Але чаму? Яна баялась яго? Яго? Няўжо яна яго баіцца? Як гэта? Ён не разумеў… Ці ж яна баялася Нікадыма?

- Як гэта здарылася?? – яго голас душыў шалёны гнеў.

- Ён сказаў, што ён… парве маё адзеньне, і пакіне свой знак… і ты ўбачыш, і болей не кранеш мяне… І я … Ён вымусіў мяне, я не хацела…! – яе пачало калаціць. Ён адчуў, што яшчэ хвіліна, і яна звар’яцее.

Яго проста накрыла хваляй шалёнства.

Але ж ён сабраўся, і спакойным ціхім голасам сказаў ёй:

- Цішэй, супакойся, я веру табе. Ты не хацела. Гэта ён. Гэта ён вінаваты. Гэта ня ты. Супайкося.

Яна калацілася ў рыданьнях, ён абняў яе, і прыціснуў да грудзей. Устаў, і проста падняў яе, бо яна не магла стаяць. Палажыў на ложак, і выйшаў з пакою.

Нікіфар ня спаў. Ляжаў, адкрыўшы вочы.

- Ты гэта чуў? – задушана запытаў ён.

- Дурань, я гэта ведаў, - адказаў Нікіфар. – Ня ведаю, чым ты глядзеў. І яшчэ раз груба дабавіў: “Дурань, а не вядзьмак”.

Міхась ня стаў спрачацца.

- Паглядзі за ей, - абрывіста кініў ён, і як маланка кінуўся ў сені.

Хутка рашучым крокам выйшаў на вуліцу.

Нікадым разьлёгся на сене і мірна спаў. У сьвятле месяца яго твар быў прыўкрасным і нявінным. Спаў, як дзіця. Проста ня верылася.

Але прабуджэньне яго было даволі непрыемным. Ад удара ў зубы.

Ён ускочыў, захлінаючыся крывёю, і амаль пасьпеў схапіць меч, але ж меч адляцеў далёка, а за ім прыляцеў другі удар – ў грудзі. Нікадыма адбросіла далёка на салому.

Нарэшце ён прачнуўся. І зразумеў. Моўчкі, не міргая, глядзеў сваімі вялікімі янтарнымі вачамі, адпаўзая ў бок пуні. І гатаваўся да чагосьці вельмі непрыемнага. Забіць чорта ня так проста, ды бакі намяць Міхась яму мог добра. А мог і забіць. І проста. Зусім. Нікадыму нічога ня аставалась, як рызыкуя жыццём, пытацца выбраца ля сцяны, а потым… што потым? Зьбегчы? А дзіця, а даручэньне Мары?

У яго ня было іньшага выйсьця.

Ён крыкнуў праз сена:

- Так, я гэта зрабіў, я вінаваты, толькі я, не яна. Але ж паслухай, … увярнуўся ад яшчэ аднаго ўдара. Баец Нікадым быў дужа добры, а яшчэ спрытны, хуткі і вёрткі, гэтага было ў яго не

адняць. І гэта ня раз ратавала ім з Міхасём жыццё.

- Паслухай, Міхась, … ізноў увярнуўся… ды што ж такое…

- Міхась, у яе будзе двое, і адзін з іх мой!

Міхась адчуў, нібыта з гэтымі словамі яму ў грудь прыляцеў млынавы жоран.

Нават пахіснуўся. Але ж раптам спыніўся. І стаў. Цяжка дыхая, запытаў:

- Як. Ты. Мог?! Ты?!!! Я табе верыў, як сабе… Міхась адчуваў, што яго мір рухнуў. Але ж нядоўга.

Ён цяжка падыйшоў да Нікадыма, і ўзяў яго за каршэнь.

- Забіць цябе?

Той маўчаў.

Потым проста адказаў, паўзадушана:

- Тваё права. Хочаш, забі.

Міхась сплюнуў. - Хопіць на маім рахунку забойстваў. Не хачу аб цябе пэцкать рукі. Кажаш, дзіця? Тваё?

Раптам ён зразумеў нешта. – Ты яго хочаш. Гэтае дзіця. Але. Ты яго ніколі ня ўбачыш.

Нікадым маўчаў. Яго, чорта, у першы раз у жыцці душылі слёзы.

- Ты зразумеў?

Нікадым кіўнуў.

- Зараз правальвай. А я буду за табой сачыць. Пільна. Калі я пачую твой пах паблізу, табе ня жыць. Міхась поўнасьцю ўзяў сябе ў рукі. Цяпер гэта быў той вытрыманы, жорсткі, халодны забойца-ваяр, якога Нікадым здаўна ведаў. І ён таксама ведаў, што Міхась не жартуе.

- Добра, я сыйду. Ты мяне болей ня ўбачыш, - проста вымавіў ён. А потым дабавіў.

- Але калі я спатрэблюся, я буду побач.

І з гэтымі словамі хутка зьнік у цемры. Толькі яго і бачылі.

Міхась цяжкім размашыстым крокам пайшоў назад у хату, дзе яго сустрэў Нікіфар.

- Як яна? – коратка запытаў.

- Нічога. Ляжыць і плача, - проста адказаў той.

Міхась хутка прайшоў у пакой, і стаў на калені ля ложка.

Яна ляжала амаль ў непрытомнасьці, падагнуўшы пад сябе ногі, закрыўшы твар, і проста дрыжэла. Ён апусьціў твар на рукі побач з ёй. Яна ня варушылася. Ён таксама. Некалькі хвілінаў ён так стаяў, а потым ўзьняўся, і сеў побач. Абхапіў яе рукамі, лёгка ўзьняў, і пасадзіў сабе на калені. Палажыў яе галаву сабе

на грудзь. Яна не супраціўлялася.

- Я кахаю цябе. Чуеш? – проста сказаў ён.

Яна ўсхліпнула:

- Да

- Усё будзе добра. Чуеш?

- Чую.

- Тады хопіць. Супакойся. Я яго не забіў. Ён сыйшоў. Супакойся. Усё пазадзі. Усе жывыя. Усё добра. Цішэй.

Ён угаворваў яе, як дзіця.

І яна слухала яго, і супакойвалася.

Потым ён распрануў яе, і палажыў на ложак. Лёг побач, абняў. Яму хацелася захінуць яе ад усех бедаў на сьвеце, але ж ён ведаў, што гэта не магчыма. Сьвет вялікі, і бедаў у ім шмат.

Шмат чаго яшчэ прыгатавала ім цемра. Ён ведаў, адчуваў усей сваёй жывельнай інтуіцыяй. Але ж гэта будзе потым. А зараз…

Ён палажыў руку ёй на грудзі, адчувая, як яго ахоплівае жаданьне. Яна павярнулася да яго, і іх вусны сустрэліся. Ён цалаваў яе заплаканыя вочы, яе цела, пакрытае крывападцёкамі. Чакаў, пакуль яна ня будзе гатовая. А потым увайшоў у яе, і спыніўся. Яго сэрца біла, як звон. Гарачая хваля падымалася па яго целу, і запаўняла яго нечым, чаму ён не знаходзіў назвы. Ён адчуваў, што з ёй робіцца тое ж самае. Ён

асьцярожна рухаўся, а потым усё хутчэй і мацней, і яна адказавала яму.

Яна забыла пра ўсё. Яе жаданьне было такім вялікім, як ніколі. Тое, што яна адчувала, нельга было апісаць словамі. Яе задавальненьне перайшло ў боль, які ўзносіў яе да нябёсаў. З кожным яго рухам яна ўлятала ў бясконцасьць, дзе былі толькі ён, і яна. Ёй казалася, што яна - гэта нябёсы, а ён – вялікая хмара, і маланка. Яна таксама была зямлёю, якая прагла дажджу. І дождж пайшоў. Ён цалаваў яе мокрыя вочы, не адпускаючы, сядзячы на ложку, і яна сядзела ў яго на каленях, абдымая яго за плечы. Ён яшчэ рухаўся ў ёй, павольна, не сьпяшаючыся, пяшчотна абдымая яе сьпіну. Потым устаў, і ўзьняўшы яе, трымаў на руках. Ён амаль ня адчуваў яе вагі, і лёгка двігаў яе цела. Потым узьняў яе на рукі, і панёс на ложак, асьцярожна палажыў, і лёг побач.

- Ты – мой сьвет, ты мой лёс, ты – маё сонца, - прашаптаў ён.

І яна адказала яму:

- Ты – маё жыццё. Я кахаю цябе.

Ён ціха вымавіў:

- Не гледзячы ні на што? Ты выбачаеш мяне? За ўсё?

І яна адказала:

- Так. Таму што я кахаю цябе. Я буду трываць усё, што будзе паміж намі – радасць і гора, боль і каханьне. Нават калі ты заб’ешь мяне. Нават калі будзешь біць мяне ці гвалціць. Я абяцаю, што я буду цябе кахаць. Ня гледзячы ні на што. Я абрала цябе, каб быць с табою ўсё жыццё. Я кінула ўсё і ўсіх. Мне нічога не патрэбна. Толькі ты. Які ёсьць. Таму што я кахаю

цябе, - паўтарыла яна яшчэ раз.

Ён адчуваў, што яго мір стаў вялікім. Вялікім, сьветлым і радасным. Ён заснуў з мірам у душы, адчувая побач яе цела. Гэта была такая суцэльнасьць. Гэта была праўда і гармонія. Ён ведаў, што так будзе назаўсёды. Ведаў як былы чараўнік. Як былы пярэварацень. Былы драпежнік. Гэтыя веды ў яго было не адняць. Ён з імі нарадзіўся чалавекам, зь імі чалавекам і памрэ.

# Глава 24 : Хмары сьцягваюцца

- Міхась, а чаму ты даў сябе ўкрыжаваць? - запытаў Нікіфар, накладваючы ў міску ганнавы прысмакі. - Дык я жа ж правраверны хрысьціянін - сур'ёзна адказаў Міхась. Нікіфар ледзьве не падавіўся блінам. - Да ну? Ты што ..., - толькі вымавіў ён. - Ага. А ты чаго на калені перада мною ўстаў? Нікіфар фыркнуў. А потым сур'ёзна адказаў: - Ну дык і я таксама, па той жа прычыне. Усе пакаціліся ад сьмеху. - Два іставыя прававерныя чараўніка, - рагатаў Якім. - Проста сьвятыя. - А мо я ў ксяндзы падамся, - разважліва заўважыў Нікіфар. - А чаго не, - падтрымаў яго Міхась. - Там паненкі, на споведзь ходзяць. - Мяне паненкі не цікавяць. Я ўжо стары. Ня тое, што ты. Ты хадок, - выкруціўся той. Надаела бадзяцца. Ксяндзу грошы плоцяць. Прыход яшчэ. - Ну, глядзі, мо і праўда, - сур'ёзна пагадзіўся Міхась. Летыцыя не разумела, ці ён жартуе, ці не.

Яны ўсе сядзелі за сталом, і сьнедалі. Крыху пахмурная, але ж цёплая летняя раніца, калі лета перацякае ў восень, ды яшчэ не заўважна, паволі, ахінала зямлю анёльскімі крыламі. Белаватыя туманы клубіліся па-над ярамі, цяклі над вадой.

Ісьці нікуды не хацелася. Хацелася сядзець, і слухаць сумнаваты сьпеў нейкай птушкі, што прабіваўся праз туманы. Было прыемна суцішна і пакойна.

Але ж вось Нікіфар адклаў у старану відэлец, і прыняў сур’ёзны від.

Ганна, зразумеўшы, паўстала і пачала прыбіраць са стала.

Летыцыя дапамагала ёй.

Потым яна села на месца, а Ганна стала побач з Якімам, і пачала слухаць стоя.

Нікіфар загаварыў.

Хмары зьбіраюцца па-над Памежжам. Усе мы ведаем, што абуджаецца ды прагне выйсьця ў рэчаіснасьць. Сьвет стаіць на парозе вялікіх зьменаў. Але ж ён нават не здагадваецца, якіх.

Нячыстыя сілы хочуць адчыніць Браму Сьмерці. Так, гэта вам ужо даўно вядома. Але ж вы ня ведаеце аднаго. Брама ўжо адчынілася. Смерць выйшла на волю, і пануе на ўсім сьвеце. Паволі Сьвятло пераўтвараецца ў Цемру. Гэта адбываецца паступова. Але ж няўхільна. Усё болей і болей нячыстых духаў будзе пранікаць у Памежжа і перасякаць мяжу на тый сьвет які гэты. Вы спынілі іх нават не на хвіліну, а на імгненьне. Што яны прынясуць туды? То вядома. І імя яму адно ва ўсі часы. Зло. Зло шматлікае, ва ўсіх формах, якія толькі можна ўявіць. Спачатку падуць чалавечыя душы. А потым наступіць час для зьнішчэньня і целаў. А калі зямля апынецца пустой і голай, то Яны прыйдуць на яе, каб панаваць адвечна. Бо ім не патрэбны людзі. І ім не патрэбны і Багі. Чалавечыя Багі. Яны будуць выкарыстоўваць іх у сваіх мэтах. А потым, калі зьнікнуць людзі, то і Багі іх сыдуць у нябыт. Гэта будзе Смерць агульная. Без нараджэньня і працягу жыцця. Халодны, пусты сьвет будзе плыць у бясконцасьці сусьвету, пакуль не згарыць у полымі. Сумеркі Багоў не наступяць. Бо адразу наступіць Ноч.

Хаос пранікае ў створаны сусьвет. Яго агнявыя драконы ірвуцца сюды. Прыйдзе час, і цёмныя і сьветлыя Багі стануць разам, каб зачыніць яго. Але ж … Далей мне не вядома. Мне вядома толькі адно: трэба рабіць што можна, каб адцягнуць гэты жудасны канец.

А там, можа, нешта ведаюць Багі, бо яны таксама заклапочаны. Бо нават бессьмяротныя хочуць жыць. А не сгарэць у полымі, за якім прыйдзе адвечная цемра.

Наша задача зараз – трымаць Памежжа столькі, сколькі мы зможам гэта рабіць. А потым будзе бачна. Я спадзяюся на волю і мудрасьць Багоў, якія не пакінуць нас. Разам мы здолеем зачыніць браму. Можа, толькі на пэўны час. Але ж для людзей гэта будзе некалькі бясконцасьцей часу.

Вы думаеце, што зьнічтожылі усіх ваўкалакаў у наваколлі? Так, шмат вы палажылі. Астатнія зьбеглі. Але ж вы ня здолелі забіць галоўнага супрацiўніка.

- Ён усё яшчэ прагне цябе, - зьвярнуўся ён да Летыцii, і кроў раптам адліла ад яе прыгожага твару.

- Вы думаеце, яго так проста забіць? Як нейкага месьцячковага небараку-пярэваратня, які дзярэ кароў ды таскае дзевак? О, не. Так, ён пазбавіўся плоці. Але ж на ім – амулет, падарунак Мары, што яна паслала мне праз цябе. Тут ён кіўнуў Міхасю. Але ж нешта мы зрабілі ня так, і ня тое. Альбо гэтае было запланавана, ды амулет сышоў. І трапіў у рукі вельмі небяспечнага супрацiўніка.

- Памятаешь, - зьвярнуўся ён да Міхася. – Як мы адчынялі магілу твайго продка? Так, гэта ён, і гэта твая кроў, кроў тваяго роду. Ён прагне яе, тваю жанчыну, гэтак жа, як прагнеш і ты. І ён не адступіцца. Бо ён чуў яе пах, яе водар праз магільную зямлю, калі яна сядзела ля агню, тады, у першую ноч, калі ты выйшаў паглядзець, хто гэта трапіў у Памежжа і такі сьмелы ці дурны, што паліць вогнішча на месцы закінутага пахаваньня самага магутнага чараўніка з усіх, што жылі на гэтай зямлі з моманту яе сатварэньня. Ты ж ім сам распавядаў страшныя байкі, а яны слухалі, разьвесіўшы вушы. Ды што ж з вас узяць… Людзі. Людзі сляпыя і дурныя, як авечкі. Хаця, можа так для іх і лепей. Бо лепей авечкам стаяць у загоне, і думаць, што гэта

увесь сьвет, чым апынуцца ў лесе сярод дзікіх зьвяроў. Колькі яны там працягнуць да таго, пакуль вострыя кіпцюры не парвуць на часткі іх мяккую плоць?

- Але ж ты, - тут ён зьвярнуўся да Летыціі, - ты не авечка. Я ня ведаю, хто ты. Бо гэта закрыта ад мяне. Але ж ты і ня істота, і не дземан. Ты жывая, ды мне дзіўна … І тут ён змоўк.

- Так, хопіць пужаць дзяўчыну, - падхапіўся Якім. – Ты ўжо зусім … таго. Якая яна табе істота? Самая звычайная дзяўчына, толькі незвычайна прыгожая. Ты ўжо зусім з’ехаў з глузду, пакуль там вісеў.

- Ну, можа і так, - ня стаў спрачацца Нікіфар. – Можа і крыху з’ехаў. Але ж… І тут ён задумаўся на хвіліну, быцам шукаў нешта глыбока ў сабе.

Потым кіўнуў Летыціі.

- Прабач мяне, я стары. Ужо загаварывацца пачынаю.

І працягнуў далей.

- Пасьля таго, як ён падарваўся на гранаце, яго цела страціла прыгоднасьць, і чорны дух выляцеў зь яго прэч, адправіўшыся туды, дзе яго сапраўдны дом – а гэта далёка ад Памежжа. Ой як далёка. Дарма мы яго тады абудзілі. Хай спаў бы сваім чорным сном, і ня турбаваў болей сьвет. Але ж …

- Мы шмат чаго зрабілі дарма, - кпліва заўважыў Міхась. Памятаю, як ты хацеў ваяваць з тымі, хто жыве пад знакам крыжа. Была ў цябе такая мара. Былыя часы хацеў зьвярнуць. Былую веліч ваўкалацкіх родаў. Дзякуй богу, кінуў гэтую ідэю сваю. Крыважэрную.

- Кінуў ня кінуў, але ж адлажыў, - агрызнуўся Нікіфар. Зараз болей істотныя праблемы ўзьніклі. Трэба разабрацца перш за ўсё з гэтым … выкідкам з кургана. Мне ён ня падабаецца. Ад слова зусім.

- Так ты хочаш нашымі рукамі і з нашай дапамогай з ім разабрацца? – ня ўцяміў Якім.

- Дурні, я хачу прапанаваць вам саюз! Мы разам станем супраціў яго, і …

- У траіх? – ня зразумеў Якім. - На траіх лепш што другое рабіць. А для гэтага нешта нас малавата.

- Дурань з дурня! - ізноў ня вытрымаў Нікіфар. – Нас будзе многа. Шмат.

- Дак ты войска зьбіраць сабраўся? – запытаў Міхась, які да гэтага ўважліва слухаў.

- Войска ня войска, а ёсьць у мяне на прыкмеце некалькі добрых малайцоў, - адрэзаў Нікіфар. - Ня партызанаў тваіх, - іранічна кінуў ён, і Якім ужо хацеў нешта запярэчыць.

- Нават ня думай, - Нікіфар ужо пачаў злавацца. Ёсьць хлопцы. Падмогуць. Добрыя. Нашыя.

- Дык нашыя альбо вашыя? – не здаваўся Якім.

- Так, ты прапануешь нам вайну…, - задуменна адказаў Міхась.
- Што ж. Вайна – гэта добрая справа. Калі ёсьць шанец у ёй перамагчы. Калі ж гэтакага шанца няма, то гэта ўжо не вайна, а самазабойства. Як зараз кажуць – суіцыд.

- Ай, нахватаўся модных словаў, - плюнуў Нікіфар. - Шанец ёсьць. Шанец заўсёды ёсьць.

- Дык я ня зразумеў, ён кудысьці дзеўся з кургана? – ніяк ня мог уцяміць Якім.

- Не, ён назад закапаўся, калі мы яго вызвалі, - ядавіта пажартаваў Міхась. Мы ж хлопцы акуратныя. Што адкапаем, то заўсёды назад закопваем. Ці каго. У нас другія планы былі. Ня здзейсьніліся, на наша агульнае шчасьце. А ён так і басьцяўся ў Памежжы, пакуль моцы не набраў. Як бачна. Дзе б я яго лавіў? Я паспрабаваў, дык амулета ў мяне не было, мяне і так … Я і так чуць ачуняў. Ён хацеў была сказаць, “Нікадым чуць адхадзіў ”, але ж словы сталі ў горле комам, і ён ледзьве імі ня падавіўся. Кулакі самі сабой зжаліся. Намаганьнем волі Міхась узяў сябе ў рукі.

Да, многа чаго ён ня ведаў, асабліва што будзе. А што яму прыйдзецца ратаваць ад свайго пра-прашчура каханую жанчыну, тое яму нават у самым жудасным ці прыўкрасным сьненьні ня сьнілася.

Ды вось як справы закруціліся. А тут яшчэ нейкае “інфэрнальнае зло”, якое хоча зьнішчыць увесь сьвет і саміх Багоў. Гэта ў яго і ў галаве ня укладвалася.

Але ж раптам ён зразумеў:

- Калі справа дрэнная нават для Багоў, так хай яны нам і дапамогуць!

- Ай, які ж ты вумны, - засьмяяўся Нікіфар. - Канешне, яны дапамогуць. Як заўсёды – апасрэдавана. А біцца нам прыйдзецца самім. Ці ж мы не героі?

- Нууууу, - Якім прысьвіснуў. – Я – дык лесавік. Лешы па-простаму. Які зь мяне герой.

- А ты – герой? – Нікіфар з хітрым прышчурам глядзеў на Міхася.

- Гэта з якога боку паглядзець, - хітра прышчурыўся Якім.

- Герой, не герой, а справу ведаю, - пажаў Міхась плячамі. - Навошта мне гэнае геройства. Але ж давайце перш за ўсё разработаем плян. У кожнага з нас ёсьць свая лічная зацікаўленасьць у гэтай справе. Акрамя таго, трэба абазначыць прыарытэты. Перш за ўсё, трэба як мага шчыльней закрыць Памежжа. Усіх мы канешне ня спынім, але ж як мага болей будем пільнаваць. Ці мала якая істота ўлезе сюды, у Дзяды, і нам самім мала не пакажацца.

Далей, я адчуваю, што хутка наш сябар з напалову ваўчынай ці якой там пысай абазначыць сябе. Акрамя таго, нельга не выкарыстоўваць сілы, якія бароняць той сьвет які гэты ад нячыстых істот. А гэта значыць, прыйдзеца прыбягаць да дапамогі прафэсыйных “кілераў” з той стараны. Я ведаю, ты, - ён зьвярнуўся да Нікіфара, - іх не жалуешь. Але ж хоць вы былі пэўны час у контрах, трэба прызнаць, што яны робяць сваю справу эфектыўна.

- Ты, галоўнае, не перашкаджай. Гэтым пытаньнем я сам займуся. Далей: трэба усіліць абарону Памежжа і мяжы. Якія твае думкі?

- Я ж казаў, - пажаў плячамі Нікіфар. - Ёсьць у мяне на прыкмеце хлопцы.

- Ладна, гэта абмяркуем, - падытожыў Міхась. – Зараз жа я зраблю яшчэ нешта. Сам. І вы мне не перашкаджайце.

Сказаў, зьвярнуўшысь да Ганны:

- Мне будзе патрэбна лазьня. Толькі не тапі. Чыста ўсё там прыбяры. Падрыхтуй. Ты паняла. І яшчэ у мяне да цябе будзе … разгавор.

Тая кіўнула.

Міхась устаў, і кіўнуў Нікіфару.

- Пойдзем, прагуляемся.

Сказаў:

- Мы не надоўга, - і яны выйшлі зь Нікіфарам за дзьверы.

Якім, Ганна, і Летыцыя засталіся адны.

- Ну і справы, - толькі разьвеў рукамі Якім.

# Глава 25 : Міхась адчыняе ваду

Калі Міхась зайшоў у лазьню, там ужо стаяў стол і стул. Ганна прыгатавала. На сталe была срэбная міска з вадой. Побач – сьвяча ў высокім тонкім падсьвечніку, ды кубачак зь нечым сыпучым.

Болей нічога ў лазьні не было. Ганна вынесла ўсе кадушкі ды вёдры. Міхась запаліў сьвячу. Празрыстая, амаль ня бачная у срэбры, вада спаймала водблеск ад яе, і нечакана зайграла мноствам колераў. Міхась дастаў з кішэню маленькі бутылёк зь нечым чорным – адмысловая цінктура! - і акуратна выліў у ваду. Яна стала нагадваць чорнае зеркала, гладкае, бяздоннае, на паверхні якога мітусіўся трапяткі агеньчык.

Ён узяў кубачак і насыпаў вакол міскі круг. Соль, перац ды жалезная стружка – усё, што было пад рукой. Нікіфар бывала кпіў зь яго за любоў да панскага, як ён казаў, анатуражу. Яму было дастаткова хоць якой плошкі, нават калодзежнага вядра. Але ж у Міхася былі ў гэтай справе свае звычаі. Ён не хацеў астаўляць пасьля сябе запэцканае істотамі месца, на якім яшчэ год потым будуць з’яўляцца ўсялякія пачварыны. Таму рабіў усё акуратна і точна.

Потым сеў на стул, падставіў руку пад бараду, і паўзакрыўшы вочы, пачаў глядзець у чорнае вадзяное люстэрка. Спачатку паверхня нічога не адлюстроўвала. Нават яго твар. Але ж потым ён убачыў.

На яго праз ваду глядзеў “твар” таго, хто калісьці быў чалавекам.

Здавалася, што істота так і застыла на мяжы пераўтварэньня ад

чалавека ў ваўка ці наадварот. Яго рысы ня мелі пэўнай формы. Быццам бы яны зьмяняліся, трансфармаваліся, ды, аднак, спыніліся на нейкі момант, але ж ня мелі аформленасьці, дазваляючай назваць гэта тварам. Пільны позірк прышчураных, ярка жоўтых раскосых вачэй утаропіўся прама ў Міхася. Высокія скулы, прамы нос, рэдкая чорная барада. Чорныя бровы зьдвінуты, а губы расьцягвае драпежная ўсьмешка. За ценью чалавека праступае твар вялікага чорнага ваўка, які так сама драпежна шчэрыцца, капаючы слінай. Твар, напалову схаваны капюшонам, у клубах туману.

- Здаецца, за ім галіны? – падумалася Міхасю. - Дык значыць, у лесе? Усё яшчэ тут? Няўжо не сышоў? – з жахам падумалася яму. З жахам не за сябе. Аб сабе ён даўно ўжо ня думаў, ды і прыгадаць тыя часы, калі ён чагосьці баяўся, ён ня мог.

І раптам істота нешта вымавіла. Як праз тоўшчу вады, ці здалёк, данесьліся да Міхася словы:

- Здароў будзь, нашчадак нашага ваўкалачага роду! Даўно ня бачыліся.

- Я спадзяваўся, і не пабачымся, - дзёрзка адказаў Міхась. – Я спадзяваўся, што ты падох.

- Ай, як груба, - зморшчылася зданьне. – Ты жа шляхетны хлопец. Дужа доўга бадзяешся з мужыкамі. Ці ж гэта кампанія для цябе?

- Ня скарджуся, - кінуў Міхась. – Мне шмат ня трэба.

Істота зарагатала.

- Ад каго я чую! Яму шмат ня трэба. Нешта я памятаю зусім другое. Ты заўсёды любіў добрую здабычу, старое віно,

прыгожых кабет. Не адмаўляўся ад золата, срэбра ды камянёў. Праўда, спускаў так жа хутка, як і здабываў. Ды для цябе ж было толькі задавальненьнем ізноў і зноў адпраўляцца кудысьці на край сьвету, каб праліваць кроў людзей, якія табе нічога дрэннага не зрабілі, якіх ты нават ня ведаў. Гонар! Гонар вёў цябе далёка, за межы зьведаннага. Дзе толькі ты не бываў. I ўсюды за табой цягнуўся крывавы сьлед. I ты мне хочаш нешта сказаць?!

Зданьне ашчэрылася, а потым з выклікам глянула на Міхася, прышчурыўшы палаючыя вочы.

Гэты твар калісьці можна было б назваць прыгожым, але ж з цягам часу ён згубіў усё чалавечае. Адзінае пачуццё, якое ён вызываў, быў жах. Ірацыянальны, усёабдымны, зводзячы з розуму.

Міхась пристальна ўглядваўся ў жоўтыя вочы, здаецца, спрабуючы прачытаць сакрытыя ў іх думкі. Волат хітра ўсьмехнуўся.

- Нават ня спрабуй. - I раптам Міхась адчуў такі моцны боль, быццам бы яго галаву сьцягнулі распаленым абручом.

А потым – моцны штуршок. Але ж намаганьнем волі ён здолеў утрымаць ярасьць зданьня ў межах круга.

- Ты ня выйдзешь, - проста сказаў ён. - Можаш нават ня рыпацца. Соль ды перац Якімавы, але ж метал надта цікавы. Гэта гвозьдзі з гроба некага, каго табе не пераадолець. Бо ён дужа далёка ад цябе.

Істота ізноў ашчэрылася.

- Нічога, мы сустрэнемся! I хутка! Я табе абяцаю! Калі гэта ты

хочаш ведаць, то чуй: далёка я не сышоў. І зданьне ізноў зарагатала.

- Бо нешта трымае мяне тут. Чуешь? Ці дакладней, нехта. Тут вочы істоты завалакло нечым, што магло бы здацца пачуццём, але ж яно было такім жудасным, што наогул не нагадвала нічога з жывых эмоцый. Пачуццё мярцвяка да жывога – гэтак яно выглядала і адчувалася. Бо ж істота была мёртвай. І мёртвай даўно.

Міхась скалануўся.

- Так, я – Сьмерць, - прагаварыла істота, і яе рысы сказіліся, быццам пачалі тлець, і амаль абцягнулі востры чэрап.

Я быў мёртвы, ды вы мяне ўзьнялі. І гэта мне падабаецца! Бо я тут, мёртвы паміж жывых, і забіць мяне ўжо няможна.

Гэта! – тут пачвара працягнула да Міхася амулет, які ляжаў і зьзяў белым металам – каштоўная рэч у вялікай чорнай далоні.

Гэта дар яе! Яна перадала яго Нікіфару, каб ён здолеў сабраць неўміручае войска са зданьняў зь яе дзікага паляваньня, каб па яе загаду выступіць туды, куды яна ўкажа. Але ж … ня здзейсьнілася. Бо ёсьць ужо тут сілы мацнейшыя за Мару, яны прыйшлі на наш заклік, і яна гэта ведае.

Нам не патрэбны старыя Багі, Багі жыцця і сьмерці са сваімі бязглуздымі законамі. Бо мы ўжо памерлі, і нам няма чаго губляць. Яны абяцаюць нам новае жыццё, дзе мёртвыя займуць месцы жывых. Так, гэта мы, мёртвыя, якія былі пракляты, забіты, загінулі і былі пахаваны без крыжа, што загінулі ад рукі носячых крыж, і тыя, што ніколі крыжа ня ведалі, але ж пакланяліся такім Багам, што вы ня можаце сабе і ўявіць, мы выступім супраціў вас з войскам дземанаў, якія

адлюстроўваюць 72 перавёрнутых твара таго, хто нам ненавісьцен, бо ён дазволіў, каб мы загінулі ў муках. І вось мы, ахвяры і забойцы, чыя косткі ўжо даўно спарахнелі, ізноў зьбіраемся на бойку. О, яна будзе апошняй!

Мы спалім гэтую зямлю, зьнічтожым і неба, і самую Сьмерць! І будзем панаваць, адвечныя, пад абаронай адвечных Багоў Хаоса, якія былі першымі, ёсць першыя, а будуць апошнія!

Тут па вадзе пайшлі кругі, і яна скаланулась. А калі супакоілася, то твар ізноў праявіўся. І працягнуў:

- Раз ты яшчэ тут і жывы, то слухай. Я хачу, каб ты слухаў. Яна будзе маёй ахвярай і дарам на алтары Вялікага Дракона, які стаіць на чале войска Хаоса, і які хутка прыйдзе, каб растаптаць гэты Сьвет. Але спачатку я … , - тут жоўтыя вочы напалову прыкрыліся. Я зраблю тое, што ты даўно хацеў, але ж не зрабіў. А ты так гэтага прагнеш, ці не? Я ж адчуваю, што ты хочаш з ёю зрабіць. Ты ведаешь, які экстаз ёсьць па за межамі чалавечага экстазу. Ты ж рабіў гэта шмат разоў. Мноства. Колькі іх было? Гэтых маладых красунь? Для якіх тваё каханьне стала апошнім, што яны адчувалі ў жыцці? І ты ведаешь, што яны адчувалі той жа экстаз, што і ты. І яны прасілі яшчэ! Яны ахвотна аддавалі цябе сваю кроў і жыццё. Яны памiралі шчасьлівыя. Памятаешь? Тая дзяўчына, якую ты ўзяў ў доме ў палаючым горадзе? Ды былі ж і другія. Я ведаю цябе. Тваіх грахоў столькі, што неба скаланулася, і не адзін раз. Так чаму ж мне не зрабіць для яе тое, што ты зрабіць ня хочаш? Яна будзе прасіць мяне забіць яе. Гэта сьмерць будзе самым дзіўным у яе жыцьці. Абяцаю, што я ня буду рабіць гэта хутка. Спачатку я авалодаю ёю традыцыйным спосабам. І не адзін раз. Тут істота дзіка зарагатала. Я ўпэўнены, што са мной ёй будзе лепш. Бачыш, я не эгаіст, і думаю ня толькі аб сабе.

- Якая яна? Раз уж мы тут, раздзеленыя вадзяным шклом, скажы мне. - Я чуў яе пах. Ён дзіўны. А на смак якая яна? Што ты адчуваў, калі кранаў яе губамі? Калі твае вусны праходзілі па

яе целу? А там? Мне было бы дужа цікава. Раскажы мне. Прыгожа, як ты можаш. На скажоным твары раптам адбіўся боль, які зрабіў яго амаль жывым.

- У мяне даўно не было жывой жанчыны. Не хачу разьменьвацца на дробязі. Я столькі стагоддзяў чакаў, каб задаволіць гэтае жаданьне, і на меньшае я ня згодзен. Бо я прагну ня толькі яе цела, але ж і душы, якая прыўкрасьней за яго. Ты ж гэта ведаешь таксама. Бо і ты прагнеш яе душы так, як і цела.

Скажы, там, на лузе, калі яна падышла да цябе, як ты ўтрымаўся? Каб ня выпіць яе жыццё?

- Вельмі проста, - задуменна сказаў Міхась. – Таму што я яе кахаю. А ты проста прагнеш.

- А можа, і я кахаю яе? – прагучэла ў адказ.

З гэтымі словамі паверхня вады закіпела, слуп яе ўзьляцеў у гару, і з шумам абрушыўся назад у чашу. Але ж яе было столькі, што яна вылілася, і заліла ўсё вакол, змыўшы насыпаны Міхасём круг. І вось перад ім, прама перад яго вачыма, ва плоці вырас той, зь кім ён размаўляў.

Міхась ускочыў. Яго твар сказіўся, вочы засьвяціліся. Але ж ён ня мог. І ўзяў сябе ў рукі.

Перад ім стаяла цень яго ворага. Высокі, на паўгалавы вышэй за Міхася, шыракаплечы, магутны, мярцвяк захінаў сабой усё.

- Што ж, пагаворым як роўныя, - працягнуў цень. – Ты ведаешь, што я далёка. Але ж так мне зручней з табой гаварыць, гледзячы табе ў вочы. Прыходзьце, ты ведаешь куды. У той дом. Наш дом. І прывядзі яе. Ня думай прыйсьці без яе. Бо я ня выйду. А там мы сустрэнемся ў целах, і вырашым яе лёс. Інакш

ты ня будзеш мецъ спакою. Ні ты, ні яна. Я абяцаю, што дастану вас усюды. Я не прыскорваю вас. Бо мне таксама трэба час. Але ж калі дзіця нарадзіцца. Я хачу, каб яно жыло. Бо гэта ж і мая кроў. Будзе добры ваяр.

І з гэтымі словамі цень зьнік.

Апустошаны, Міхась сядзеў на стуле ў лазьне. Сьвяча дагарала на стале. Пустая міска валялася далёка на падлозе. На яго сэрцы была чорная ноч. Цёмная, як сьвятло пекла.

# Глава 26 : Войска ночы

Стаяла глухая ноч, але сябры ўсё яшчэ спрачаліся.

- Я буду вартаваць яе, калі патрэбна, усё жыццё! Я не аддам яе! – гарачыўся Міхась.

- Тады ён прыйдзе да цябе сам, у той момант, калі ты не чакаеш. І ён здабудзе яе. А цябе ня будзе побач. Так што гэта ня выйсьце, - разважліва адказаў Нікіфар. – Трэба пагадзіцца. Дарэчы, гэта добра, што ў нас ёсьць час. Час гуляе на нашай старане. Ён перахітрыў сам сябе. Альбо … тут ён раптам змоўк. - Ён і праўда ня хоча, каб загінула дзіця. Бо ж ён таксама прагне працягу вашага роду. Як гэта вяжацца з яго жаданьнем зьнічтожыць усё жывое, я ня ведаю. Але ж адкуль у мярцвяка лёгіка.

- Ну да, лёгікі няма, - Міхась цяжка уздыхнуў.

- Слухай, - тут Нікіфар палажыў руку на Міхасёва плячо. – Ня думай пра благое. Давай лепш займемся зборам войска, каб пільнаваць памежжа. Нам яно спатрэбіцца ў любым разе. Ёсьць у мяне на прыкмеце некалькі добрых хлапцоў, берсеркі, ці ульфхеднары, па-вучонаму. Ваяры-ваўкі. Не пярэваратні, што нават ня горш. Тут Нікіфар хлопнуў Міхася па плячу.

Ужо разыходзячыся, Нікіфар заглянуў Міхасю ў вочы, і раптам запытаў:

- Дарэчы, колькі ты яшчэ будзешь успамінаць тую дзяўчыну?

- Усё жыццё, - крыху памаўчаўшы, вымавіў Міхась.

Гэтай ноччу Летыцыя спала дрэнна.

- Я ведаю. Яго завуць Фенрыр, - адразу сказала яна, калі прачнулася.

Міхась скалануўся.

- Адкуль ты ведаеш яго імя?

# ГЛАВА 27 : Начныя мроі

Пасьля ночы ў лазьне і размовы зь Нікіфарам Міхась прыйшоў позна, калі Летыцыя ўжо спала глыбокім сном. Ён доўга стаяў ля вакна, склаўшы рукі, і думаў. Усё, што здарылася, было зашмат нават для яго.

Ён адчуваў аграменнае пачуццё адказнасьці. Адказнасьці за яе, за Памежжа, нейкай вялікай адказнасьці ўвогуле. Як хутка перавярнуліся падзеі! Здаецца што ўчора ён сустрэў іх, выйшаўшы на сьвятло вогнішча на самой мяжы. Яны сядзелі і не здагадваліся, што ўжо правальваюцца скрозь цень, які зацягвае іх, праглынае глыбей і глыбей, і яны ўжо болей на тым сьвеце, чым на гэтым. Яны перасеклі мяжу. Ён зразумеў гэта адразу. Крыху зьмяніў воблік, і падыйшоў да агню. Трэба было разабрацца, хто яны, што зь сабе уяўляюць. Наогул, яны не выглядалі нейкімі значнымі парушальнікамі. Так, дзеці. Ну, для яго. Хлапец і дзяўчынка. Тады яна здалася яму зусім малой, гадоў можа шаснаццаць. Былі часы, праз памежжа проста праходілі натоўпы. Як тады, з гэтымі партызанамі. Тады і дзяцей было шмат, і жанчын, і ўвогуле ўсялякага люду. Які жах. Колкі ён жыў на гэтым і тым сьвеце, такога ён яшчэ ня бачыў. Каб так ... бязьлітасна. Нават у яго, ваўкалака, ёкала сэрца. Колькі ён паспытаў вайны за сваё жыццё. Усялякае было. Але ж каб такое ... зьнішчэньне. Каб так дзелавіта, можна сказаць прафесыйна, так жорстка забіваць такія натоўпы народу... ды і каго. Яго ізноўператрахнула ад успамінаў. І гэта тварылі тыя, хто лічыў сябе людзьмі. Ну, калі гэта такія людзі, то ён мабыць анёл. Ён крыва ўсьміхнуўся сам сабе, гледзячы праз вакно ў цемру. І тут ізноў гэтыя дзеці. Ну, хлапец, можа, старэйшы. Той быў ужо амаль мужчына. Прыгожы, шыракаплечы, зь яснымі вачыма. Чымсьці нагадваў яму яго, гадоў так ... і ня ўспомніш, колькі, назад.

Сустрэў яго насьцярожана, нават агрэсыўна. Ну, гэта было нармальна. Ён сам бы так зрабіў на яго месцы. Таму ён і выбраў

гэты воблік - старога, каб ня дужа напалохаць парушальнікаў. А вось яна, дзяўчынка, глядзела вачамі анёла. Ён потым не ўтрымаўся, і так і сказаў ёй. Што яна была як анёл у лесе, пад хвоямі, пажартаваў, ці не перашкаджаюць ёй крылы. Апынулася, што не. Не перашкаджаюць. Ён зь цікаўнасьцю назіраў за імі. Яны ж ні аб чым не здагадваліся. Хаця... Яна нешта разумела. У яе была проста зьвярыная інтуіцыя. Як і ў яго. Яны былі зь ёй падобныя. Разумелі адно аднаго з паўслова. У выглядзе старога яму гэта было нават прыкольна.

Калі ён ішоў побач, яму хацелася ўзяць яе за маленькую руку, падтрымаць яе на ляснoй сьцяжынцы. Яе кавалер крочыў ззаду; і, дарэчы, не адрозьніваўся галантнымі манерамі. Такі просты хлопец. Без асобых саньціментаў. Ён нават здзівіўся, якія яны розныя. Ну, апынулася і к лепшаму. Для яго самаго, ва ўсякім разе.

Ён у думках уявіў яе вобраз тады, калі яны сядзелі ў пакоі яго "фарпоста". Ружовы ад цяпла твар, вялікія шэрыя вочы. Чорныя валасы блішчэлі ў сьвятле сьвечаў. Як яна слухала яго. Якія глупствы ён нес. Ён атрымоўваў вялікае задавальненьне ад сітуацыі. Калі б ён меў свой звычайны выгляд, ці пагадзіліся б яны пайсьці да яго на госьці? Нешта ён сумняваўся. І тады нічога б не адбылося. Яны пасядзелі б яшчэ колькі часу ля кастра, паслухалі б таямнічыя песьні лесу. Але ж ... ужо тады Памежжа было досыць небясьпечным. Яно ніколі не было ціхім месцам. А тут... Зданьні ўжо пачыналі прынюхвацца да іх. Іх маніла дзяўчына. Яе салодкі водар. А хлапец... Што б ён зрабіў супраціў ваўкалака ці нават простага балотніка? Чарцей у самім лесе ня шмат, лесавік ганяе, але ж на пустках ды ў балотах іх хапае. І што б ён са сваім нажом? Сьмешна.

Таму ён зрабіў правільна. Ён ні аб чым не шкадаваў. Ды ён наогул ніколі ні аб чым не шкадаваў. Вырашаў нешта, і браў на сябе адказнасьць.

І зараз на ім ляжыць адказнасьць за яе. Яна мірна спіць, і не

здагадваецца, якія ён ганяе думкі. Якую сёньня ён меў размову, і зь кім. Аб чым дамовіліся. Ён аж скалануўся. Якое там дамовіліся. Фенрыр яго проста злавіў у пастку. Але ж ён сам туды ішоў. Адкрыта. Гульня ў хованкі не пра яго.

І зноў ён блукаў ва ўспамінах.

Люстэрка… Чорная чаша з вадой, у якой зьявіўся Фенрыр. Наогул, зь люстэркамі ён ня вельмі сябраваў. Вось і тое люстэрка, у хаце. Дарэчы, не люстэрка, а дзьверы. Як цяпер кажуць – партал. Гэта ж нада дадумацца, завесіць тканінай, і кінуць як ёсьць. Але ж ён наогул не чакаў у хаце гасьцей. А яго нядбайна зачынены партал даўно не турбаваў. Так было нават зручнее. Ды і хто б адтуль да яго сунуўся? Жыхары таго сьвету наогул не дурныя. Чаго ня скажаш пра некаторых людзей. Але ж яна не была дурніцай, зусім наадварот. Чаму ж яна туды палезла?

Навошта яна ададвінула гэтую паганую тканіну? У думках ён аж застагнаў.

Нікадым. О, канешне, ён убачыў яе, і захацеў. А хто б яе не захацеў? Ён уявіў яе прыгожы цікаўны твар с аграменнымі вачыма насупраць свайго. Паставіў сябе на месца Нікадыма. Той колькі год басьцяўся па Памежжы і вакол, ня бачыўшы чалавечае душы, ня тое што прыгожай дзяўчыны. Выхад яму на той сьвет які гэты ён закрыў. Але ж потым ён усёроўна неяк вылез. Пажыў во чалавекам. Чалавекам. Міхась аж рыпнуў зубамі. Такога чалавека забіць мала. Пры думке аб Нікадыме яго ахоплівала лютасьць. Калі б ён тады ня зьнік у адзіны момант, наступнага моманту ён бы ня ўбачыў.

Гэтая рана назаўсёды застанецца ў яго душы. Гэтая віна. Канешне, ён ніколі не нагадае аб гэтым ёй. Болей яны гэтую тэму не закраналі. Ён ня мог уявіць, што робіцца ў душы ў яе. Жахаўся ўявіць. Толькі ў думках маліў усіх Багоў, каб яна нічога з сабой не зрабіла. Гэтага ён баяўся болей за ўсё.

Але ж Нікадым выратаваў яго. Вывеў зь пекла. Ды як адно вось такое злачынства можа стаць паміж сябрамі, братамі, што яны застаюцца найгоршымі ворагамі ў жыцці. Як бязьлітасна можна парушыць усё! Дзе зараз Нікадым, ён нават не хацеў і думаць.

Спадзяваўся, што далёка.

А яна тут. Спіць на ложку. У цішыні ночы ён сэрцам чуў яе няслышнае дыханьне, лёгкае як пярынка. Як мара. Дагэтуль ён ня мог зразумець, як гэта. Яна зь ім. Яна тут. Пачуццё шчасьця ахоплівала яго, як сонечны дзень. Ён, вялікі мужчына, а проста млее ад замілаваньня, калі яе бачыць.

Навошта ёй спатрэбіліся тыя яго сшыткі? Ды і ня ўсе яго, дарэчы. Так, калекцыя. Навошта яму былі сшыткі. Што яму туды запісваць? Нейкія дзёньнікі, назіраньні. Да, нешта там было. Нейкія засталіся ад папярэдняй гаспадаркі хаціны. Яна таксама шмат ведала. Можа, Летыцыі што адтуль і згадзілася. Веды, яны і ёсьць веды – усялякія і ад усіх. Ніколі ня ведаеш, што табе можа спатрэбіцца.

А як ён прыходзіў да яе… Пры гэтых успамінах яго проста кінула ў жар. Доўга вагаўся, потым ня вытрымаў. Партал, ці люстэрка, вось яно. Што там хадзіць. Адзін крок зрабіць. Ён, канешне, трываў. Цярпеў. Але ж ня доўга. У думках ён усьміхнуўся. Ну да, ён не зь цярплівых. Куды там. Асабліва калі датычыцца прыгожай дзяўчыны. Асабліва яе. Ён жа закахаўся як зялёны хлапец. Як той Алекс. Ён жа бачыў, як той на яе глядзіць. Але ж той узаемнасьці пэўна не знайшоў. Таму і сядзеў ля вогнішча з пахмурым відам.

А вось ён знайшоў. Ды колькі выпрабаваньняў ім прыйшлося прайсьці разам, пакуль ён рашыўся. Тады, у яе на кватэры, ён болей ня мог сябе трымаць. Ён разумеў, што другога шанца ня будзе. І тады навошта яму жыццё? Лепей утапіцца ў якім возеры. Тапіцца ён бы, канешне, не пайшоў, але ж сьмерць сабе

бы знайшоў хуткую і геройскую. З другога боку, гэтай хуткай геройскай сьмерці ён шукаў усё жыццё. Ды знайсьці ня мог. Ці яна яго цуралась. Не брала яго Мара. Здзеквалася. А можа, увогуле пра яго ўжо забыла? Ну і добра. Бо цяпер ён вельмі хоча жыць. Яму ёсьць, дзеля каго.

Тады, калі ён увайшоў у яе пакой, і ўбачыў яе … ізноў ля люстэрка. Яна выглядала так дзіўна прыгожа, што ў яго перахапіла подых. Ён проста аслупянеў. Застыў, любуючыся яе хараством. А потым … Потым, канешне, не ўтрымаўся. Ды і не зьбіраўся ён трымацца. Навошта ж ён зайшоў у яе пакой. Зразумела. Што ён сабе прыдумвае апраўданьні. Хацеў яе проста да чорцікаў. Ужо ня мог трымацца. Як той Нікадым. Ды ён такі ж. Ці ня горш. Калі ён яе бачыць, у яго проста зносіць дах. Калі ён у першы раз крануў яе, страціў подых. Яе скура, такая шаўкавістая, мяккая пад яго рукамі. Як хутка яе сукенка сасьлізнула на падлогу. Што там пад ёй было? Амаль што нічога. Ён ня памятаў. Ён памятаў толькі, як кранаў яе валасы губамі, як цалаваў яе ўсюды, дзе толькі можна. І ня можна. Ён дазволу не прасіў. І яна не супраціўлялася. Адразу проста растаяла ў яго руках. Быццам бы чакала гэтага заўсёды. Чакала ўсё жыццё – сказала яна потым яму, калі яны ляжалі, стомленыя, разам. Якое там жыццё, падумаў ён, дзевятнадцать гадоў. Вось ён чакаў, дык чакаў. Спачатку яму было проста страшна ўвайсьці ў яе. Ён думаў, што, можа, ён здолее спыніцца. Навошта ей гэта. У яе сваё жыццё, каханы, зь якім яна разам езьділа ў вандроўку, пляны, сябры. Што ён можа ёй абяцаць? Што ён можа ёй даць? Так і здарылася. Даў ня шмат. Акрамя самаго сябе. А вось забраў дык усё. Раўнаважны абмен, нічога ня скажаш. Але ж таму, хто паспрабуе яе адабраць, ён проста скруціць шыю. Усё, позна. Яна ўжо яго, і гэтага не зьмяніць. Калі там які Бог назірае за імі, то ён абяцаўся за яе перад Богам. Перад усімі Багамі. Нават Багі ня здолеюць адняць яе ў яго. Ён за ёй на край сьвету пойдзе. У пекла дык у пекла, трэба будзе рай перавярнуць, дык перавярне з ног на галаву. Памяняе пекла з раем месцамі. Хай адны пагрэюцца. А другія ахладзяцца. Ён моучкі ўсьміхнуўся.

Дык вось, спыніцца ён ня здолеў. І ёй, надзіва, гэта падабалася.

Калі ён адчуў, як адзываецца на яго яе цела, ён зразумеў, што яна хацела яго таксама, ня меней. Як яна стагнала ў яго руках …

Ён проста стаяў і ўспамінаў. Не хацеў чапаць яе. Не хацеў турбаваць яе сон. Ён атрымоўваў ад успамінаў ня меньшую асалоду, чым ад фізічнай блізасьці. Яны былі яго самым каштоўным скарбам. Ён мог прыгадваць іх бясконца, і яго кідала ў пал. Ён абыходзіўся зь імі ашчадна, прыгадваючы толькі ў самыя сакральныя моманты цішыні сэрца. Але ж часта яны ўзьнікалі і самі, паміма яго волі. Вось ён глядзіць на яе на падворку. Яна стаіць ля плота, і задуменна глядзіць на далёкі лес. А яму хочацца падыйсьці, і ўзяць яе прама тут. Прама на лугу, на траве. А калі яна тады стаяла ў сваёй мокрай кашулі пасьля купаньня ў крыніцы, а побач зь ёй … гэты… ён думаў, звар'яцее ад рэўнасьці і жаданьня. Яму проста хацелася паваліць яе там, ля гэтай крыніцы, без усялякіх прылюдзій. Ён ледзь стрымаўся. А калі ўбачыў гэтага, да жаданьня дадалася шалёная рэўнасьць. А тады, у лесе, пасьля бойкі… Як яна на яго глядзела, вялікімі расшырыўшыміся вачамі. Ён помніў яе погляд праз крывавы туман, што стаяў перад ім. Тады ён павёў сябе нават горш за Нікадыма. Ён проста ўзяў яе, як глыток жыцьця, ня клапоцячыся аб тым, падабаецца ёй гэта, ці не. Але ж і тады яна не супраціўлялася. Яна казала, што кахае яго больш за жыццё. Ён проста браў і браў яе цела, пакуль ня адчуў сябе ізноў чалавекам. Што тады адчувала яна … Страшна ўявіць. І ўсё ж, яна яму даравала. Прыняла ўсё як патрэбна. А можа, яна і праўда кахае яго так, як і ён? Ён хацеў бы спадзявацца.

За шыбаю ўжо пачаў займацца ўсход. Трэба хоць крыху паспаць. Заўтра столькі справаў.

# ГЛАВА 28 : Заўтра

І вось, першае, што яна яму кажа пры прабуджэньні:

- Яго завуць Фенрыр.

Ён падскочыў на ложку, як укушаны. Глядзеў на яе, не адводзячы вочы.

- Што ты сказала?

Ён жа яшчэ не пасьпеў ёй нічога расказаць, а вось што – яна усё ведае! Няўжо Ён да яе прыходзіў, няўжо асьмеліўся? Да ёй – у сьне? Яму стала горача.

Але ж ён узяў сябе ў рукі і асьцярожна запытаў:

- Можаш мне расказаць, што ты бачыла? Гэта вельмі істотна.

Яна неяк няёмка нахіліла галаву. Быццам вагалася. А потым сьмела падняла на яго вочы, і сказала:

- Канешне. Я ўсё табе раскажу.

У сьне я ішла па бясконцаму полю, зацягнутаму белым туманом. Потым туман разышоўся, і я ўбачыла перад сабой лес. А з лесу выйшаў ён. Высокая чорная постаць у плашчы, яго твар быў закрыты капюшонам. Ён сказаў:

- Вітаю цябе, Летыцыя, я – Фенрыр! Я прапродак Міхася. І ў мяне да цябе ёсьць важная справа.

А потым ён павольна зьняў капюшон, і я ўбачыла яго твар. Жоўтыя пранізьлівыя вочы, твар быццам бы чалавека і адначасова ваўка.

Мне стала жудасна, я не магла зварухнуцца. Ён здаваўся вельмі высокім, хоць і стаяў на адлегласьці.

Тут ён неяк з палёгкай уздыхнуў, але ж працягнуў слухаць.

Летыцыя працягвала:

- Потым ён сказаў мне, што нам трэба будзе сустрэцца ў трох, ты, я і ён, але ж тады, калі я … тут яна замаўчала.

І вось калі я, калі ў мяне будзе дзіця, тады можна будзе ісьці туды, куда сказаў ён. Ён сказаў, што ты ведаешь, і што ён хоча, каб я ведала таксама.

Гэта вельмі істотна, і нам трэба вырашыць адно пытаньне, якому ужо шмат часу. Ён сказаў, што мне не патрэбна баяцца яго. І ён не жадае нам зла. Але ж…

І яна раптам змоўкла.

- Але ж … Што?!! – ня вытрымаўшы, Міхась схапіў яе за плечы.

Але ж … вось…, - прашаптала яна, і працягнула Міхасю руку. На яе белай тонкай руце быў быццам бы калёным жалезам выпалены крывавы ўздуўшыся знак – руна Хель.

- Ён узяў мяне за руку сваёй далоньню ў металёвай пальчатке, і яна была такая гарачая, што я ледзь не закрычала. Але ж раптам прачнулася. Што гэта?

Міхась закрыў твар рукамі, і глуха застагнаў. У такім адчаі ён ня быў даўно. Даўно не адчуваў сябе такім бездапаможным. Але ж хутка сабраўся. Калі ён глянуў на яе, на яго твары быў такі боль, што яна скаланулася.

- Гэта яго знак, - змрочна адказаў ёй ён.

- Руна Хель. Гэта яго кляймо. І тут ён накрыў яе руку сваёй.

- Я не аддам цябе яму. У нас ёсьць яшчэ час. І я абяцаю, я клянуся табе, што ён ніколі, ніколі болей ня зробіць табе шкоды.

Яна ціха кіўнула, гледзячы яму ў вочы сваімі вялікімі шэрымі вачыма з доўгімі вейкамі. Яе валасы зблыталіся і пакрылі ёй плечы, тонкая начная кашуля была вільготнай ад поту. Было бачна, што яе кідае з жару ў холад. Ён абняў яе і прытуліў да сябе, гладзіў па галаве, і сам ледзь трымаў слёзы.

Раніцой Летыцыя выйшла сьнедаць зь перавязанай рукой. Ніхто нічога не запытаў. Усе рабілі выгляд, што нічога не адбылося.

Яна думала, што ня ўсё расказала яму. Калі Ён падышоў да яе і схапіў за руку, яна адчула нібыта ўдар маланкі, які праціснуў яе ўсю, ад ног да галавы, быццам бы прайшоў зьнізу ўверх праз яе, і балюча адгукнуўся ў сэрцы. А потым яна адчула нешта, як быццам боль, але ж такі, які хацелася адчуваць яшчэ і яшчэ. Ён глядзеў ёй у вочы, толькі трымаючы за руку, і яна плыла ад яго жалезнай хваткі. Адначасова ёй было і прыкра, і жудасна, і горача. Яна адчувала сябе запэцканай яго поглядам. Потым ён нахінуў свой нялюдскі твар да яе, і яна заплюшчыла вочы. І

адчула яго дакрананьне да сваёй скуры – да шчакі, потым да шыі. А потым ён зьнік. І яна прачнулася. Яна дасюль адчувала яго голас: “Цяпер ты прыйдзеш, каханая”.

Але ж з гэтым яна справіцца сама. Яна болей ня будзе турбаваць Міхася. Пра гэта яна не раскажа. Яна будзе моцнай. Яна здолее яго пераадолець. Яна была ў гэтым упэўнена.

# ГЛАВА 29 : Берсеркі

- Дурні твае берсеркі! Горш за ваўкалакаў ды пярэваратней! - Якіма было не ўтаймаваць.

- Увесь лес мне перавярнулі, патапталі, грыбы ўсе зьелі да апошняга мухамора, адны пянькі тырчаць, звяроў распугалі, бо самі горш за усіх зьвяроў!

- Страшныя, жудасьць, - паддакнула Ганна. А пах! Мамачкі...

- Дзе ты іх знайшоў, чым такім прывабіў? Што ты ім такое паабяцаў?

- Рагнарёк, - спакойна адказаў Нікіфар, і, сашчурыўшы вока, прыняўся разглядаць наточанае лязо сякіры.

Міхась зь цікаўнасьцю назіраў за іх дыялогам, але трымаў нейтралітэт. Бо ўсоўвацца паміж раз'юшаным лесавіком і ведьзмаком было справай няўдзячнай. Гэтак яны грызьліся амаль кожны дзень з таго часу, як Нікіфар прывёў зграю неахайных падшыванцаў аднекуль зь мяжы, дзе яны стаялі табарам можа з часоў Рурыка.

- Божухна! - вохала Ганна, пакуль патрапаны натоўп горда шпацыраваў пад яе вокнамі. Якім толькі сплюнуў.

- Партызаны яму ня людзі былі. Глядзіце на яго. А гэтыя ўжо навартуюць.

Міхась таксама задаўся пытаньнем наконт прыгоднасьці Нікіфара як камплектоўшчыка кадраў памежнай аховы.

- Нейкія яны трывожныя хлапцы, - паспрабаваў ён выказаць Нікіфару сваё меркаваньне. Але ж тот спыніў яго, махнуўшы рукою.

- Добрыя хлопцы! Нашыя! Ты не глядзі, што паабнасіліся. Бо ж ў іх акрамя скураў адзёжы ўжо колькі год няма. Спарахнела. Ну дык яны яшчэ больш закаліліся праз тое. Толькі крапчэй сталі.

- Закаліліся? Як бы яны тут не прыбарахліліся з майго куфара! - Ганна падазрона глянула на вялікі замок, які ўпрыгожваў надзейную дубовую крышку.

- Не зьбяднееш, - падміргнуў ёй Нікіфар. У цябе і так усяго зашмат. Калі ты яго ў апошні раз адчыняла? Можа, там пацукі ўсё паелі. Вось яны і праверацць.

- Я ім праверу куфары ў маёй хаце, пашкадуюць, што так нядбайна памёрлі. Паскочуць у сваю Вальгалу ці як яна там! - Якім нахмурыў брыво, і прадэманстраваў цяжкі кулак, пакрыты як поўсьцю белымі валасамі.

- Пайду я да партызанаў схаджу, - рашуча ўстаў Міхась, узяў доўгі палаш, і, прыгнуўшыся, выйшаў за дзверы.

А з боку лесу між тым даносіліся громкія гукі.

Берсеркі, ці, дакладней, вульфхедеры, як іх абазначыў Нікіфар, атабарыліся як раз праз луг, недалёк ад схованкі, дзе колькі часу таму Іван падарваў Фенрыра.

Палаткі з расьцягнутых скураў месьціліся паміж елкамі, між іх гарэлі кастры, на якіх смажылася дзічына.

Якім бы сказаў - апошняя, падумалася Нікіфару, і ён ня ўтрымаў усьмешку, якая схавалася ў густых вусах.

Верхаводзіў берсеркамі даволі малады вой зь вялікай ваўчынай пысай, надвінутай замест шапкі.

- Ульвар, - зрабіў ён крок насустрач Нікіфару, і працягнуў яму вялікую далонь. Нікіфар падумаў, і пацiснуў яе ў адказ.

- Дык што ад нас патрэбна? - запытаў берсерк, калі неабходныя фармальнасьці ў выглядзе пацісканьня рук былі выкананы.

- Трэба знаходзіцца тут і вартаваць мяжу, - адказаў Нікіфар. Ад усіх вартаваць. І ад нашых, і ад іхніх. І ад вашых таксама, - з выразам прамовіў ён, гледзячы Ульвару ў вочы.

- Зразумеў, - кіўнуў той. - Віно, жанчыны будуць?

- Русалкі. Вунь у той старане, - махнуў галавой Нікіфар. І яшчэ кікімары ёсць. Тыя за балотам.

- А болей нікога няма? - расчаравана працягнуў берсерк.

- Для вас няма, - адрэзаў Нікіфар.

Але ж віна будзе даволі. Вам якога, з бузіны ці белены?

- Дзякуй, але ж я ня пью, - адказаў Ульвар. У нас свае спосабы.

- Ну і добра, меней клопатаў, - пацiснуў плячыма Нікіфар.

- Дарэчы, ты абяцаў Рагнарёк, - настойліва вымавіў Ульвар,

пільна гледзячы яму ў вочы.

- О, гэтая справа не за гарамі, - упэўніў Нікіфар. Але ж трэба крыху пачакаць.

Увогуле, берсеркі апынуліся не такімі ўжо і страшнымі хлопцамі. Паводзілі сябе мірна, вартавалі добра. Ці стаміліся бадзяцца бяз справы, ці баяліся, што іх ня возьмуць на Рагнарёк. Ці байкі пра іх былі крыху перабольшваньнем.

# ГЛАВА 30 : Супрацьстаяньне

Міхась узьняўся на высокі курган пасярод гушчару. Лес тут быў крыху радзейшы, не такі, як вакол. Гонкія хвоі разьбягаліся ў бакі, агольваючы парослы травой пяшчаны верх. Шэрае блёклае неба зацягнулі аблокі, але ж надвор'е стаяла сухое для сярэдзіны восені.

Ён задраў уверх галаву. Здавалася, што хмары над ім рабілі нейкі складаны павольны танец, як паненкі ў багатым убраньні. Праляцела, громка каркаючы, крумкачыная стая. Аднекуль збоку данеслася звонкая, працяглая песьня - нехта зайграў на жалейцы. Мабыць, каля вёскі. Але ж гук далёка разносіўся ў пустым паветры, і лес прыціх, прыслухваючыся.

Міхась устаў, шырока расставіўшы ногі, прылажыў рукі да вуснаў і крыкнуў так, што крумкачы разам узмылі ў гару, а па галінах елак прабегла хваля:

- Фенрыр! Цішыня. Фенрыр! Ізноў цішыня. Фенрыр! - у адчайнай ярасьці закрычэў, а болей зарычэў ён, так што стайка напалоханых касуляў кінулася з паляны ў гушчар.

Адказу няма. Міхась сьціснуў кулакі.

- Трус! Я цябе знайду, - у шалёнстве выкрыкнуў ён. - Ты хаваешся ад мяне, трус, які толькі і можа, што прыходзіць па начах да жанчыны. Але ж мяне ты баішся, ня гледзячы на амулет. Выхадзі, пагаворым. Вырашым усё як роўныя.

Ізноў цішыня.

Раптам, быццам шопат на вуха, прагучэў голас.

- Роўныя? Якія мы роўныя? Ты мне не цікавы. Ты ня здолееш перамагчы мяне, ды й прызнацца, у мяне шмат справаў. Падрыхтоўка да нечага істотнага, аб чым ты хутка даведаешся.

- Гэй ты, бясплотнае цела! Усё ж такі адазваўся. Пайшоў на дыялог. Можа, праявішся? Ізноў цішыня. Міхась стаяў і слухаў паветра. Ніякіх дзіўных гукаў, звычайныя лясныя пахі. Нікога і нічога падазронага. Дзе ж ён можа хавацца? Што Фенрыр знаходзіцца недзе ў сваёй фізічнай форме, у яго ня было сумненьняў. Толькі б яго знайсьці. Ён быў упэўнены, што таму не дапаможа і амулет неўміручасьці. Але ж пачварына быццам бы ведала намеры Міхася, ды надзейна затаілася. Так, бойка яму не патрэбна. Выматвае нервы. Чакае. Свайго зорнага часу. Ой, дачакаецца. Міхась сьціснуў зубы. Раптам яму ў галаву прыйшла хуткая, як маланка, думка. І такая ж пранізьлівая. А можа, ён у маёнтку? Яго мышцы напружыліся. Ну што, зараз мы гэта пабачым. Праз некалькі гадзін ён ужо будзе там. І Міхась хуткім крокам спусьціўся з кургана і зьнік у гушчары. Толькі некалькі галін ціха скаланулася побач. Ён ішоў праз лес упэўненым крокам спрактыкаванага рэйнджера. Дарога проста лажылася яму пад ногі. Дрэвы, здаецца, расступаліся. Не зьвяртаючы ўвагі, хутка пераскокваў праз паваленыя ствалы, абыходзіў гушчар. Ён ступаў ціха, нячутна, як драпежнік зь сямейства кашачых. Прынюхваўся, па-ваўчынаму ўбіраючы пахі, якія яго мозг фільтраваў зь нечалавечай хуткасьцю. Не, пакуль што нічога падазронага ён не адчуваў. Але ж нешта было ня так. Яго інтуіцыя, якая за гады рызыкі і бясконцых боек набыла неверагодную вастрыню, пасылала ў нервы ціхі, але ж настойлівы сігнал. Нешта адбываецца. Нешта будзе. І таму ён ішоў і ішоў усё больш упэўнена. Ён ведаў. Проста ведаў. Растлумачыць ён ня мог. Яму трэба было туды ісьці. Там яго нешта чакала. Нарэшце, за верхавінамі паказаліся гатычныя шпілі маёнтка. Яго радавы маёнтак. Як высьвятлілася з цягам часу. Першы раз ён трапіў туды выпадкова. Ну як, выпадкова. Ён ужо пачаў сумнявацца, што нешта выпадковае адбывалася ў яго жыцці. Ён разумеў, што з пэўных часоў ўсё ішло па нейкаму

папярэдне прапісанаму пляну. Толькі вось кім? Калі гэта пачало адбывацца? Напэўна, кардынальны паварот у яго лёсе адбыўся, калі ён сустрэў яе - тую прыгожую габрэйку. Як ён яе кахаў, яна панавала ў яго сэрцы над усім. Але ж ці то было каханьне? Мара, нейкае наважэньне, чараўніцтва… Мара? Так, Багі любяць гуляць са сьмяротнымі. Напэўна, гэтая мара захапіла яго сэрца па волі Багоў. Але ж цяпер туман разыйшоўся, і ён жыве па сваёй, уласнай волі. Ён ніколі не дазволіць болей гуляць з сабой. Ні багам, ні дземанам. Ні сваім, ні чужым. Цяпер ён ведаў, што такое сапраўднае каханьне. Менавіта яно зараз вяло яго і прыдавала моцы. І гэта моц здавалася яму бязьмежнай. Ён яшчэ ня ведае як, але ён спыніць яго. Фенрыр павінен мець свае слабыя бакі. Недзе ёсьць гэтая шчыліна ў яго дасьпехах. Нарэшце, ён перайшоў мяжу, за якой пачыналася яго радавая зямля. Прадраўся праз гушчары дзікай ажыны. Звыклым крокам прайшоў цераз заросьлы, калісьці мошчаны бруськавіцай двор сядзібы. Перад ім узвышаўся незвычайны будынак, грозны ў сваёй гатычнай прыгажосьці. Раньняя гоціка, як сказаў бы Алег, калі муры яшчэ не набралі гонкасьці, прысутнай сцілю, але дахі ўжо пацягнуліся ўгару, да неба, нібы прагнучы працінуць сэрца Творцы. Дом яго прапродкаў, у які ён трапіў выпадкова, калі напуганыя коні панесьлі іх убок ад праезжай дарогі - праз мяжу, у памежжа. Тады ён апынуўся ў памежжы першы раз у жыцці. І нічога не заўважыў. За мяжой пачуццё реальнасьці зьнікае, і ўсё тое, што нямагчыма на тым сьвеце які гэты, у Памежжы ўспрымаецца як норма. Там ён знайшоў ліст, адрасаваны яму - таямнічае пасланьне аднекуль па за межамі Сьмерці. Але ж разабраць яго ён ня мог. Дарэчы, і Нікіфар потым па толку не растлумачыў яму, што там напісана. Той неяк адразу вырашыў, што ім патрэбна разам ісьці на той курган і падымаць тое, што ў ім сьпіць. Чаму? Ён ня запытваў. Ён давяраў Нікіфару як ніхто. Бо ж настаўнік. Якім жа наіўным ён быў. Але ж гэта таксама яго жыццёвы шлях. І яны прайшлі яго разам. Як бы тое не было. А можа, ўся справа ў амулеце? - варухнулася ў яго раптам думка. Яны ўсе прагнуць яго - амулет неўміручасьці, але ж ён не даецца ім у рукі. Тады, у кургане, калі яны імкнуліся здабыць яго ў пахаваньні той ведзьмы, пра якую гаварыў Фенрыр, нічога не атрымалася. Яна не дала ім яго. А вось Летыцыі дала. Але ж потым ён ізноў зьнік. Ды яшчэ ён тады так нязручна згубіў свой крыж. Чараўнік с крыжом. Што ж,

бывае і такое. Як ніяк, але ж яго хрысьцілі. Была справа. Праўда, па правілах вернікаў ён ніколі ня жыў. Па веры жыў. А па правілах - ну іх да чорта. Вера ж у яго была нейкая свая: у боскую волю, ды ў самаго сябе. Ды яшчэ ў сьмерць, якую ён не аднойчы бачыў, ды ў каханьне, аб якім заўсёды марыў. Ня густа. Але ж каханьне ён паймеў. Зь ім прыйшло ўсё - цэлы сусьвет. Астаецца толькі, каб прыйшла сьмерць. Ды ж яна ня йдзе - бо на яго забылася. То і добра. Зараз ня вельмі зручны час для яе. Ён легка пераскочыў цераз падваконьнік і апынуўся ў вялікай зале. Былі часы, маёнтак стаяў амаль некрануты, ды ж час бурыць усё, нават Памежжа не пазьбегла гэтакай долі. Задраўшы галаву, Міхась убачыў кавалак шэрага небу, ды абгрызанае кальцо муроў. Але ж мармуровыя пліты пад нагамі выглядалі проста адвечнымі. Непарушальнымі, непадуладнымі разбурэньню і часу. Ён упэўнена прайшоў у далёкі куток залы, дзе яны рабілі невялікі ўхіл уніз. Ён памятаў, што там быў уваход ў падземны пакой праз капліčку. Там ён знайшоў гэта пасланьне - адрэсаванае менавіта яму. Хутка скочыў у правал, потым знайшоў ступенькі і спусьціўся па іх. Ён ня ведаў, што ён шукае. Але ж нешта цягнула яго туды ізноў. Запаліў сьвячу. Сьвет вылучаў па асобку трывалую, моцную кладку сьценаў, строгія панэлі нішаў, аркі пад сьвечы ды факелы. Здаецца, тут калісьці была вялікая бібліятэка. А дзе бібліятэка, там і кнігі. Дзе кнігі, там інфармацыя. Калі Фенрыр - яго далёкі продак, то ў старажытных кнігах павінны хавацца нейкія таямніцы, якія дапамогуць яму знайсьці верны сродак барацьбы супраціў ваўкалака. Бо ж ён з ім адной крыві, і тое значыць - знайсьці сродак супраць самаго сябе. Адной крыві, але ж як далёка разьвялі іх шляхі. Той поўнасьцю страціў усё чалавечае, а ён наадварот, адрокся ад усяго жывёльнага, ваўчынага. Разбазарыў дзедаўскі скарб. Нармальны такі нашчадак. Але яму такія скарбы не патрэбныя, вялікі дзякуй.

Міхась прайшоў крыху далей, туды, дзе зала рабіла круты паварот убок. Прайшоў у яго, і ўбачыў нешта накшталт палічкі, на якой – о, дзіва! – ляжаў невялікі таўставаты фаліянт у шурпатай скуранай вокладцы. Чорная, пакрытая выпуклымі знакамі, скура несла на сабе прыкметы шматчасавога карыстаньня. Было бачна, что кнігу чыталі. Нават – зачытвалі.

Ён асьцярожна працягнуў да тома руку. Удыхнуў паветра. Ніякага паху, які б паказваў на атруту, ніякіх прызнакаў пасткі. Усё чыста.

Ён падыйшоў, і узяў кнігу. Адчыніў. Гатычныя літары, шэражоўты пергамент. На першай старонцы – надпіс ад рукі вульгарнай лацінай: “Каханьне перамагае сьмерть”, - прачытаў ён. Ён закрыў кнігу, і палажыў яе ў скураную наплечную сумку, сьцягнутую поясам. Трэба ісьці. Здаецца, тое, што ён шукаў, ён знайшоў.

Але ж раптам пачуў, як валасы на яго скуры сталі дыбам. Нейкі злавесны холад хваляй накрыў яго, напаўзаючы аднекуль зьпераду праходу, з глыбіні склепа. Яму здавалася, там нічога няма, толькі нізкі звод сьцяны. А вось, глядзі ты!

Павольна ён узьняў вочы. Ён ужо ведаў, каго ўбачыць перад сабой.

Перад ім стаяў Фенрыр.

На ім ня было звыклага плашчу. Белая кашуля, пацёртая чорная куртка, паверх – панцыр. Чорныя валасы сабраны абручом на ілбе. Твар хавала металёвая маска. Ён выглядаў ужо даволі дасканала ваплаціўшымся, рэальным. Зусім ня бясплотны дух. Агнявыя вочы пранізьліва зьзялі праз вачаніцы стальнога твару.

- Яшчэ ня час табе прыйсьці сюды. Да таго ж, аднаму, - кінуў ён. – Але ж ты ўсё ж такі не паслухаў мяне, і з’явіўся. Я выставіў табе ўмовы. Ты ж парушыў наш дагавор. Што ж, справы зараз пойдуць вельмі дрэнна. Перш – для цябе. А што будзе потым, ты не даведаешься.

З гэтымі словамі ён хутка выкінуў наперад руку ў металёвай пярчатке. Міхась увярнуўся, і сцяну за яго сьпіной апаліла чорным полымем. Хуткім рухам ён здолеў выхапіць палаш,

шкадуючы, што ня ўзяў кароткі меч накшталт нікадымава. Гэта было памылкай. Ён потым ужо зразумеў гэта, але збочваць з пуці не хацеў. Трэба неяк выманіць яго наверх, - мільганула думка. Раптам ён пачуў нейкі гук ззаду, з боку уваходу.

- Каго гэта яшчэ трасца прынесла? – падумалася яму.

Фенрыр напружыўся, і на імгненьне сгубіў увагу. Усё адбылося маланкава хутка. Вялікі цёмны цень з-за міхасёва пляча выляцеў наперад, і ўсей сваёй вагой абрушыўся на Фенрыра, які ад нечаканасьці скалануўся, рухануўся назад і пахіснуўся. За гэтыя долі хвіліны Міхась здолеў убачыць, што атакаваў чалавек. Амаль голы, толькі рэшткі ваўчынай шкуры закрывалі плечы. Але ж ён рухаўся звышнатуральна падобна да ваўка. Атакаваў з драпежнай лютасьцю і хуткасьцю, быстра адскокваў, і ізноў нападаў. Здавалася, Фенрыр не чакаў такого напору. Ён пачаў адступаць назад, у цемру. Раптам ён хутка выкінуў наперад руку, і плячо нападаючага абпэкла яшчэ адна маланка, але ж скура дапамагла, зьмягчыўшы чараўніцкі ўдар. Чалавек-воўк адскочыў, і Міхась пазнаў яго.

- Ульвар! – крыкнуў ён. - Трымай! – з гэтымі словамі ён кінуў яму кнігу. – Бягі!

Ульвар зразумеў, схапіў фаліянт, як маланка перакруціўся, кінуўся да выхаду і праз імгненьне зьнік. Міхась толькі зьдзівіўся яго хуткасьці. Ён бы ніколі з яго ростам і вагой ня здолеў бы выкінуць такія фокусы. Але ж у той момант як Ульвар зьнік, для яго адкрылася месца для атакі, і ён рэзка выкінуў наперад палаш, які секануў паветра як раз проціў жывата Фенрыра, гучна ударыўшы яго па панцыры. Наступным ударам Міхась амаль што ня трапіў яму ў шыю, і праз імгненьне пэўна разрубіў бы яго напапалам, але ж той раптам рассыпаўся перад ім, як чорны цень, і зьнік.

Міхась плюнуў.

– Ізноў ушоў, сабака ваўчыная, з-пад самага мяча. Проста з-пад рукі зьнік.

Але ж ён разумеў, што на гэты раз бойка скончына. І, на жаль, Фенрыр не забіт. Ды кнігу ён з дапамогай Ульмара здабыў. Міхась аглядзеўся, і хутка адыйшоў да выхаду са склепу.

Выйшаўшы на паверхню, ён са здзіўленьнем убачыў Ульвара. Той нікуды ня дзеўся, бо пільнаваў выхад.

- А, гэта ты! – радасна кінуў ён, працягваючы Міхасю руку. – Здароў, воўк які чалавек!

- Ну, здароў, чалавек-воўк! – таксама гасьцінна павітаўся Міхась. Лепш позна чым ніколі.

-А што ты тут рабіў, дазволь пацікавіцца? Дарэчы, дзякуй за дапамогу. Яна мне была дужа зручная.

- Да я так, міма праходзіў, - ашчэрыўся той. – Ішоў за табой ад самаго кургана. Калі ты там крычэў, як рэзаны. – Фенрыр, Фенрыр, - перакрывіў ён, і расьсьмяяўся.

- Ну, крычэў, была, - пагадзіўся Міхась. – А чаго ты за мной сачыў?

- Да так, цікава мне было, куды ты пойдзешь. Рагнарёку ўсё няма, а тут хоць нешта. Нештачкі.

- Нічога сабе нешта, - здзівіўся Міхась. – Ты хоць разумееш, з кім ты зараз махаўся?

- Нейкая пачварына ў маске, - выскаліўся той. – Дужа трусьлівая, як я бачу. Толькі і можа, што выкарыстоўваць забароненыя каўдунскія прыёмы ды зьнікаць у апошні момант.

Міхась паціснуў плячыма.

- Ну да, ў яго такая тактыка, - вымавіў ён. – Але ж Фенрыр далёка не такі просты. Ў яго шмат часу, і вельмі шмат магічных

здольнасьцей. Ды яшчэ адна рэч… Я табе хачу сказаць, што мы лёгка аддзелаліся. Але што ж, пашанцвала. А можа, сёньня не яго дзень. Ды мы яшчэ з ім сустрэнемся, нажаль. Баюся, што не адзін раз.

- Ну, значыць яшчэ павесялімся, - спакойна заўважыў Ульвар. – А зараз што будзем рабіць?

- Пойдзем да хаты, - прапанаваў Міхась. – Нешта я стаміўся, дзень быў досыць доўгі.

І яны пашпацыравалі праз лес да вёскі.

Ля стаянкі берсеркаў Ульвар і Міхась разьвіталіся, паціснуўшы рукі. На пабачэньне Ульвар запытаў:

- Скажы, а што тут з жаночым полам?

- А што табе трэба? – узьняў брыво Міхась.

- Ды вось той ваш, чорны такі, калматы, сказаў, што нікога няма акрамя русалак ды кікімар. Я вось бачыў нейкую фейрі з доўгімі чорнымі валасамі. На кікімару ўвогуле не падобная. І на русалку, бо шчыльна адзетая з ног да галавы.

- Забудзь, - па-сяброўску прапанаваў Міхась. І парадаваўся, што забараніў Летыцыі купацца раніцой у крыніцы ў начной кашулі. Ды і халодна ўжо стала, на шчасьце.

- А, ясна. Твая жанчына. Разумею. – У голасе Ульвара гучэла сумесь разчараваньня і зайздрасьці.

- Мая, - коратка адказаў Міхась. – Бывай! Дзякуй яшчэ раз. Той махнуў прыветна рукой, і зьнік паміж маладых елак.

Міхась з кнігай пакрочыў да хаты.

# ГЛАВА 31 : Таямніцы ваўкалачай кнігі

- Нікіфар, ты дужа пісьменны? – запытаў заклапочана Міхась.

- Ну троху, - адазваўся той. - А што?

- Ды так, рэч адну знайшоў. Цікавую. Давай, глянем.

- Ну, давай.

Яны паселі за сталом у сьвятле сьвячы.

Кніга ляжала перад імі, невялічкі том у чорнай скураной вопратцы на жоўтай, выскрабенай паверхні драўлянага стала.

Нікіфар асьцярожна ўзяўся за край, адкрыў яе, і ўтаропіўся ў першую старонку.

– Літары, - вымавіў ён.

- Ага, - здзекліва адказаў Міхась. – Бачу, што літары. А што напісана?

- Нештачкі, - падумаўшы, адказаў Нікіфар. – Ды што ж гэта за мова? Іўрыт ведаю, лаціну ведаю, грэцкі ведаю. Руны, і тыя ведаю. А гэта што?

- Дайце мне глянуць, - сунуўся Якім. – І раптам зарагатаў. Дурні вы дурні непісьменныя. То ж стараславянская мова, глаголіца. Ды яшчэ з рунамі ўперамешку. Дужа ж старая кніга. Яшчэ да хрышчэньня напісаная. У Македоніі. Грэцкай Македоніі гэдак пісалі.

- А ты адкуль ведаеш? – здзівіўся Міхась.

- Ды я там быў, - проста адказаў Якім. – А што?

- А… нічога, - працягнуў Нікіфар. – Дужа ты стары, як я пагляджу.

- Ня верыш. Не давяраешь, - пакрыўджана заўважыў Якім. – Дарма. Гэта вы малакасосы, а мне ўжо болей за тышчу гадоў.

- Ну ўсё, аксакал, - зарагатаў Міхась. – Раз так вумны, то чытай.

- І прачытаю, - надзьмуўся Якім. Разгарнуў старонку, і пачаў, старана вымаўляючы па складах:

"У старажытныя часы было адно царства, у зямлі далёка ад мора, можа тры дні дарогі на добрам кані, калі ён ляціць, як вецер. Схаванае ў высокіх гарах, горда глядзела яно на землі раўнінаў, і яго жыхары лічылі сябе роўнымі арлам і самім Багам.

Мужчыны гэтага царства былі мужнымі і непераможнымі ваярамі, а жанчыны ўражвалі сваёй прыгажосьцю і мудрасьцю.

Але ж не было ім спакою ад жыхароў раўнін, якія імкнуліся авалодаць іх багацьцямі.

Аднойчы сын высокага князя той зямлі паляваў у лясах на раўніне, ды быў вераломна атакаваны атрадам суседзей, ад якіх здолеў аднак адбіцца. Цяжка паранены, ён зваліўся з каня ў лесе, і страціў прытомнасьць.

Калі ж праз некаторы час ачуняў, то ўбачыў, што ён ляжыць на сухім моху ды лісьці, а раны яго добра загоены.

Ён хацеў падзякваць за дапамогу, але ж нікога вакол не было, толькі вялікая чорная ваўчыца глядзела на яго чалавечымі вачыма.

Некалькі дзён яна даглядала яго і прыносіла ежу, і ён зусім

ачуняў.

Калі прыйшла пара разьвітвацца, ён запытаў яе, чым можа аддзякваць за спасеньне свайго жыцця. І яна адказала яму чалавечым голасам, што ёй нічога ня трэба. Хай толькі паабяцае, што ні ён ні яго народ ня будуць забіваць ваўкоў у навакольлі.

Ён паабяцаў ёй, што гэта здзейсьніць, і сышоў.

Не было сканчэньня вялікай радасьці, калі ён зьвярнуўся да дому. Ён апавядаў сваю дзіўную гісторыю, і з тых часоў яны ніколі ня крыўдзілі ваўкоў, і ваўкі не палявалі ў іх уладаньнях.

Аднойчы вартавыя ля брамы горада заўважылі вялікую чорную ваўчыцу з чалавечымі вачыма. Яна несла нешта ў сваёй пашчы, палажыла яго на зямлю ля брамы, разьвярнулася, і пабегла ў лес.

А потым вартавыя пачулі дзіцячы плач. Гэта была пара блізьнят, цудоўнай прыгажосьці немаўлята з чорнымі як ноч валасамі і смуглай скурай. Яны аднесьлі іх да цара, і ён загадаў выхаваць іх як сваю родную кроў.

Ішоў час, і хлопчыкі расьлі разумнымі, дужымі і сьмелымі, ды незвычайна прыгожымі. Прыйшоў час ім абраць нявест. Два браты пасваталіся да адной высакароднай дзяўчыны, якая мела незвычайную прыгажосць і розум. Яе доўгія чорныя валасы зьзялі як неба зорнай ноччу, стан быў падобен калоне, на якую аперлася Багіня, а скура нагадвала ляпёсткі лілеі.

З двух братоў яна абрала аднаго, таго, хто акрамя дзеяньняў у ваярскай справе вылучаўся добрым сэрцам і мяккім норавам.

Бо так вырашыла яна для сябе.

Але ж другі брат, больш ваяўнічы і жорсткі, таксама ў яе закахаўся. Жарсьць ахапіла яго, ён пераўтварыўся ў вялікага ваўка, ды кінуўся за ёй, і яна пабегла да мора, бо болей ня бачыла паратунку. Малодшы брат таксама перакінуўся ў ваўчынае аблічча, ды кінуўся за імі ўсьлед, каб спыніць сваю кроў ад забойства.

Ня бачучы выйсьця, дзяўчына скочыла са скалы ў мора, дзе яе падхапіла Багіня і вынесла на далёкі востраў з цудоўнымі палацамі, і добрым і мудрым народам, які як раз жадаў абраць каралеву.

Малодшы брат забыўся на старэйшага, і кінуўся ўсьлед за каханай. Ён таксама даплыў да вострава, дзе перакінуўся ў чалавека.

Старэйшы жа брат пабаяўся марской вады, бо ж ваўкі ня любяць плаваць, і застаўся на беразе.

Ішоў час, і ў маладога цара і царыцы нарадзіліся блізьняты. Адзін унасьледаваў уладу на воставе, а другога адправілі ў горад над гарой, дзе ён правіў доўга, ад веку. Але ж прыйшлі жудасныя часы, калі гнеў Марскога Бога разрушыў востраў, дзе правіў адзін з братоў. Ён сабраў рэшткі свайго народу, і зьвярнуўся да зямлі сваіх дзядоў высока ў гарах, дзе мора б ім ніколі не пашкодзіла. З тых пор горы і лясы сталі домам іх роду, і заўсёды ў ім нараждаліся блізьняты, адзін зь якіх абіраў жыццё ваўка і славіўся жорсткасьцю, хітрасьцю і каварствам, а другой абіраў шлях чалавечага жыцьця. Але ж мог таксама перакідвацца ў ваўка, ды яму была паложана мяжа ў тры разы, пасьля чаго ён станавіўся ваўком назаўсёды. І так было суджана ім, што браты заўсёды біліся паміж сабою, але ж ніколі не маглі перамагчы адзін аднаго. Гэта было пакараньне багоў, але ж за што, тое ніхто ня ведаў.

Так і пайшоў гэты род па зямлі, і стаў пладзіцца ды множыцца.

Тыя, хто меў больш зьвярыную натуру, станавіліся ваўкамі, ваўкалакамі, пярэваратнямі ды чараўнікамі. Другія ж абіралі шлях вайны, але ж утрымоўваліся, каб перакідвацца, бо ведалі паданьне. Але ж і іх вылучаў зьвярыны нораў, ды нязвычайныя здольнасьці і моц звыш чалавечай, а таксама ваўчыная лютасьць і прага крыві і забойства. Таму нашчадкі гэтага роду палучылі мянушку Дзікіх. І так і пайшло з даўніх часоў, што род гэты панаваў і заліваў зямлю крывёю, хоць Багіня і даравала ім надзвычайнае пачуццё прыгажосьці і жарсьць звыш той, што здольна несьці чалавечае сэрца.

Многія спрабавалі забіць небясьпечных паўлюдзей-паўваўкоў, але ж сродка ня мелі".

Далей нічога было не прачытаць, бо літары былі густа заліты крывёю.

Але ж было толькі бачна імя, ды два апошнія словы:

... воля Багоў.

Яны слухалі Якіма як мага ўважліва. Але ж напрыканцы схамянуліся. Тое, што было Міхасю найбольш патрэбна ведаць, здабыць ён ня здолеў. Але ж пачуў дастаткова.

...Воля Багоў...

Гэтыя словы гучэлі ў яго вушах, калі ён пакінуў іх, седзячых за сталом за працягам гаворкі.

Ён стаміўся. Трэба адлажыць усё да заўтра. Трэба пераспаць з гэтым, і раніцой ён будзе ведаць, што рабіць далей. Ці Багі нешта адкрыюць яму. Чорная восеньская ноч ахутвала зямлю. Было ціха-ціха, толькі шапацела, падаючы, апошняе лісьце. Сьвятло смалякоў высьвечвала невялікі круг пажухлай травы

перад ганкам, ды ўсё вакол хавалася ў змроку.

- Зусім як у чалавечым розуме, - падумаў Міхась. - Колькі мы яшчэ ня ведаем. Колькі нам яшчэ трэба даведацца.

Наступным днём яны працягнулі чытаньне.

"Так жылі яны на гэтай зямлі, на якую прыйшлі са спрадвечных часоў, і слава іх роду ішла далёка. Далёка расьсяляліся яны па зямлі, і дайшлі да бязьмежнага халоднага мора, якое амывала векавыя дубовыя лясы. Раку, на якой яны паўсталі, назвалі яны Кронан, а другую вялікую раку - Рубон, бо гэта быў рубеж, дзе яны рубіліся з паўдзікімі жыхарамі гэтых мясьцінаў. Адно за адным падпарадкоўвалі яны месныя плямёны, якія прымалі іх верхаўство над імі.

Далёка быў вядомы таксама іх звычай перакідвацца, альбо ператворвацца ў ваўкоў, і ў такім выглядзе тварыць неверагодныя дзеяньні, спустошаньні і разарэньні. Дарэчы, зьвярыная іх прырода з цягам часу пачала турбаваць і іх саміх, і найвышэйшай павагай у іх карысталіся чараўнікі, якія мелі над ёй уладу, і такім чынам маглі ўладаваць над астатнімі. Таямніцы ўтаймаваньня гэтай ваўчынай прыроды трымалі яны сакрытымі.

Але надыйшоў час, і паступова землі, на якіх жыў гэты славуты род, пачалі схіляцца пад уладу крыжа. Адна за адной прымалі яны новую веру, і іх магутныя ўладары схілялі галовы перад Яго веліччу. Іньшыя ж не скараліся, сыходзілі ў густыя бары альбо гінулі, так і не пахіліўшыся крыжу. З гэтага часу сярод роду пайшло разьмежаваньне на тых, хто прыняў крыж, яго веліч і моц, і тых, хто яго не прыняў. Але ж усе яны жылі мірна і разам, і не хадзілі вайной адзін на аднаго.

Так ужо павялося на гэтых землях, што духоўная веліч крыжа зьзяе над імі, і анёльская і апостальская міласьць захінае іх

сваім магутным белым крылом.

З гэтымі словамі Нікіфар пакрывіў твар, нібы нешта кіслае зьеў. Міхась жа ўважліва слухаў.

Я, няшчасны патомак гэтага славутага роду, які многа год адмольвае грахі продкаў, пішу гэта, каб папярэдзіць.

Цемра згушчаецца вакол. Цемра паўстае над намі. Тое, што ёсьць ніз, хоча стаць верхам. Яно паўстане супраціў усіх свабодных, тых, хто можа жыць па ўласнай волі, і праглыне іх. Вялікі Дракон з Цемры і яго легіёны ўжо прыгатаваліся, і толькі ждуць зручнага часу. Калі гэты час наступіць, то мне невядома, але ж я хачу папярэдзіць. Будзьце пільнымі, і пазнайце Яго ў многіх абліччах, што прыйдуць і з заходу, і з усходу, і ў дні, і ў начы. Бо Дракон баіцца Крыжа, які працінае яго ў бездані. Але ж калі мечаносны крыж будзе ўзьняты, то вызваліцца і дракон, каб пасьць у апошняй бойцы.

І тады наступіць яго Смерць - вялікая міласьць. Наступіць на яго і навечна ўкіне ў Пекла, дзе яму і месца на вечныя векі, і ў векі вякоў.

Я ёсьць той, хто запісаў гэтыя словы, пакуль маю мой час. Я ўжо адчуваю подых дракона і яго цяжкую хаду, і таму хачу папярэдзіць".

"Адзіным сродкам супраціў яго" ....тут буквы змазаліся і абарваліся.

А ўнізе вульгарнай лацінай было ізноў напісана:

Amor vicet mort

Каханьне перамагае сьмерць.

- Больш загадак чым разгадак, - прабурчэў Нікіфар.

- А мне ўсё зразумела, - кіўнуў Міхась.

# ГЛАВА 32 : Цемра набліжаецца

Ізноў ён прыйшоў, калі яна ўжо спала. Ужо каторы раз ён так зьвяртаецца. Столькі справаў з вартаваньнем мяжы, ды яшчэ гэта. Ён не хацеў ні называць, ні ўспамінаць пра Гэта, але ж яно ня йшло з галавы. Усе яго духоўныя і фізічныя сілы былі прысьвечаны яму. Учора Фенрыр здолеў сыйсьці ад яго. Ён разумеў, што ловіць бясплотны дух, цень. Які можа памець форму у любым месцы і ў любы момант. Гэты амулет, трасца яго вазьмі, як жа пазбавіць Фенрыра гэтай магічнай абароны?

Як сказаў Нікіфар, больш загадак, чым разгадак. Ну што ж, будзем адгадваць загадкі. Ня ў першы раз. Ён ведаў, што калі доўга стукаць, дзверы абавязкова адчыняцца. Ці разваляцца. Але ж ён не адступіцца.

Ён не запальваў сьвятло, так і стаяў у цемры ля вакна. Шыракаплечы чорны сілуэт на цёмным фоне. Цяпер акрамя фізічнай сілы яму было патрэбна нешта іншае. Яму здавалася, ён вось-вось здолее гэта намацаць. Што ёсьць у яго, чаго няма ў Фенрыра? Каханьне. Да яе. І яе - да яго. Таму ён значна мацнейшы. Удвая. Фенрыр ніколі ня здолее яго перамагчы.

Ён падыйшоў да ложку, і лёг побач зь ёй.

Яна мірна спала. Спакойна дыхала. Кожны раз, калі ён глядзеў на яе, ён ня верыў, што яна тут, зь ім. Ён ціха крануў далоньню яе мяккія валасы. Пяшчотна пагладзіў. Потым ня вытрымаў, і крануў іх губамі. Потым яшчэ, і яшчэ. Потым крануў яе шыю. У каторы раз уразіўся яе незвычайнай прыгажосьці, яе хрупкасьці, вытанчанасьці. Яна павярнулася да яго, не адчыняя вачэй, у паўсьне, і абняла. Прыціснулася да яго шырокіх грудзей сваімі і

схавала твар у яго на плячы. Ён адчуў, як скаланаецца, напружваецца яго цела. Яе мядовы пах кружыў яму галаву. Ён асьцярожна палажыў яе на сьпіну, і апусьціў твар між яе грудзей, удыхаючы водар яе цела. Яе цела таксама мела смак мёду. Ён увабраў губамі яе мяккую скуру, і яна застагнала. Потым яшчэ, і яшчэ. Потым ён трымаў яе стройныя сцёгны, і яго губы апусьціліся ніжэй. Яе дыханьне стала глыбокім, яна стагнала ўсё грамчэй, і ён не спыняўся, пакуль яна не выгнулася дугой у яго руках, і тады ён увайшоў у яе. Яе цела білася пад ім, адзываючыся на яго рухі, усё больш хуткія і глыбокія. Нарэшце з апошнім яго рухам яна ціха ўскрыкнула, але ж гэты крык празвучэў для яго, быццам увесь сусьвет. Ён апусьціўся на рукі, і прыпаў да яе вуснаў, закрываючы яе рот губамі, і яна прыціснулася да іх сваімі, быццам бы жадала выпіць апошнія кроплі вільгаці, зьнямагаючы ад смагі. Апошнія кроплі яго крыві. Ён быў гатовы аддаць ёй усё, усю сваю кроў, усё сваё цела, толькі ёй адной. Ён сам сабе болей не належыў. Яго мышцы нагадвалі нацягнутыя канаты, па целу беглі быццам разрады тока.

Яе тонкае мяккае цела пад ім пазбаўляла яго розуму. Сваім цьвёрдым, напружаным жыватом ён адчуваў яе мяккую плоць. І зноў. І зноў. Ён уваходзіў у яе усё глыбей, і нарэшце скончыў другі раз. Яна ляжала з закрытымі вачыма, твар быў запракінуты, вусны цяжка дыхалі, і яе стогн супаў зь яго амаль звярыным стогнам. Але ж у самы апошні момант ён зьмяніўся на крык болю, у якім асалода зьмяшалася з пакутай, і тут ён убачыў, як на яе сьцягне праступае крывавымі рысамі руна Брамы. Яе глыбокі стогн, яе адчайны крык быццам бы сплёўся зь нечыім яшчэ глухім рычаньнем, якое пракацілася як далёкая навальніца.

У гэты жа момант ён нібыта апынуўся ў целе Фенрыра, і адчуў яго жаданьне. Дзікае. Няўтаймаванае. Супрацьпрыроднае. Яго сьвядомасьць памутнела, нібыта нечы чужародны розум спрабаваў пранікнуць у яе. Ён быў сабой і адначасова ня быў. Востра ўявіў сабе ўсе яго думкі, яго прагу, яго адчай. Фенрыр не мог задаволіць сваё жаданьне ў фізічным целе, таму прагнуў гэтага праз яго.

Праз цемру ён бачыў пульсуючую вену на яе тонкай белай шыі. Яна запракінула галаву, вочы яе былі паўзаплюшчаны, здавалася, яна не разумее, дзе яна і зь кім. Але ж на яе твары не было жаху. Болей таго, на ім было жаданьне. Жаданьне экстазу на мяжы сьмерці. Ці нават жаданьне смерці ад яго пацалуя. Ён нахіліўся да яе, і прынік да яе шыі губамі, разумея, што можа не спыніцца. Як ён ня змог спыніцца тады, у той першы раз у яе кватэры, калі жыццё іх абодзьвух раптам набыло кардынальныя зьмены ды новый сэнс.

Але ж ён ня мог, проста болей ня мог трывацца.

Яе мускусны пах пазбаўляў яго розуму. Ён адчуваў, як пад яго губамі яе скура наліваецца крывёю, і разумеў, што гэта - усё.

Раптам нейкая сіла адкінула яго ад яе. Раптоўна ён хутка выпраміўся. Яго розум быў чысты. Яна ляжала перад ім, як прыгожая зрэзаная кветка. Аднак яна была жывая. На яе шыі не было крыві, толькі цёмная барвовая пляма ля ключыцы. Ён ня здолеў гэта зрабіць. Ня ведаў, якая сіла ўтрымала яго, але ж падзякваў ёй, і ўсім сілам і Багам, што ўтрымалі яго ад забойства. Спаць ён болей ня мог. Ды і ўжо пачынаўся ўсход. Але ж зараз ён ведаў, што ён зробіць і як.

Наступным днём перш за ўсё ён заклікаў да сябе Ганну.

Першае, што ён павінен быў зрабіць - гэта абараніць Летыцыю ад яго самаго. Фенрыр болей не наблізіцца да яе праз яго. Гэта ён выключыць.

Ён загадаў Ганьне прыняць поўную апеку і назіраньне за ўсім, зьвязанным зь ёю. Ён ведаў, што яна знае, як гэта зрабіць, і зробіць добра. Сам жа ён прыме на сябе абавязак поўнага

кантроля мяжы і ўсіх сумежных тэрrыторый, разам з Нікіфарам, дзеля чаго яны перамесьцяцца ў лясны лагер, каб мець больш мабільнасьці. Што датычыцца Фенрыра і маёнтка, ён ужо зразумеў, што чым далей ён будзе трымацца ад іх і ад Летыціі, тем лепей для ўсіх. Гэта яго энергію Фенрыр выкарыстоўваў для ўвасабленьня. Праз яго ён прыходзіў да яе ў сны. Праз яго ён, Фенрыр, набываў моц, і гэта праз яго ён ледзьве не забіў яе. Бо ж гэта адна кроў бегла па іх жылах, і частка Фенрыра была неад'ёмнай часткай яго самаго. Таму чым далей ён будзе ад іх абодзьвух, і ад яе, і ад яго да назначанай даты, тым лепш. Хай пачвара папакутвае. Ён крыва ўсьміхнуўся. Нічога. Ён вытрымае.

І яшчэ ў ім цеплілася думка, а можа... можа папрасіць дапамогі Багоў? Ці, канкрэтней, яе. Мары. Калі ён падумаў аб гэтым, яго аднначасова кінула і ў жар, і ў холад. Безумоўна, яна ведае, і яго нязначнае ў яе ўяўленьні супрацьстаяньне з Фенрырам усяго лішь адзін з эпізодаў, ня вельмі варты ўвагі.

Так, ён адчуваў яе прысутнасьць

ва ўсім гэтым. Але ж... Ён ніколі ня зьвернецца да яе з просьбай.

Як бы ён сябе адчуваў, калі б быў вымушаны прасіць яе, жанчыну, аб дапамозе?

Нават гэтая думка была яму прыкрай. Хай яна думае, што круціць яго лёсам, як хоча. Хай насалоджваецца. Але ж ён ніколі не скарыцца ёй. Ён будзе вырашаць свой лёс сам і браць адказнасць за іньшых. А калі багам гэта даспадобы, хай дапамагаюць.

З кастроў у гару цягнуўся пахучы смаляны дым. Надвор'е было нават цёплым, лес - празрыстым, агаліўшымся. Сьветлым. Трэба праехацца, паглядзець наваколье. Ды і галаву таксама праветрыць ад думак. Ён звыкла ўскочыў у сядло чорнага высокага жарабца, якога трымаў для такіх выпадкаў. На

другога, шэрага, сеў Ульвар. Лес праглынуў вершнікаў і атрад суправаджэньня, і ізноў заціх.

# ГЛАВА 33 : Руна Патрэбы

Дзіця мірна спала побач зь ёю. Яе доўгія валасы раськінуліся па падушке, дыханьне было ціхім і спакойным.

І ў сьне яна нібыта глядзела на немаўля, якое пасапвала, сніўшы свае анёльскія сны.

Ён стаяў, замілаваны гэтай карцінай, і не адважваўся абудзіць яе. Потым асьцярожна пакінуў пакой, ціха зачыніў дзьверы, і зрабіў знак рукою Ганьне, каб яна прасьледвала за ім.

У вялікім прыўходным пакоі ён запытаў яе:

- Ты ўсё зрабіла, як трэба?

- Так, - адказала яна. - Як ты загадаў.

- Добра, - адказаў ён. - Ты ёй сказала?

- Пакуль не, але абавязкова скажу.

Ён кіўнуў.

- У нас шмат справаў. Будаўніцтва працягваецца. Мне трэба зьезьдзіць паглядець, як ідзе праца.

Якім увесь сышоў на нішто, калі даведаўся аб плянах Міхася будаваць замак - Замак! - крычэў ён - у яго любым лесе.

І што, што замак. Колькі яны яшчэ будуць жыць у яго хаце? Часткова яны зрабілі ўжо гаспадарчыя пабудовы, ды вежу жылога крыла, але ж яшчэ трэба было зрабіць умацаваньні. Таму працы была прорва. І народу нагналі столькі ж. Навезьлі камянёў ды леса, і пачалі будову.

Якімаву хату ён таксама пашырыў, дабавіўшы да дому крыло.

Той, канешне, быў ня супраць, толькі за.

Навакол усё было пакойна, нямногія нячысьцікі шарахаліся ад іх дзейнасьці як ад якой хваробы.

Ды і атрад берсеркаў не дарма харчаваўся. Русалак праўда падцягнулася. Ну на гэта ён махнуў рукой.

У маёнтку ён не бываў, Фенрыр ніяк не праяўляўся з таго апошняга разу, калі праявілася руна Брамы.

Праўда, у самы адказны момант зьявіўся Нікадым. Ён быў амаль гатовы яго забіць, але ж між імі паўстала Ганна. З цягам часу ён прывык ёй давяраць і ў важных справах. Яго часта ўражвала яе жыццёвая мудрасьць, яе інтуіцыя, якія хаваліся за вобразам простай сялянскай жанчыны.

І ў гэтым складаным пытаньні ён палажыўся на яе. Дзіця Нікадыма не магло заставацца тут. Гэта было выключана. Яго ўвогуле мала цікавіў яго лёс. У Летыцыі застанецца толькі адно дзіця - яго родная кроў. І яна хутка суцешыцца. Нічога страшнага. Ён будзе абараняць іх ад усіх. Яму ўжо нават здавалася, што Фенрыр некуды зьнік. Што вельмі добра. Трэба наладжваць сувязі з людзьмі з-за мора. Южнага, ды Паўночнага. Трэба расшыраць дзяржаву. Браць усё ў свае рукі. Ён раптам здзівіўся сам сябе. Дзяржаву? Якую дзяржаву? Але ж хто яго ведае. На ўсё воля Багоў.

Ён разьвярнуў каня ў бок лесу, каб ехаць глядзець будоўлю, але ж раптам конь захрапеў, і ў дзікам жахе ўзьняўся на дыбкі. Перад ім стаяў Фенрыр.

- Ты? Я думаў, ты даўно праваліўся ў пекла, - кінуў Міхась, ледзьве ўтрымаўшы адзічэлага каня. - Што табе трэба? Адзін мой заклік, і тут будзе натоўп берсеркаў. Ды я не хачу пазбаўляць сябе асалоды забіць цябе сам.

- Што мне трэба, ты ведаеш. І берсеркаў я не баюся. І цябе, - спакойна і жорстка адказаў Фенрыр.

- Заўтра. Ужо прайшоў месяц як яна нарадзіла. Я не магу болей чакаць. Сёньня яна атрымае апошнюю руну - Патрэбы. І яна сама пойдзе да мяне. Ты яе не стрымаеш. Так што сьпяшайся.

Сказаўшы гэта, ён раптам зьнік, нібы дым.

Конь дзіка заіржэў, калі Міхась рвануў яго за узду, і панёсься ў старану лагера. На хаду ён крыкнуў Нікіфару:

- Зьбірай сотню, цэль - маёнтак. І Ульвару - ты і твае людзі, заўтра з раніцы выступаеце са мной.

А потым усадіў каню плеццю, і памчаў да фальварка.

Ён ня памятаў, як уляцеў на двор, як скочыў з каня, і ўбег у дом. Крыху супакоіў сябе і ўвайшоў у пакой. Летыцыя павярнула да яго твар, бледны і пакрыты кроплямі сьлёзаў. Яна крэпка трымала ў руках дзіця, якое адчайна прыціскала да грудзей. А на шыі ў яе палала крывава-чырвоная выразаная нечым руна - Патрэба.

- Заўтра, у прыцемках, - ціха вымавіла яна, і яе твар раптам стаў далёкім і чужым.

Ён застыў як быў, палажыўшы руку на эфес мяча. Які яму зараз ніяк ня мог дапамагчы.

Яны стаялі насупраць у поўнай цемры, і глядзелі адно аднаму ў вочы.

Ён трымаў яе ў абдымках.

Яна ціха шаптала:

- Не хвалюйся за мяне. Усё будзе добра. Я ведаю. Я проста гэта ведаю. Я павінна ісьці туды. Так вырашыў лёс.

Ён яшчэ крэпчэй прыціснуў яе да сябе і адказаў:

- Гэта ён ня ведае, што вырашыў свой лёс. Проста ня думай аб гэтым. Я доўга трываў. Ты доўга трывала. Але ж цяпер я яго забью. Нікуды гэта тварына не ўтячэ.

Яна ўзьняла свой твар на яго, і ён пяшчотна пацалаваў яе губы.

Але ж тут заплакала дзіця, і яна руханулася да яго.

Ён ня стаў ёй перашкаджаць, і пайшоў спаць у суседні вялікі пакой. Ды амаль ня спаў - вартаваў яе з сынам сон, слухаў гукі ночы. Думаў аб наступным дні.

І вось гэты дзень надыйшоў.

# Фінал

Ён павольна ехаў на кані, крэпка трымая яе адной рукой. Яна сядела перад ім, схіліўшы галаву яму на плячо. Яны ехалі адны, бо яму нема чаго было баяцца на гэтай зямлі.

- Акрамя сябе – падумаў ён.

Раней ён загадаў Нікіфару быць напагатове ля маёнтка, але ж затаіцца. Ён таксама даў пэўныя загады Ульвару.

Яны жа зьявяцца адны, як ён і абяцаў Яму. Чым болей яны прыбліжаліся, тым мацней ён адчуваў Яго прагу, Яго жаданьне, Яго боль. Ён ведае ўсё, ды ён ня можа болей чакаць. Тры руны. Хель, Брама, Патрэба. Фенрыр перахітрыў сам сябе. Адчыніў Браму Сьмерці. Ён ужо ня можа не выконваць наканаванае. Лёс напаткаў і яго. Лёс напаткаў усіх іх. Зьвязаў у адзіны вузел. І яны асуджаны сустрэцца. Ён ведаў гэта, як чараўнік. Як той, хто можа вандраваць паміж тым і гэтым сьветам. Ведаў наканаванае Багамі дакладна, як дзень. Але ж нешта ад яго было сакрыта, і ён баяўся ўявіць, што. Таму сьлепа палажыўся на волю вышэйшых, якія кіравалі іх жыццём. Будзе так, як наканавана. Ні Фенрыр, ні ён ня могуць зьмяніць гэта.

Вось і маёнтак. Гатычныя шпілі супраць патухаючага ў прыцемках крывавага восеньскага неба.

Ён адчуў, як яна дрыжыць у яго руках. Не ад холада. Ён сам скалануўся, бо тут было цяжка, як у склепе. Здавалася, што нават паветра перастала напаўняць леккія жыццём. Тут болей не было жыцця. Нават крумкачы не крычэлі.

Ён саскочыў з каня, і асьцярожна зьняў яе.

Муры ўзвышаліся над імі, чорныя, як ноч яго душы. Яна абвіла

яго шыю рукамі, і горача пацалавала, але ж ён не адчуў смака яе губ. Усё правальвалася у цень. У мінулае.

Сьвета больш не было. Яго сьвета.

У адчаі ён стаяў, і глядзеў, як яе тонкая постаць схавалася ў цемры, калі яна ўвайшла ў каплічку, каб збочыць ў залу без верху, дзе яны дагаварыліся сустрэцца. Яна так вырашыла. Яна пойдзе адна, а ён будзе чакаць тут. Чакаць яе знака. Бо яна нешта ведае. Яна прасіла яго даверыцца ёй. Спачатку ён не пагаджаўся. Ён не хацеў пускаць яе туды. Але ж нешта ўпэўніла яго, што яна ведае, што гаворыць. Ведае, што робіць.

І вось ён чакаў. Ён увесь пераўтварыўся ў слых. Стаяў ля самага ўваходу, прысланіўшыся да сьцяны, і чакаў. Усё спынілася. Нават яго сэрца.

У каплічцы прагучэлі яе ціхія крокі. Потым ён пачуў, як яна павярнула да залы. Яна ўжо там.

Яна адразу ведала, дзе Ён чакае яе. Ён сказаў ёй гэта ў сьне. Яшчэ адным сьне, дзе ён прыходзіў і глядзеў на яе сваімі жоўтымі вачыма. Дзе ён жадаў яе. Яго жаданьне было звышчалавечым. Ад яго было жудасна і прыкра. Кожную, амаль кожную ноч ён проста прыходзіў, стаяў, і глядзеў. Яны бясконца стаялі ў сьне тут. У гэтай зале з абрушаным дахам. Пад пустым начным небам, на якім не было зораў. Ён зьнімаў сваю маску, і яна бачыла яго твар, прыгожы нечалавечай прыгажосьцю, і адначасова пугаючы. Твар пачвары. Твар дземана. Твар забойцы. Ён ня дыхаў, бо ня быў жывы. Але ж ад яго ішоў нейкі магнітны, гравітацыйны ток, што ня мог не прыцягваць яе. І яна трымалася. Кожную ноч. Бо Брама яшчэ не была адчынена, і яна не магла увайсьці туды, а ён ня мог выйсьці. І вось яны зрабілі крок на сустрач адно аднаму. Зблізу ён выглядаў зусім падобным на Міхася. Адна кроў – успомнілася ёй. “Мая кроў”. Ёй здавалася, што яна бачыць Міхася некалькі стагоддзяў таму – бязлітаснага ваяра, крывавага забойцу, які пакідаў за сабой горы целаў, браў жанчын у разбураных гарадах, і яшчэ раней, у

старажытныя часы, на беразе сіняга цёплага мора, і раней, у горадзе высока ў гарах, яна бачыла ўсе яго жыцці, увасабленьні. Толькі яго самаго яна не бачыла, бо яго тут не было. Яна ведала, ён чакае яе звонку. Чакае яе знака.

Ён глядзеў на Яе – жанчыну з будучага. Якую ён так прагнуў. Да якой ня мог дацягнуцца праз час. Але ж так жадаў яе. Ён быў там, калі яны кахалі адно аднаго ў міхасёвай хаце. Ён ніколі не забудзе яе цела, яе стогны, яе рассыпаныя валасы. Ён ня мог да яе прыблізіцца тады. Не хапала моцы пераадолець ахову фарпоста. І калі яны выйшлі, і рушылі да лесавіковай вёсцы, ён пайшоў за імі. Яму амаль удалося атрымаць яе. Але ж тут здарылася нечаканае. Яго вораг перакінуўся. Ён ня думаў, што Міхась на гэта рашыцца. Другі раз. Ён ведаў наканаванае. Такімі рэчамі не раськідваюцца. Але ж ён зрабіў гэта.

Дарэчы, чаму яна абрала не яго? Ён першы пакахаў яе, калі яна сядзела там, ля вогнішча ля яго пахаваньня. Яго дух лунаў побач. О, як доўга ён любаваўся ёю, яе тварам у сьвеце агню, яе пяшточнай мяккай скурай, яе валасамі, вачыма, рухамі. Ён колькі год ня бачыў такой прыгажосьці. Лес напоўнен таямніцамі. Ніколі не ведаешь, хто глядзіць на цябе праз дрэвы. Ён глядзеў на яе, і яна ня ведала.

А потым з'явіўся ён. З адной перавагай перад ім. Ён быў жывы. Каб ён быў жывы! Але ж … лёс. Лёс быў ізноў сустрэць яе пасьля сьмерці. Гэтую красуню з валасамі як ноч, з прыгажосьцю ранішняй зоркі.

І вось цяпер яна падыходзіць да яго. Дзякуй амулету, ён набыў тое цела, што так доўга чакаў. Плотнае, жывое цела. Ён ужо адчуваў, як па яго венах бегла кроў. Ён адчуваў жаданьне, якое зараз здзейсьніцца.

Летыцыя падышла да яго. Блізка. Цяжка дыхая. Ён зрабіў крок ёй насустрач, і ўзяў за руку. Прыцягнуў да сябе. Яна не супраціўлялася. Нават абвіла яго шыю рукамі. Яго сэрца шалёна калацілася. Яна адчула гэта – стук яго сэрца, якое зараз вырвецца з грудзей. Жар яго плоці. Яго жаданьне. Праз тонкую

тканіну ён адчуваў яе, і ня верыў сябе, што ня сьпіць і ня марыць. Руны на яе скуры пачалі крываточыць. Ён нахінуўся да яе шыі, і прыпаў губамі да апошняй руны – Патрэба. Наутіз. Крыж. Раптам яе рукі скальзанулі па яго шыі наверх, і яна зьняла амулет.

Ён застыў, як укопаны. Як? Як гэта адбылося?

- Пёс. Пёс, а не воўк, - пачуў ён ля вуха словы, сказаныя мяккім, абвалаківаючым голасам. – Ты мне надакучыў. Цябе чакае Дзікае Паляваньне, а не каханьне жанчыны. Твой час на зямлі прайшоў, Фенрыр.

Губляючы чалавечую форму, ён адчуў яе громкі крык.

- Міхась, - закрычэла Летыцыя, гублючы прытомнасць.

Міхась кінуўся ў залу, і на імгненьне скалануўся, убачыўшы вялікага чорнага ваўка з вачыма, як пякельнае пламя. Летыцыя кінулася да яго, і ён захінуў яе сабой, адначасова адпіхваючы ў бок. Воўк кінуўся на яго, але ж ён быў хутчэе, і пачвара упала прама на выстаўлены меч. Усё было скончана. З дзікім ровам дух Фенрыра адляцеў зь цела, каб назаўсёды пакінуць зямлю.

Ён кінуўся да яе. Яна ляжала ў непрытомнасьці. Крануў яе. Яе твар быў халодным.

- Што, што ён з табой зрабіў? Летыцыя, Летыцыя, - ён адчайна трос яе, зваў, пакрываў яе твар пацалункамі. Усё было дарма. Яе больш не было.

Сьвет спыніўся. Сонца памеркла ў яго вачах. Ён проста крычэў, стоя перад ёй на каленях.

Навошта? Навошта яна гэта зрабіла? Ён так хацеў жыць, проста жыць зь ёй. Яму болей не патрэбна было гэта жыццё.

У адчаі ён глянуў на свой меч. Што ж. Пачакай, любая. Я іду да цябе.

Упёр эфес у зямлю, і прыставіў вастрые да грудзі. Слёзы беглі па яго шчаках. Самі. Ён ніколі ня плакаў у сваім жыцці. Усё. Чарната.

Тут нехта крануў яго за плячо. Ён узьняў твар. Перад ім стаяла яна. Яго каханая. Яго мара. Яна пяшчотна ўлыбнулася, і пацалавала яго ў губы.

Ён пачуў:

- Не сьпяшайся.

І раптам яна нешта надзела яму на шыю.

Крэпкія рукі ззаду схапілі яго, ня даўшы ўпасьць наперад. Ён у шалёнстве адхіснуўся.

Але ж палучыў даволі адчувальны удар па плячу, і пачуў словы:

- Ты што, зусім звар'яцеў? Мухамораў аб'еўся? Што ты робішь?

Павярнуў твар, і убачыў Ульвара, побач з якім стаяла Летыцыя.

- Памерці сабраўся? Ня выйдзе, - усьміхнулася яна. І тут ён заўважыў у сябе на шыі амулет.

Наступнае, што ён убачыў, быў перакошаны твар Нікіфара. Але ўжо было позна.

Мара з задавальненьнем назірала за імі ў сваё любімае срэбнае люстэрка.

Яна зрабіла свой выбар.